ЛіМ
ГАЗЕТА
ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ
БЕЛАРУСІ
ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА
6 мая 1994 г. № 18 (3740) Кошт 150 руб.

# ПАКЛАЎШЫ РУКУ НА БІБЛІЮ

***Ігнат ДУБРОЎСКІ: «Не ўсе радасна сустракаюць вялікае свята Перамогі. У апошнія гады ўзнялася хваля крытыкі ацэнак Вялікай Айчыннай вайны. Адны называюць яе вайной невядомай, у тым сэнсе, што мы нічога праўдзівага пра яе не ведаем, усё, што напісана пра вайну, — хлусня. Другія не прызнаюць яе Вялікай Айчыннай».***

**5, 13**

# НА ВАСТРЫІ ЧАСУ

***Іван ШАМЯКІН: «Павінен сказаць: сапраўдных лідэраў, на вялікі жаль, у нас няма. У гэтым бяда наша. Усё-такі нацыя павінна мець свайго лідэра. Разам з тым я не магу падтрымаць і тых, хто зараз патрабуе: Вярхоўны Савет — у адстаўку, урад — у адстаўку. А з кім застанёмся, хто будзе кіраваць дзяржавай?»***

**6—7**

# АДВЕЧНЫ КЛІЧ

***Уладзімір КАЛЕСНІК: «Калі мы з Адамовічам і Брылём збіралі матэрыял для кнігі «Я з вогненнай вёскі», дык наткнуліся на дзіўную рэч: карнікі так хітра і каварна праводзілі аперацыі па знішчэнні беларускіх вёсак з жыхарамі, што партызаны не патраплялі адпомсціць злачынцам. Карнікі выходзілі непакаранымі. Алесь тлумачыў гэта маральнай недапечанасцю партызанскага камандавання ці дурной заарганізаванасцю».***

**9, 14—15**



*Імгненні тэатралізаванай канцэртнай праграмы «Манюшка на радзіме» занатаваў фотааб'ектыў В. Стралкоўскага. На першым здымку — вядомы беларускі скрыпач В. Зяленін. А на другім — польскі тэнар П. Скалуба «ў гасцях» у ... Дуніна-Марцінкевіча (артыст В. Філатаў) ды Манюшкі (В. Манаеў). Знаны кампазітар нарадзіўся 5 мая. Пра тое, як святкаваліся яго 175-я ўгодкі ў Мінску, чытайце на стар. 10.*



***3 траўня ў свеце адзначаюць як Дзень свабоды друку. Для нас гэта свята новае. Нам больш звыклая савецкая традыцыя, чым каляндар Арганізацыі Аб'яднаных Нацый. Гэта значыць, штогод прыгадваць, што 5 траўня выйшаў першы нумар бальшавіцкай «Праўды». А камуністычная партыйнасць і свабода — як кажуць, дзве вялікія розніцы. Нібыта няма сёння праслаўутага шостага артыкула Канстытуцыі, і самой той Канстытуцыі няма, але па-ранейшаму ў тым жа доме, тыя ж хлопцы вызначаюць «генеральную лінію». У тым ліку і ў галіне масавай інфармацыі. Так што пра свабоду друку гаварыць не даводзіцца — у нашых варунках добра ўжо тое, што друк на свабодзе.***

## ПАДЗЕЯ ТЫДНЯ

На мінулым тыдні пачалася і скончылася чарговая пазачарговая сесія Вярхоўнага Савета нашай краіны. Дэпутаты абралі Канстытуцыйны суд і разбегліся на вакацыі. Дарэчы, калі трэба зрабіць што карыснае для сябе, парламентарыі працуюць хутка. Цяжэй ідзе праца, калі трэба зрабіць нешта карыснае для Беларусі. Як усё апошнім часам (Канстытуцыя, выбарчы закон), Канстытуцыйны суд таксама зроблены пад Кебіча. «Першую скрыпку» ў гэтым Судзе будзе іграць дэпутат В.Ціхіня, вядомы сваім артадаксальным камунізмам і непрыманнем самой ідэі Незалежнасці Беларусі.

## ПЕРАСЦЯРОГА ТЫДНЯ

У будынку парламента Грузіі адкрыта спецыяльная камера захоўвання — для зброі. Пасля нядаўняй бойкі паміж парламентарыямі ім забаронена прыходзіць на пасяджэнні ўзброенымі.

## НАВІНКА ТЫДНЯ

Маскоўскі завод «Кристалл» асвоіў вытворчасць новага «экалагічна чыстага прадукта» — гарэлкі «Жириновский». Партрэт самога лідэра расійскіх «ліберальных дэмакратаў» намаляваны на этыкетцы. Попыт нараджае прапановы. Попыт на Жырыноўскага? Попыт на фашызм?

## КАМІТЭТ ТЫДНЯ

Час ад часу наша рэдакцыя атрымлівае лісты з Гародні, з вуліцы імя Фелікса Дзяржынскага, дзе месціцца Саюз палякаў Беларусі, ад сп. Т.Малевіча, які ўпарта называе сябе «председателем Международного комитета защиты поляков в Белоруссии» (камітэт існуе пры памянёным саюзе). Днямі ўтвораны яшчэ адзін «абарончы» камітэт. Як паведаміў друк, пры Партыі дурняў (?) створаны камітэт Абароны беларускіх неграў. На пытанне «адкуль на Беларусі негры?» прадстаўнік партыі адказаў: «Нашы негры белага колеру. Адзіная папуляцыя на Зямлі, між іншым. Усе да аднаго, па дзіўным збегу абставін, жывуць тут, на Беларусі».

## ДОБРАСУСЕДСТВА ТЫДНЯ

Міністэрства замежных спраў Беларусі атрымала ноту з МЗС Расіі, у якой паведамляецца, што цяпер паездкі ў Расію ўрадавых чыноўнікаў з замежных дзяржаў, не ўзгодненыя загадзя з расійскім бокам, будуць разглядацца як прыватныя. Няйначай надакучылі Маскве візіцёры, у тым ліку і з Беларусі?

## КОНКУРС ТЫДНЯ

1 траўня абвешчаны адкрыты конкурс на помнік Адаму Міцкевічу ў Гародні. Першая прэмія — 500 долараў. Права на ўдзел маюць скульптары з Беларусі і Польшчы. Конкурс працягнецца пяць месяцаў.

## ДАМОВА ТЫДНЯ

У Расіі адкрыты для падпісання Дагавор аб грамадскай згодзе.

## АДЛУП ТЫДНЯ

Зварот да беларускага народа, прыняты XI з'ездам Саюза пісьменнікаў, быў надрукаваны «ЛіМам» і «Звяздой» і праігнараваны іншымі сродкамі масавай інфармацыі. Затое адгукнулася «Рэспубліка» — адлупам свайго аглядальніка Яўгена Росцікава «Слово не должно разъединять».

Адсутнасць новых аргументаў на карысць аб'яднання грашовых сістэм Беларусі і Расіі, супраць якога выказаўся пісьменніцкі з'езд, супрацоўнік «Рэспублікі» шчодра кампенсуе перакручваннем сэнсу дакумента, дэмагогіяй, грубасцю і цынічнай пагардай да ўсёй гэтай «адраджэнскай брацііі».

Не стрымлівае сябе Я.Росцікаў і ў дэманстрацыі вернападданніцкага ражу: дагэтуль фразы кшталту «твердо, несмотря ни на что, ведущий страну к возрождению Кебич» саромеліся ўжываць нават самыя ангажаваныя ўрадам журналісты.

## ЦЫТАТА ТЫДНЯ

«Магутны Божа» — гэта спрадвечная размова чалавека з вечнасцю, гэта споведзь беларускае душы перад Усявышнім, гэта перапросіны даравацъ грахі. Такі гімн будзе яднаць людзей, ачышчаць душы, цяпліць веру ў дабро.

Пішу, а сам усміхаюся сваёй наіўнасці. Зноў тая ж бальшыня Вярхоўнага Савета — камуністы ці ў былым, ці ў цяперашнім і нават у будучым часе. А яны ж бязбожнікі. Камуністычны рэжым за 70 з гакам гадоў як у міксеры ўзбіваў, збіваў «новую общность — советский народ», і адпаведна мазгі й узбіваліся й збіваліся, каб стаць канчаткова саветызаванымі, блізкімі да сінтэтычных. І тут ужо не да вечных ісцін, не да Бога.

А можа, чакае камісія, што гімн будзе пісацца пад канкрэтнага чалавека, пад таго, хто стане прэзідэнтам. Пад яго ж ужо й Канстытуцыя падагнана. Хоць мясцінамі яна замінае, як таму танцору. І ён па-партыйнаму шчыра заяўляе, што паасобныя пункты Канстытуцыі, называючы яе гэтай, трэба змяніць, каб не спудзіць купца й за добрыя абяцанкі прадаць суверэнітэт Дзяржавы, імя якой Беларусь.

Дарэчы, слова рубель мае значэнне і звычайнай бярозавай жардзіны, якой уціскаюць зверху воз з сенам — каб не растрэсся па дарозе з лугу ў пуню. Воз кіраўніка нашага ўрада едзе ўлегцы, толькі падскоквае. І ўціскаць няма чаго.

А з гімнам і з пустым возам весялей бы ехалася ў чарговае светлае заўтра» (Рыгор Барадулін. «Краіна разумнікаў: абыдзецца без гімна», «Свободные новости», N 9, красавік).

## НЕДАВЕР ТЫДНЯ

Урад Італіі прыняў рашэнне спыніць крэдытную лінію для Беларусі. Мяркуецца, што італьянцы не бачаць сэнсу падтрымліваць эканамічна ўрад, які не мае сваёй праграмы выйсця з крызісу і толькі затыкае заходнімі крэдытамі дзюркі ў дзяржаўнай эканоміцы.



З нагоды

# ЗА СВАБОДУ І НЕЗАЛЕЖНАСЦЬ НАШАЙ АЙЧЫНЫ

З усяго савецкага календара бадай толькі Дзень Перамогі можна лічыць сапраўды народным святам. Мільёны людзей успрымалі яго як сваё, крэўнае, выпакутаванае. Вялікая перамога давала падставы для законнай гордасці. Аднак чым далей адыходзіў у мінулае травень 1945 года, тым болей у святкаваннях чарговых гадавін Перамогі перавparticipant жалі афіцыёзнасць, палітычная кан'юнктура (вялікімі стратэгамі абвяшчаліся спачатку Сталін, потым Хрушчоў і нарэшце Брэжнеў). І што найбольш крыўдна — святкаванне Дня Перамогі пераўтварылася ў шырокамаштабную, агульнадзяржаўную дэманстрацыю комплексу непаўнавартасці савецкага чалавека. Назіраючы, як адраджаецца пераможаная Германія, як павялічваецца прорва паміж намі і цывілізаваным светам, які, адмовіўшыся ад ідэалагічных догмаў, шпарка набіраў ачкі ў палітычным і эканамічным спаборніцтве з камунізмам, — нам толькі і заставалася што пераконваць саміх сябе і па магчымасці іншых, нібыта перамога Савецкага Саюза над Германскім рэйхам ёсць непадлягаючае рэвізіі сведчанне правільнасці «нашага» шляху і непераможнасці «нашых» ідэй.

Аднак жа менавіта вайна прымусіла савецкае кіраўніцтва адмовіцца ад некаторых ідэалагічных догмаў і крыху зменшыць маштабы тэрору супраць уласнага народа, на пэўны час адмовіцца ад «класавай барацьбы» на карысць патрыятычнай ідэі.

Не немцы, а бальшавікі напярэдадні вайны знішчылі помнікі рускім воінам 1812 года на Барадзінскім полі; узарвалі ў Ніжнім Ноўгарадзе храм, дзе быў пахаваны Казьма Мінін, выкінулі на сметнік косці Святога Аляксандра Неўскага. І менавіта бальшавікі ў 1941 годзе загаварылі пра слаўныя вайсковыя традыцыі Расіі.

Гэта вайна па праву называецца Вялікай Айчыннай. І была ў ёй не толькі збройная перамога народа над захопнікамі, але і духоўная — над самім сабой. Усвядоміўшы сябе абаронцам Айчыны і вызваліцелем Еўропы, народ вярнуў сабе забытае ў часе бальшавіцкага тэрору пачуццё самапавагі. Фактычна ўрад СССР і народ краіны вялі ў 1941—1945 гадах розныя войны. Мэта ўрада — пасунуць за межы СССР «сусветную рэвалюцыю», мэта народа — дамагчыся права «людзьмі звацца», зрабіць, каб пасляваенны мір быў больш справядлівы, чым даваенны.

Перамога ў пэўнай ступені ўмацавала сталінскі рэжым і дала шырокую прастору для сацыяльнай дэмагогіі. Але для краіны паўтарылася сітуацыя, якая ўжо мела месца ў гісторыі: выгнанне арміі Напалеона і пераможны паход у Еўропу стварылі перадумовы «дзекабрызму», падрыхтавала выступленне войск у падтрымку Канстытуцыі ў 1825 годзе, зрэшты, паставілі імперыю перад неабходнасцю рэформ.

Гэтага ж небеспадстаўна баяўся ў 1945 годзе Сталін. І сапраўды, перамога над фашызмам наблізіла перамогу над бальшавізмам. Страшна ўявіць, што было б з цывілізацыяй, калі б фашысты і бальшавікі здолелі дамовіцца і падзяліць свет на сферы ўплыву.

Асабіста для мяне сімвалам Перамогі з'яўляецца не штурм рэйхстага і ўмацаванне чырвонага сцяга над ягоным купалам. Не ведаю, ці варта было ў апошнія дні вайны рызыкаваць столькімі чалавечымі жыццямі дзеля чыста агітацыйнага эфекту. Пры гэтым я не стаўлю пад сумненне мужнасць і гераізм тых, хто здзейсніў гэтую акцыю, і хто загінуў, не дайшоўшы да купала. Мяне ўражвае подзвіг старшага сяржанта, мінскага рабочага Трыфана Лук'яновіча. У першыя дні вайны пад нямецкімі бомбамі загінула ягоная сям'я — жонка і двое дзяцей. А сам Лук'яновіч загінуў у Берліне, выносячы з-пад абстрэлу нямецкую дзяўчынку. Кажуць, што пакуты набліжаюць чалавека да звера. Не ведаю. Нашага суайчынніка пакуты зрабілі чуллівым да чужога гора. Гэты подзвіг для мяне — сімвал вялікай Перамогі.

Сёння нашчадкі тых, чый авантурызм і беспрынцыпнасць у 1941-ым паклалі беларускую зямлю пад гусеніцы нямецкіх танкаў, будуць клясціся святымі імёнамі, у тым ліку і імем Трыфана Лук'яновіча, сцвярджаць, што «дэмакраты развалілі вялікую краіну, за якую нашы бацькі пралівалі сваю кроў». Я ж думаю, што нашы бацькі пралівалі кроў не за расійскі рубель, не за кавалак таннай каўбасы і чарку таннай гарэлкі з красамоўнай назвай «Жириновский», а «за свабоду і незалежнасць нашай Айчыны» — як запісана на вайсковых надмагіллях. Сёння гэтыя словы ў нашай Айчыне маюць палітычна акрэслены сэнс.

**Пётра ВАСІЛЕЎСКІ**



*На здымку: так сустракалі пераможцаў у Мінску.*

# ПАЛАНЕЗ ДЛЯ ЎСІХ...

У нацыянальным музеі Беларусі ў шэрагу мерапрыемстваў, прысвечаных угодкам паўстання Тадэвуша Касцюшкі, адкрылася дакументальна-мастацкая выстава «Паланез для касінераў». Некаторыя архіўныя матэрыялы, звязаныя з дзейнасцю Касцюшкі і яго паплечнікаў, асабліва тое, што датычыць жыцця Касцюшкі ў эміграцыі, былі прадстаўлены пасольствамі Францыі, Польшчы, многае было ўпершыню сабрана разам з нашых абласных музейных сховішчаў. На ўрачыстым адкрыцці выступілі пасол Рэспублікі Польшча Эльжбета Смулэк, пасол Французскай Рэспублікі Клод Жаліф, Часовы Паверваны ЗША Джордж Крол.

Вядома ўжо, што Касцюшка нідзе не дажываў жыццё проста як эмігрант, ён пакінуў пасля сябе найлепшую памяць. Нездарма ж стаяць (а гэтаму на выставе прысвечаны асобны стэнд) помнікі яму ў Чыкага, Вест-Пойнце, Валыні, Познані, Лодзі. Касцюшка прыцягваў і канцэнтраваў вакол сябе лепшых людзей свайго часу, ён ніколі не быў убаку ад падзей. Таму так натуральна глядзяцца на выставе побач са скрыпкай Міхала Агінскага і нотамі з яго паланезам і паланезам самога Касцюшкі — партрэты асоб рускай царскай дынастыіі, дэкларацыя незалежнасці і сцэны жыцця Амерыкі. А магнацкія шаблі ды ўрэцкае шкло — адзнакі шляхецкай вольнасці і ўзроўню развіцця краіны — толькі падкрэслілі тую створаную фотаматэрыяламі атмасферу былой вольнасці нашай краіны. Бо «народу, які жадае незалежнасці, трэба абавязкова спадзявацца на свае сілы. Калі ж гэтага няма, калі ў сваім існаванні ён разлічвае не на ўласныя намаганні, а на чужую падтрымку ці ласку, можна смела сказаць, што не дасягае ён ні шчасця, ні годнасці, ні славы».

Такі запавет Тадэвуша Касцюшкі.



*На адкрыцці выставы (злева) дырэктар нацыянальнага музея І. Загрышаў, пасол Рэспублікі Польшча Эльжбета Смулэк, пасол Французскай Рэспублікі Клод Жаліф, Часовы Паверваны ЗША Джордж Крол, намеснік міністра культуры і друку РБ У. Гілеп, старшыня Нацыянальнага камітэта па святкаванні 200-годдзя паўстання 1794 г. М. Купава.*

# ГЭТА НЕ ЗАБЫВАЕЦЦА

Новымі экспанатамі пастаянна папаўняюцца фонды Беларускага дзяржаўнага музея гісторыі Вялікай Айчыннай вайны. У тым ліку і тымі, што маюць дачыненне да дзейнасці ў гады барацьбы з нямецка-фашысцкімі захопнікамі пісьменнікаў, артыстаў, мастакоў, прадстаўнікоў іншых творчых прафесій. У прыватнасці, музею перадаў каля сарака сваіх работ знакаміты мастак Г. Бржазоўскі. Гэта малюнкі, партрэты партызан, напісаныя на працягу 1943—1945 гадоў. Як вядома, у гады вайны Г. Бржазоўскі змагаўся з ворагам у складзе партызанскай брыгады імя Калініна на Міншчыне і пісаў сваіх герояў з натуры.

# ЛІТАРАТУРА І ЯЕ ВЫКЛАДАННЕ

***Не ўпершыню ў Саюзе пісьменнікаў абмяркоўваюцца пытанні выкладання беларускай літаратуры. Гэтым жа разам прайшоў «круглы стол» на тэму «Родная літаратура. Новае ў школьным навучанні», арганізаваны педагагічнай камісіяй і секцыяй крытыкі.***

З дакладам выступіў М. Лазарук. Ён падрабязна запыніўся на новай школьнай праграме па беларускай літаратуры, распрацаванай калектывам лабараторыі літаратурнай адукацыі Нацыянальнага інстытута педагогікі. (Як вядома, ёсць праекты праграмы, складзеныя навуковымі супрацоўнікамі Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы Акадэміі навук Беларусі, а нядаўна стала вядома з часопіса «Роднае слова», што свой варыянт прапанавалі і выкладчыкі Брэсцкага педагагічнага інстытута).

Новая мадэль курса па беларускай літаратуры прадугледжвае пазбаўленне ад ідэалагізацыі ў выкладанні гэтага прадмета, перааценку шмат якіх твораў, падыход да іх вартасцей з пазіцыі агульначалавечых, а не класавых каштоўнасцей.

Праўда, новыя падручнікі выдавецтвам «Народная асвета» яшчэ не надрукаваны, таму адразу паўсюдна пераходу на новую праграму не адбудзецца. Найперш па-новаму пачнуць вывучаць літаратуру там, дзе гэтага жадаюць настаўнікі. А ў перспектыве магчыма і з'яўленне альтэрнатыўных падручнікаў.

У гаворцы прынялі ўдзел М. Мішчанчук, А. Яскевіч, М. Мушынскі, М. Тычына, настаўнікі, што займаюцца на курсах перападрыхтоўкі.

Узніклі і некаторыя спрэчныя моманты. У прыватнасці, М. Мішчанчук супраць таго, каб беларускую літаратуру вывучаць у так званым кантэксце з сусветнай. Яна мае права быць самастойным прадметам.

Адбылася гаворка, у карысці якой, думаецца, сумнявацца не даводзіцца. Таму дзіўна, што ў пасяджэнні «круглага стала» не прынялі ўдзелу прадстаўнікі Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь, хоць яны і запрашаліся.

**Н. К.**

# ПАЯДНАННЕ СУЧАСНАГА І МІНУЛАГА

***Пасольства Рэспублікі Польшча ў Мінску, Фонд «Дапамога палякам Усходу» і Нацыянальная бібліятэка Беларусі арганізавалі выстаўку польскай кнігі. На ёй прадстаўлены найбольш значныя выданні, што ўбачылі свет у братняй краіне на працягу 1992—1994 гадоў. У экспазіцыі — мастацкая літаратура, кнігі па гісторыі, рэлігіі, даведачныя выданні, слоўнікі.***

На ўрачыстым адкрыцці выстаўкі выступілі Надзвычайны і Паўнамоцны пасол Рэспублікі Польшча ў Беларусі Эльжбета Смулэк, міністр культуры і друку Рэспублікі Беларусь Анатоль Бутэвіч і іншыя. Пасля закрыцця выстаўкі кнігі, прадстаўленыя на ёй, папоўняць фонды Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі, дзе цяпер і выстаўлены для паказу.

Адкрыццё выстаўкі польскай кнігі — адно з мерапрыемстваў, што праходзіць у нашай краіне ў сувязі з датай, знамянальнай для польскага народа. 3 мая 1791 года была прынята Канстытуцыя Рэчы Паспалітай, якая скасоўвала унію (саюз) Вялікага княства Літоўскага з Польшчай і аб'ядноўвала дзве дзяржавы.

Дата, як бачым, не круглая. Тым не менш для польскага народа яна важная, бо згаданай Канстытуцыяй быў зроблены вялікі крок для ўмацавання дзяржаўнасці.

Праўда, супраць Канстытуцыі 1791 года неўзабаве выступілі рэакцыйныя колы Польшчы, якія ў 1792 годзе стварылі так званую Таргавіцкую канфедэрацыю, звярнуліся па дапамогу да Расіі. У Польшчу ўвайшлі расійскія і прускія войскі, адбыўся другі падзел Рэчы Паспалітай. А пасля... Пасля было паўстанне 1794 года пад кіраўніцтвам Тадэвуша Касцюшкі — змаганне «за нашу і вашу вольнасць».

**Н. К.**

# З ПАВАГАЮ ДА МІНУЎШЧЫНЫ

## ЗАМЕСТ УСТУПУ

Над невялікім літоўскім гарадком плыў пералівісты гук званоў. Мы з сяброўкай спыніліся на ўзгорку і як зачараваныя слухалі гэтую адвечную мелодыю, якая не то ляцела да неба з-пад чарапічнага даху храма, не то з неба сыходзіла на горад, што прачынаўся пасля доўгай ночы і дзякаваў Богу за добрую раніцу. І радасць, і смутак напаўнялі маё сэрца. Смутак, таму што на маёй радзіме ў тыя гады званы маўчалі, разрываныя са званіц, а «малінавы звон» жыў толькі ва ўспамінах бабуль.

## ПРАДПРЫМАЛЬНІК

Пагадзіцеся, не часта сярод айчынных камерсантаў можна сустрэць чалавека, адданага інтарэсам Бацькаўшчыны, ці хацця б такога, які з павагай ставіцца да агульначалавечых каштоўнасцей. Пытанне, што мы пакінем нашчадкам, здаецца, хвалявала ўсе пакаленні, акрамя сучаснага. І ўсё ж песімізм гэтых жыццёвых высноў не здаецца такім трагічна-безвыходным, калі знаёмішся з Міхаілам Новікавым.

У свае семдзесят два гады Міхаіл Прохаравіч Новікаў узяўся за справу, якая і многім маладым не пад сілу. Стаць прадпрымальнікам яго прымусіла не прага вялікіх грошай, а прага разняволенай ініцыятывы і жаданне ўбачыць на ўласныя вочы хоць крыху адроджаную Бацькаўшчыну. У Міхаіла Прохаравіча вялікая сям'я: тры сыны, тры дачкі, чатырнаццаць унукаў і чатыры праўнукі. Ён можа бясконца апавядаць аб славутасцях роднага краю. Лепш за любога экскурсавода раскажа ён вам гісторыю ўзнікнення гістарычных помнікаў Міншчыны, сярод якіх вялікая колькасць храмаў. Доўгія гады мучыла яго пытанне: чаму так марна гіне гэта бясцэнная спадчына?

Аднак ён не адносіцца да тых, хто толькі шукае адказаў на пытанні, — ён практычна ратуе тое, што яшчэ можна ўратаваць: будуе новыя храмы, рэстаўруе старыя. У сакавіку 1989 года М.Новікаў стварыў брыгаду будаўнікоў для аднаўлення Свята-Пакроўскай царквы ў Беніцы, што пад Маладзечнам. Увесь час раіўся з царкоўным старастам Міхаілам Пачкоўскім: у будаўніцтве культавых будынкаў ёсць свае асаблівасці, свае «тонкасці». Як успамінае Пачкоўскі, часам нават сварыліся, але набыты вопыт спатрэбіўся ў далейшым. Роўна года хапіла будаўнікам Новікава, каб завяршыць работы. Поспех акрыліў і падбадзёрыў на новую працу.

Праз два гады пасля першага экзамена на прафесіяналізм брыгада аформілася як самастойнае будаўніча-рэстаўрацыйнае вытворчае прадпрыемства — фірма «Мерра». Слова «мерра» ў перакладзе на беларускую мову азначае «горыч». У гэтай назве ўвасобіліся боль і пакаянне, імкненне адрадзіць зруйнаванае.

## НЯХАЙ ЖЫВУЦЬ ЛЕГЕНДЫ

Падскарбій літоўскага князя Міхал Коцел улетку года 1694, вяртаючыся з Вільні ў свой маёнтак пад Маладзечнам, трапіў у бяду. Ці то нячыстая сіла ў коней усялілася, ці пачулі залётныя мядзведзя, якіх у навакольных лясах шмат туляласа, але панеслі коні падарожніка, не мог вазніца справіцца, колькі ні нацягваў лейцы. У такіх выпадках толькі і застаецца — Богу маліцца. Звярнуўся тады падскарбій да Усявышняга са шчырай малітвай. Пачуты быў яго голас: спыніліся коні бы ўкопаныя ля рынкавай плошчы ў Беніцы. І выратаваўшы тады Міхал Коцел аддзякаваць Бога за сваё выратаванне, пабудаваўшы на тым месцы храм.

Паданне аб заснаванні храма ў Беніцы ведаюць і перадаюць з вуснаў у вусны ўсе жыхары гэтага невялічкага мястэчка. Не адно стагоддзе прастаяў храм. Быў ён і уніяцкім, і каталіцкім, і праваслаўным — у залежнасці ад веравызнання чарговага «вызваліцеля», што прыходзіў на Беларусь. Ваяўнічыя атэісты нашага стагоддзя ператварылі яго ў кучу друзу.

Сёння былы Троіцкі касцёл стаіць, «упрыгожаны» рыштаваннямі, зайздросліва пазіраючы чорнымі аконнымі праваламі на прыгажуню Свята-Пакроўскую царкву, што знаходзіцца побач. Касцёл не ведае свайго далейшага лёсу, але спадзеецца, што ў якую б веру яго надалей ні асвячалі, ён яшчэ паслужыць людзям. Верыць у гэта і яго галоўны «ўрач» М.Новікаў.

## РАТУЙЦЕ НАШЫ ДУШЫ

Як нідзе больш, на Беларусі скрыжаваліся і прыжыліся дзве хрысціянскія канфесіі. Ці не ў гэтым суседстве праваслаўных цэркваў з касцёламі своеасаблівы твар зямлі нашай? Пад адзіным крыжам Ефрасінні Полацкай сышліся дзве рэлігіі, і, як помнік гэтаму добрасуседству, узнялася новая капліца на маладзечанскіх могілках пад Лазаўцом. Кажуць, для смерці ўсе роўныя. У адной зямлі ляжаць і каталікі, і праваслаўныя. Хоць адпяваць іх будуць у розных залах — адзін звон прагучыць са званіцы, праводзячы ў апошні шлях.

Будучае новае — не псуй старое. Гэта ісціна не заўсёды ўсведамляецца некаторымі дзеячамі ад мастацтва. І ўявілася мне: стаяць пасярэдзіне Лебедзеўскай царквы рабочыя фірмы «Мерра» ў зашмальцаваных спяцоўках, камечаць мазолістымі рукамі шапкі-вушанкі ў пілавінні, а са сцен і столі, нібы тое пілавінне, абсыпаюцца фарбы старажытнага роспісу. І роспачна людзям: не могуць яны, чорнарабочыя, выратаваць гэтую прыгажосць, не хапае ім вопыту і ведаў для такой тонкай работы... Затое хапіла некаму розуму аддаць загад, каб забяліць пяпсаваны часам высокагустоўны роспіс. Частка прыгажосці ўжо знікла пад пэндзлем сталічнага мастака.

На розных аб'ектах вобласці працуюць рабочыя «Мерры». Рэстаўрыруюць будынак былой плябані ў вёсцы Плябань, дзе будзе створаны гістарычны музей; будуюць праваслаўны храм у Чысці (будаўніцтва якога, між іншым, фінансуецца акцыянерным таварыствам «Забудова»); шмат што аднаўляюць і рамантуюць на Вілейшчыне. Дзе б ні працавала фірма, галоўным прынцыпам для яе застаюцца паважлівыя адносіны да даўніны.

Дай Бог і нам усім навучыцца паважаць і шанаваць сваю спадчыну. А кіраўнікам нашым пашлі, Божа, прасвятленне. Бо на сённяшні дзень фірма «Мерра» не мае свайго офіса, нават зямлю пад будаўніцтва яго не выдзяляюць ні гарадскія, ні раённыя ўлады. Несправядліва!

**А.МАЛЬШЭЎСКАЯ,**
дэпутат Мінскага абласнога Савета
*г. Маладзечна*



*Вёска Беніца. Свята-Пакроўская царква.*



*Чысцінская царква.*

*Фота І.КАРПІЦКАЙ*

# АКАЖЫЦЕ ФЕСТЫВАЛЮ ДАПАМОГУ

На многіх людзей Першы фестываль беларускай песні і паэзіі «Маладзечна-93» зрабіў незабыўнае ўражанне. На ім была шырока разгорнута панарама нашай нацыянальнай спадчыны: тут спявалі не толькі галасам, але і душою. І ў гэтым — сімвал нашага духоўнага багацця. Мінулым летам мы, магчыма, яшчэ раз яскрава пераканаліся, што ў духоўным чалавечым існаванні ёсць адзін пачатак — культура. Пераканаліся і ў тым, што ў нас падрастае новая творчая змена таленавітых спевакоў, кампазітараў і паэтаў. І сённяшняя беларуская песня знаходзіцца на меладычнай лініі, рытмічнай аснове, гарманічным накірунку.

І ўсё ж «Маладзечна-93» — гэта толькі пачатак. Гэтым летам у нашым горадзе пройдзе рэспубліканскі фестываль нацыянальнай песні «Маладзечна-94». Гэта ўхвалае і Урад Беларусі. Ды толькі, каб і надалей праяўляць клопат аб беларускім мастацтве, аб тым, каб яно паступальна развівалася, узвышала і ўзбагачала ўсіх нас, патрэбны значныя матэрыяльныя сродкі.

Таму і сёлета, абапіраючыся на набыты ўжо мінулагодні вопыт, мы зноў напярэдадні знамянальнай падзеі ў культурным жыцці рэспублікі звяртаемся да вас, бізнесмены і прадпрымальнікі, кіраўнікі малых прадпрыемстваў і кааператываў, таварystваў з абмежаванай адказнасцю, сумесных прадпрыемстваў, акцыянерных таварыстваў, кіраўнікоў прадпрыемстваў, арганізацый, калгасаў, фермерскіх гаспадарак і ўстаноў і да кожнага, хто можа аказаць садзеянне фестывалю: калі вы верыце, што лёс нашага народа і яго жыццё будуць лепшымі і спрыяюць гэтаму музыка і сапраўдная паэзія — яны даюць нам упэўненасць, натхненне і плён, — то дапамажыце фестывалю матэрыяльна. Хто колькі можа: не павінна культура прыносіць грошы, грошы павінны прыносіць культуры. Кожны ўзнос у «зайчыках», рублях ці СКВ — доларах, марках — будзе спрыяць поспеху рэспубліканскага фестывалю беларускай песні.

Фестываль «Маладзечна-94» — высакародная справа. Паспяшайцеся ўнесці свой пасільны ўзнос на добрыя мэты свята, што адбудзецца на пачатку лета.

Сродкі з паметкай «У фонд падтрымкі мастацтва Маладзечанскага гарвыканкама» пералічвайце на бягучы рахунак 702801 у Маладзечанскім філіяле АКБ «Беларусь». Код 769.

**АРГКАМІТЭТ І ФОНД РЭСПУБЛІКАНСКАГА ФЕСТЫВАЛЮ БЕЛАРУСКАЙ ПЕСНІ**

# ЗВАННЕ ЗАСЛУЖАНАГА

работніка культуры Рэспублікі Беларусь за значны ўклад у развіццё нацыянальнай культуры, шматгадовую плённую работу ў друку Прэзідыум Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь прысвоіў дырэктару выдавецтва «Навука і тэхніка» Ф. Савіцкаму.

Фадзей Ігнатавіч дырэктарам працуе з 1968 года, а да гэтага быў галоўным рэдактарам. Дзякуючы і яму, і яго працы, чытачы маюць мажлівасць атрымліваць вельмі неабходныя і патрэбныя кнігі, у тым ліку і тыя, што, несумненна, працуюць на нацыянальнае Адраджэнне. Нельга не згадаць шматтомнае, унікальнае выданне «Беларуская народная творчасць», выхад якога працягваецца; першы выпуск факсімільнага выдання газеты «Наша Ніва», Збор твораў М. Багдановіча, які цяпер выпускаецца, і Зборы твораў Я. Купалы, М. Лынькова, М. Багдановіча, выпушчаныя раней. І, вядома ж, «Навука і тэхніка» выдае шмат кніг па літаратуразнаўстве, мастацтвазнаўстве, шматлікія слоўнікі, папулярную літаратуру.

З узнагародай, Фадзей Ігнатавіч, новых Вам поспехаў!

# ЗРОБЛЕНА РУКАМІ ДЗЯЦЕЙ



Такога багацця фарбаў даўно не бачылі залы Рэспубліканскай мастацкай галерэі. Тут адкрылася заключная выстава самадзейнай выяўленчай і дэкаратыўна-прыкладной творчасці. Яна праходзіць у рамках фестывалю «Спадчына», які пачаўся ў беларускай сталіцы ў кастрычніку 1993 года.

У выставе, арганізаванай Упраўленнем культуры Мінгарвыканкама, Саюзам мастакоў і Цэнтрам адраджэння і развіцця беларускай культуры, прынялі ўдзел дваццаць народных калектываў, мастацкія і агульнаадукацыйныя школы, каледжы, цэнтры пазашкольнай работы. Шырока прадстаўлены ў экспазіцыі беларускія народныя рамёствы: кераміка, ткацтва, разьба па дрэве, саломка.

Асабліва ўражваюць работы юных мастакоў, іх бачанне свету. Акварэлі і жывапісныя палотны поўныя аптымізму, радасці, дабра. Гэтая выстаўка — свята не толькі для дзятвы, а і для бацькоў, педагогаў, для ўсіх, каму неабыякава будучыня нашых дзяцей. Хочацца верыць, што фестываль «Спадчына» стане штогадовым.

**Яўген КАЗЮЛЯ, БЕЛІНФАРМ**

*На здымку: у выставачнай зале.*

*Фота аўтара*

# ЧАРНОБЫЛЬСКІ ШЛЯХ



Пасольствам Італіі ў Рэспубліцы Беларусь, Міністэрствам культуры і друку, Таварыствам дружбы і міжнародных сувязей, філармоніяй і народным мастаком Беларусі Міхаілам Савіцкім былі наладжаны мерапрыемствы, прысвечаныя дням памяці чарнобыльскай трагедыі. У Таварыстве дружбы адбылася сустрэча з прадстаўнікамі італьянскай і беларускай інтэлігенцыі і канцэрт дзіцячых фальклорных калектываў. У фае філармоніі прайшла прэзентацыя вядомага цыкла М. Савіцкага «Чарнобыльскі шлях». Пасля ўсе прысутныя былі запрошаны на дабрачынны канцэрт фартэпіяннай музыкі італьянскага выканаўцы Фермо Рашыньё.

*На здымку: М. Савіцкі. «Эвакуацыя». З цыкла «Чарнобыльскі шлях».*

# ГОСЦІ З МАКЕДОНІІ

***Мінск наведала дэлегацыя Саюза пісьменнікаў Македоніі ў складзе Гане Тадараўскага і Івана Чапаўскага. Мэта прыезду — падпісаць дагавор аб супрацоўніцтве паміж Саюзамі пісьменнікаў Македоніі і Беларусі. Дагавор прадугледжвае ўзаемную інфармацыю аб важнейшых з'явах у беларускім і македонскім літаратурным жыцці; аб творчых мерапрыемствах і сустрэчах у абедзвюх краінах, а таксама пра магчымасць удзелу ў іх; падтрымку ўзаемных перакладаў; абмен дэлегацыямі. З беларускага боку дагавор падпісаў старшыня Саюза пісьменнікаў Васіль Зуёнак, па даручэнні Саюза пісьменнікаў Македоніі — Гане Тадараўскі.***

***Госці мелі гутарку з беларускімі пісьменнікамі Янкам Брылём, А.Жалязоўскім, У.Паўлавым, А.Пісьмянковым, Я.Сіпаковым, Я.Каршуковым, А.Разанавым, У.Скарынкіным, І.Чаротам, А.Гардзіцкім, наведалі літаратурныя музеі Янкі Купалы і Якуба Коласа, а таксама сустрэліся з навучэнцамі Беларускага адукацыйна-культурнага цэнтра.***

**А.Г.**

*Карыстаючыся нагодай, прапануем верш пачынальніка македонскай паэзіі К.Міладзінава ў перакладзе У.Скарынкіна.*

Канстанцін МІЛАДЗІНАЎ

## ТУГА ПА ПОЎДНІ

**Калі б далі мне тугія крылы,**
**Арлом бы злётаў у край свой мілы.**
**Нямала гэта для сэрца значыць —**
**Стамбул і Кукуш ізноў убачыць.**
**Няўжо там неба, як тут, шарэе,**
**Няўжо там сонца, як тут, не грэе?**

**Калі радзіма мяне прывеціць**
**Халодным сонцам, што ледзьве свеціць,**
**Я ўскіну крылы свае тугія**
**І паімчуся ў краі такія,**
**Дзе ім сагрэты палі і горы,**
**Дзе дораць радасць і шчасце зоры.**

**Тут надта змрочна, змрок абвівае,**
**Імглою цёмнай дол пакрывае.**
**Тут безупынку над папялішчам**
**Віхура вые і вецер свішча.**
**Тут і самотна, і сумна дужа,**
**Тут студзіць грудзі і думкі сцюжа.**

**Не, не магу я тут заставацца —**
**Ад сцюжы трэба мне ратавацца.**
**О, дайце, дайце, арлы, мне крылы —**
**Хачу я злётаць у край свой мілы.**
**Як многа сёння для сэрца значыць —**
**Зірнуць на Охрыд і Стругу ўбачыць.**

**Там азараецца ўсход зарою —**
**І ўсходзіць сонца па-над гарою.**
**У дзень зімовы і ў дзень вясновы**
**Душу сагрэе мой край паўднёвы.**
**Крутую кіпень азёр празрыстых,**
**Густую квецень мясцін гарыстых,**
**І аблачынку над ціхай вёскай**
**Ён пазначае красою боскай.**

**Зноў на кавале я там зайграю,**
**А зойдзе сонца — і я сканаю.**

*Масква, 1860*

Пошта

# ЦІ ПАТРЭБНА БЕЛАРУСАМ ЛАЦІНКА?

Часам у друку можна напаткаць матэрыялы, у якіх аўтары выказваюць адмоўнае стаўленне да беларускай лацінкі (напрыклад, лімаўскі артыкул «Не наша «Наша Ніва»): маўляў, у нас даўнія традыцыі кірылічнага пісьма, а лацінка пачала ўжывацца ў канцы XIX—пач. XX ст., непрацяглы час ужывалася беларусамі ў Заходняй Беларусі пад польскай акупацыяй у 30-ыя гады нашага стагоддзя. Вось і ўсе аргументы супраць.

Я не збіраюся агітаваць за пераход беларускага пісьменства на лацінскую графіку, хаця прыхільнікі лацінкі выказваюць часам слушныя высновы. Ну хоць бы тое, што лацінка больш адпавядае беларускаму маўленню. Акрамя таго, шмат якія запазычаныя словы (Эўропа, пэнсія, дэмакратыя, шакаляда і г.д.) прыйшлі ў беларускую мову менавіта з Захаду, дзе гэтыя словы пісаліся лацінкай, і на Беларусі яны мелі аўтэнтычнае маўленне. З цягам часу, пад уздзеяннем кірыліцы і русіфікацыі, яны набылі маўленне, уласцівае рускай мове (Еўропа, пенсія, шакалад...). Атрымліваецца парадокс: мы мусім пісаць Фінляндыя і ў той жа час — Галандыя, хаця ў абодвух словах аднолькавы корань — «зямля, краіна» (лянд альбо ланд). Ці замест Бабілён пішам Вавілон. Тое ж датычыць і слова «міт», якое мы пішам і гаворым — міф. Прыклады можна доўжыць бясконца. І яшчэ адзін важкі аргумент выказваюць прыхільнікі лацінкі, сэнс якога заключаецца ў тым, што з пераходам беларускага пісьменства на лацініцу можна прагназаваць масавы ўздым нацыянальнай самасвядомасці.

Што датычыць апошняга, то падчас другой сусветнай вайны, на тэрыторыі акупаванай немцамі Беларусі, асабліва ў заходняй частцы, дзе ўсё школьніцтва было ў беларускіх руках і выкладалася сапраўдная гісторыя Бацькаўшчыны, лепшыя ўзоры беларускай літаратуры, а пісьмо вялося лацініцай, назіраўся масавы ўздым беларускага патрыятызму сярод моладзі. Так, напрыклад, на Глыбоччыне дзейнічала адна з самых масавых на Беларусі суполак СБМ, а ў пасляваенны перыяд, як і ў іншых гарадах Заходняй Беларусі, тут утварылася падпольная група СБП.

Сёння, аднак, цяжка спрагназаваць, што мела б большы вынік: пераход беларускага пісьменства на лацінку, альбо папулярызацыя спрадвечнага імя беларусаў — ліцвіны, але існуючая рэчаіснасць паказвае, што ў новай суверэннай Беларусі нам без сваёй лацінскай графікі не абысціся, нават калі кірылічнае пісьмо ў нас застанецца назаўсёды.

Каб у гэтым пераканацца, дастаткова зайсці ў мясцовае аддзяленне сувязі. Не скажу за ўсю Беларусь, але ў нас, у Глыбокім, на пошце ёсць адмысловыя стэнды, дзе даюцца ўзоры правільнага афармлення канвертаў, якія ідуць для адпраўкі за мяжу, як цяпер кажуць — у краіны далёкага замежжа. Свой зваротны адрас мы мусім пісаць лацінскімі літарамі. Самае цікавае тут тое, што нам прапануецца пісаць зваротны адрас па-расійску, бо пэўна беларуская мова не настолькі шляхотная, каб нашы словы пісаць лацінскімі літарамі. Дзеля прыкладу прыводжу адзін з узораў напісання зваротнага адраса: 220034, Belarus, Minsk, ul. Perwomajskja, 11-44 Sidorowa O.M.

Як бачым, і тут таксама нейкі комплекс малодшага брата. А як гэта стасуецца з Законам аб дзяржаўнасці беларускай мовы?

Як бы там ні было, але існуе істотная розніца ў напісанні беларускага і расійскага тэксту кірыліцай, а яшчэ большая розніца ёсць у напісанні беларускага і расійскага тэксту лацінкай. Можна дзеля прыкладу параўнаць напісанне тапанімічных назваў: Глыбокае (Глубокое) — Hlybokaje (Glubokoe); Докшыцы (Докшицы/)— Doksycy (Dokšhitsy) і г.д. У бытнасць Савецкага Саюза можна было неяк зразумець, калі на аўтамабільных фургонах пісаліся надпісы па-расійску лацінскімі літарамі тыпу: «Sovtransavto», «Sojuzvneshtrans» і г.д., а таксама надпісы на дарожных указальніках міжнародных аўтастрад на тэрыторыі Беларусі: Qrodno, Vitebsk, Kiev, Moskva...

Сёння на дарогах Беларусі можна таксама бачыць шмат аўтамабільных фургонаў беларускіх прадпрыемстваў з прыгожымі рэкламнымі надпісамі, але яны зноў-такі пішуцца лацінкай па-расійску. Пэўна, мы не дараслі да таго, каб мець сваю лацінку, але ж мы цяпер жывём у суверэннай дзяржаве, і калі мы сябе паважаем і каб паважалі нас замежныя госці, якія едуць па нашых міжнародных аўтастрадах, мы павінны на дарожных шыльдах беларускі назоў, напісаны кірыліцай, дубліраваць лацінкай. Зрэшты, так ёсць ва ўсіх краінах свету, дзе не карыстаюцца лацінскімі літарамі, і дзеля гэтага няма патрэбы ехаць за мяжу, каб у гэтым пераканацца. Па тэлебачанні часта паказваюць сюжэты, то з Саудаўскай Аравіі, то Сербіі, то з Ізраіля. Даволі часта ў аб'ектыў тэлекамеры трапляюць дарожныя ўказальнікі, дзе, напрыклад, пад арабскім надпісам ёсць заўсёды дубліраванне лацінкай назвы населенага пункта.

Як бы ні імкнуліся ворагі беларушчыны запаволіць ці спыніць працэс беларускага Адраджэння, яно паступова набірае моц, становіцца незваротным. На гэтым фоне расце цікавасць і да беларускае лацінкі. Недзе ўвосень быў у Менску ў раёне Зялёнага Луга, дзе да здзіўлення ўбачыў некалькі камерцыйных крам, шыльды якіх былі напісаны беларускай лацінкай: «Cmiel» і «Vanda». Ну і як тут не згадаць, што рэкламны надпіс з назваю беларускай фірмы «Dainova» робіцца лацінкаю, што можна бачыць штодня па тэлебачанні.

Мяркую, што з цягам часу «попыт» на беларускую лацінку ўсё больш будзе расці, асабліва калі ў нас складуцца сапраўдныя рынкавыя адносіны, і беларускім таваравытворцам спатрэбяцца рынкі збыту не толькі ў блізкім, але і далёкім замежжы. Вось тады ўзнікне сапраўдная неабходнасць пісаць у рэкламных мэтах назвы фірм і нават прадукцыі лацінкай.

Як мне падаецца, я прывёў дастаткова прыкладаў, дзе рэчаіснасць сапраўды вымагае нам, беларусам, мець сваю лацінку.

**Уладзімір СКРАБАТУН**

*г. Глыбокае*

# ДРУГІ РАЗ — ЗМАЎЧАЦЬ НЕ МАГУ

Было гэта ў канцы сямідзесятых, калі я працаваў у жабінкаўскай раёнцы і сакратараваў у тутэйшым літаб'яднанні «Плынь». Усе мы тады ўзрадаваліся студэнту, старшакурсніку журфака Валянціну Барысевічу, які прыехаў у рэдакцыю не толькі практыкантам, але і паэтам. Ахвотна друкавалі яго, балазе пачаткоўцаў у маленькім раёне было нягуста. Неяк у адным з ягоных вершаў засумняваліся: радкі былі вельмі знаёмыя. Вырашылі адкласці гэты твор на потым. А калі Валянцін, скончыўшы практыку, сабраўся вярнуцца ў Мінск, мне ўсё ж захацелася астатні раз надрукаваць ягоныя вершы, каб хлопец — ужо ва універсітэце — атрымаў сякі-такі ганарар. Чарговая літстаронка ў «Сельскай праўдзе» выйшла пасля яго ад'езду — 3 лістапада 1979 года (падшыўкі газет, вядома ж, захоўваюцца, адсюль і дакладная дата). Мая ўвага нязменна спынялася на вершы «Без цябе» пад аўтарствам В. Барысевіча. Перайманне ў ім ці плагіят? Гэтае пытанне не давала спакою. Нарэшце я перагартаў зборнікі Ніны Мацяш і ўпэўніўся: названы верш — яе, аж да апошняй кропкі. Прывяду яго цалкам (зборнік «Прыручэнне вясны», Мінск, «Мастацкая літаратура», 1979, стар. 39):

**А мне ўсё лепей без цябе.**
**Працую — не гарую.**
**Спакойнай сіле не слабець —**
**Магу звярнуць гару я.**

**Бясплённа дзень не праміне,**
**На мары не патрачу.**
**Смяюся, калі смешна мне,**
**А плачацца — не плачу.**

**Так, мне ўсё лепей без цябе.**
**Жніво наспела ў часе.**
**Ні тлуму, ні трывог цяпер.**
**... І ні хвіліны шчасця.**

Не ведаю, чаму я змаладушнічаў тады. Мо таму, што і сам быў нядаўнім студэнтам, прагным да творчасці, на гэтай глебе мы і сышліся з Валянцінам. Нікому пра сваю памылку не казаў, адно праз год ці два прызнаўся самой Ніне Мацяш. «Ці мала што? Бог з ім...» — сказала Ніна Васільеўна, і я супакоіўся.

... Мінула амаль пятнаццаць гадоў — і на табе! Чытаю ў другім нумары сёлетняй «Маладосці» той жа знаёмы верш і зноў — пад аўтарствам Валянціна Барысевіча. Змены нязначныя: замест «а мне ўсё лепей» — «а мне ўсё ж лепей», замест «бясплённа» — «без плёну» (праўкі, няйнакш, рэдакцыйныя). Крыху раней Ніна Мацяш уключыла гэты верш у кнігу свайго выбранага «Паміж усмешкай і слязой» (Мінск, «Мастацкая літаратура», 1993). Паралель, як бачым, прадоўжылася...

Што сказаць у заключэнне? Пачуваюся вінаватым. Пагутарыў бы з Валянцінам Барысевічам у свой час — і не было б, відавочна, паўторнага падману. І хоць я не суддзя яму, але змаўчаць на гэты раз было б недаравальна.

**Алесь КАСКО**

*г. Жабінка*

Адгалоскі

***Набліжаюцца дні вялікіх свят для народа Беларусі — пяцідзесяцігоддзе вызвалення ад нямецка-фашысцкіх акупантаў /3.7.1944 г./ і Перамогі над фашысцкай Германіяй /9.5.1945 г./. Наша перамога над фашысцкім агрэсарам — гэта Перамога жыцця над смерцю, выратаванне ад знішчэння цэлых дзяржаў і народаў.***

***У Вялікую Айчынную вайну перад народамі, па крайняй меры еўрапейскай часткі былога Савецкага Саюза, стаяла гамлетаўскае пытанне — быць ці не быць?***

# ПАКЛАЎШЫ РУКУ НА БІБЛІЮ

## ЗНОЎ ПРА НАРОДНУЮ, СВЯШЧЭННУЮ...

Для тых, што выйшлі з вайны жывымі, дзень пераможнага завяршэння яе быў днём іхняга другога нараджэння. Таму гэта свята для іх і для народа — найвялікшае свята. На жаль, мала хто з іх дажыў да гэтых светлых і радасных угодкаў... А тыя, што дажылі, нават самыя маладыя ўдзельнікі вайны, сталі дзядулямі і бабулямі.

Але не ўсе радасна сустракаюць гэтыя вялікія святы. У апошнія гады ўзнялася хваля крытыкі ацэнак Вялікай Айчыннай вайны. Адны называюць яе вайной невядомай, у тым сэнсе, што мы нічога праўдзівага пра яе не ведаем, усё, што напісана пра вайну, — хлусня. Другія не прызнаюць яе Вялікай Айчыннай.

Мар'ян Віж у артыкуле «Невядомыя старонкі невядомай вайны» («ЛіМ», 14.1.1994 г.) разглядае кніжку Ю.Туронка «Беларусь пад нямецкай акупацыяй» (пераклад з польскай, 1993 г.). Ужо сама назва артыкула выклікае неўразуменне. «Невядомыя старонкі» мінулай вайны могуць быць, але «невядомая вайна»?! Ці можна так казаць пра вайну, якая ўшчэнт разбурыла нашу Беларусь, забрала чацвёртую частку яе насельніцтва ў брацкія магілы?..

У сваім артыкуле М.Віж нагадвае рэцэнзію на кніжку Ю.Туронка ў газеце «Звязда» ад 7 верасня 1993 года, у якой рэцэнзент звяртае ўвагу на тое, што Ю.Туронак «першым спрабуе нам паказаць іншыя бакі вайны і трохі паіншаму зірнуць на тых, хто звязваў надзеі на незалежнасць (Беларусі, — **М.В.**) з Германіяй».

«З высновай рэцэнзента нельга не пагадзіцца, — заяўляе М.Віж і дадае: — Але ж галоўнае значэнне згаданай кніжкі нам найперш бачыцца ў куды больш шырокім сэнсе». Гэты «куды больш шырокі сэнс» відавочна заключаецца ў тым, што, як піша М.Віж, «усе без выключэння ранейшыя навуковыя і навукова-папулярныя публікацыі ў БССР, прысвечаныя апошняй вайне на Беларусі, знаходзіліся ў рэчышчы, строга абмежаваным дагматычнай і ідэалагічнай канцэпцыяй, распрацаванай у ЦК КПБ). (...) «адны факты знарок глуха замоўчваліся, іншым фактам (...) штучна надавалася вызначальная роля: (...) «...такі, з дазволу сказаць, падыход можна адназначна кваліфікаваць адным словам: фальсіфікацыя!»

У гэтых словах ёсць доля праўды, але не ўсё вызначанае пра мінулую вайну можна назваць фальсіфікацыяй. Ды пра гэта ніжэй.

Вядома, што Беларусь дзялілася акупантамі на дзве часткі па форме акупацыйнага рэжыму: ва Усходняй частцы панавала вайсковае праўленне, у Заходняй — цывільнае. «Ю.Туронак пераканаўча давёў: на тэрыторыі Беларусі, якая знаходзілася пад цывільным акупацыйным праўленнем, нямецкай адміністрацыяй былі **паспяхова** (падкрэслена мной. — **І.Д.**) ажыццёўлены захады, скіраваныя на развіццё нацыянальнай беларускай культуры, — піша М.Віж. — Гэта, аднак, як слушна адзначае аўтар, не мяняла агульнага бясспрэчна злачыннага характару акупацыйнай палітыікі, немцы перш за ўсё імкнуліся **любымі сродкамі** (падкрэслена мной. — **І.Д.**) паставіць мясцовы «людскі і эканамічны патэнцыял на службу Трэцяму Рэйху... на Беларусі эксплуатацыя часта пераходзіла ў адкрыты грабёж». Як жа гэта маглі спалучацца паспяховае ажыццяўленне захадаў па развіцці нацыянальнай беларускай культуры з бясспрэчна злачынным характарам акупацыі?

У доказ лагодных адносін акупантаў да мясцовага насельніцтва Ю.Туронак прыводзіць такі прыклад: немцы бралі з сялян вельмі нізкія пастаўкі прадукцыі. У 1942 годзе з кожнага гектара ворыва і пашы спаганялі па 100 кілаграмаў збожжа, 200 кілаграмаў бульбы і 20 кілаграмаў мяса жывой вагою — «гэта былі досыць памяркоўныя патрабаванні, яны давалі селяніну магчымасць распараджацца нават большай часткай (сваёй) прадукцыі, чым пры Саветах», — падкрэслівае Ю.Туронак.

М.Віж прыводзіць гэты факт у сваім артыкуле, але чамусьці абыходзіць другі, больш важны факт, які падае ў сваёй кніжцы Ю.Туронак. Апроч паставак прадукцыі цывільным акупацыйным уладам, з сялян бралі паборы яшчэ і вайсковыя. «Вермахт па-ранейшаму нахабна рэквізаваў прадукцыю, паборы раз за разам раслі без увагі на патрэбы мясцовага насельніцтва, без скідкі на неабходнасць аднаўлення вытворчасці. Паводле нямецкіх падлікаў, ужо ў верасні 1942 г. па ўсёй тылавой зоне групы армій «Цэнтр» пагалоўе жывёлы ўпала да такой ступені, што ў сялян часта адбіралі апошнюю карову» (...) «На бойню гналі нават цельных кароў».

Бралі з сялян акупанты ў дзве рукі: цывільнае ўпраўленне — нарыхтоўкі, вайсковае рабавала сялян нагала.

На год раней за Ю.Туронка выступіў у беларускім друку з новым поглядам, з новымі ацэнкамі мінулай вайны Валянцін Акудовіч. У артыкуле «Вялікая Айчынная ці Другая сусветная?» («ЛіМ», 26.6.1992 г.) ён абвясціў, што для Беларусі вайна 1941—1945 гг. Германіі з Савецкім Саюзам не была Вялікай Айчыннай, а Другой сусветнай. В.Акудовіч пачаў з доказаў нядольнасці беларусаў да ваеннай барацьбы нават за сваю родную зямельку. «Асабіста я схільны лічыць, што ідэя змагання з акупантамі не беларускага паходжання. Як на маё разуменне, дык у праекцыі на беларусаў яна не мае гістарычна пацверджанага генезісу», — піша В.Акудовіч.

І далей ідзе спасылка на гістарычныя факты. З іх агляду ў яго вынікае такое пытанне: «Ці з'яўляецца імкненне да волі адметнай рысай беларусаў?» Замест канкрэтнага адказу ён спасылаецца на тое, што нібы «чалавецтва ведае не шмат народаў, у якіх гэта якасць дамінуе». А між тым на працягу многіх вякоў зямлю скаланаюць вызваленчыя войны многіх і многіх, калі не ўсіх прыгнечаных народаў.

А што да беларусаў, то «сама ідэя жорсткага непрыняцця акупацыі, безумоўна, прыйшла з Расіі», безапеляцыйна сцвярджае В.Акудовіч.

Ён сумняваецца, што мінулая вайна для Беларусі была Вялікай Айчыннай. Разам з тым ён баіцца ставіць такое пытанне перад тым беларусам, які пераканаsucc, што змагаўся з фашызмам у Вялікай Айчыннай вайне, каб яго не пакрыўдзіла такое пытанне. «Аднак яшчэ больш нетактоўна і нават абразліва яно гучыць у адносінах да ўсяго народа, нацыі, якую прымусілі самазніштажацца, змагаючыся на баку адной імперыі супроць другой. Тут трэба дадаць яшчэ вось што. Крытэрый вайны як Вялікай Айчыннай значна звужае і проста-такі нахабна (?!) спрошчвае гэтую неверагодна трагічную падзею, зводзячы яе да аднамернага супроцьдзеяння: «нашы — немцы». І ў дадатак надае вайне высакародны сэнс, якога ў яе не было і быць не магло». Адважуся запярэчыць: быў гэты высакародны сэнс з нашага боку!

Або яшчэ: «Калі б папраўдзе ўвесь народ узняўся на змаганне з акупацыяй, гэта азначала б толькі адно — інстынкт самазахавання этнасу выпетраўся да тых рэшткаў, за якімі ўжо нічога няма».

Як паднялася рука ў аўтара напісаць такое?! Зганьбаваць увесь, па колькасці сваёй немалы народ! Разуменне ў В.Акудовіча «ўвесь народ» расплывістае, няпэўнае. Што значыць — «узняўся ўвесь народ»? Няўжо ў разуменні Акудовіча «ўвесь народ узняўся» на барацьбу з агрэсарам — выступілі пагалоўна ўсе? За зброю ўзяліся ўсе, ад пракаветных дзядуляў і бабуль да спавітых дзяцей? У звычайным разуменні ўвесь народ — значыць, што большая частка, здольная валодаць зброяй, пайшла на фронт і ў партызаны. Мужчыны і некаторая доля жанчын. Да іх трэба далучыць абсалютна большую частку тых грамадзян, якія дзеяннямі сваімі на вытворчасці і ў грамадскай сферы, а таксама маральна падтрымлівалі армію і партызан і тым самым садзейнічалі перамозе над агрэсарам. Вось гэтыя групы народа і складалі ў вайну большую частку насельніцтва Беларусі. Былі і такія, якія свядома ці не свядома падтрымлівалі акупантаў, а некаторыя свядома, са зброяй у руках выступілі ў падтрымку агрэсараў. Абсалютная большасць беларускага народа, якая падтрымлівала Чырвоную Армію, якраз і змагалася за захаванне этнасу.

Дапусцім самае страшнае — Германія перамагла. Знікла б Беларусь з твару зямлі, і беларусы, як і ўкраінцы, і рускія, і іншыя народы Савецкага Саюза, таксама б зніклі.

Артыкул В.Акудовіча ўвесь пабудаваны на абстрактных разважаннях. У ім не знойдзеце ні канкрэтных фактаў, ні іх аналізу. Разглядаецца ў плане хваравітага пацыфізму нейкая абстрактная вайна. Але ж абстрактных войнаў не бывае, кожная вайна абсалютна канкрэтная, мае сваё, калі можна так сказаць, аблічча. Кожная вайна мае два франты, якія супрацьстаяць адзін аднаму. Каб меркаваць аб характары вайны, трэба вызначыць мэты яе з боку кожнага праціўніка. Але ніхто з аўтараў прыгаданых вышэй артыкулаў не цікавіцца гэтым пытаннем. Ні ў М.Віжа, ні ў В.Акудовіча, ні ў Ю.Туронка вы не знойдзеце ні слова пра «Dranq nach Osten!» — прарыў на Усход.

Няўжо аўтарам разглядаемых тут артыкулаў, асабліва пану Туронку, які правёў спецыяльнае даследаванне пра акупацыю Беларусі, невядома, што яшчэ ў дваццатыя гады Адольф Гітлер у сваёй кнізе «Майн Кампф» пісаў: «Калі мы сёння гаворым пра новыя землі ў Еўропе, мы звяртаем свой позірк у першую чаргу на Расію?»

Як вядома было задоўга да вайны, Гітлер марыў пабудаваць тысячагадовы нацыянал-сацыялістычны Райх. А для гэтага Германія, на яго перакананне, мела патрэбу ў lebensraum'і — жыццёвай прасторы. Ставілася задача заваявання зямель Савецкага Саюза ад заходніх граніц да Урала, знішчэнне на гэтых землях усіх дзяржаўных утварэнняў і ачыстка іх ад мясцовага насельніцтва, за выключэннем невялікай часткі для выкарыстання ў якасці рабоў. На заваяваных землях прадугледжвалася будаўніцтва нямецкіх латыфундый.

Праўда, пан Туронак прыгадвае ў сваёй кнізе пра мэты заваёў савецкіх зямель. Але паводле перадачы Туронка выходзіць, што сам Гітлер да пачатку вайны з Савецкім Саюзам не ведаў, дзеля чаго ён заваёўвае новыя землі. Толькі «з восені 1941 г. Гітлер **пачаў** (падкрэслена мной. — **І.Д.**) часцей разважаць пра будучае нямецкае панаванне на ўсходніх землях. Найбольш поўна ён выказаў сваё меркаванне вясной 1942 г., у сваіх так званых Tischqeschpreche — застольных гаворках — яны вяліся, — піша Туронак, — вакол наступных прынцыповых пытанняў:

1. Мэтай германскай палітыкі на ўсходніх акупаваных савецкіх абшарах павінна быць іх гаспадарчае выкарыстанне. Трэба пастарацца выцягнуць з гэтых раёнаў усё, што толькі ўдасца. Зацікаўленасць насельніцтва ў пастаўках сельгаспрадукцыі і працоўнай сілы для шахтаў і прамысловасці Райха павінна стымулявацца пастаўкамі вырабаў нямецкай прамысловасці - іх продаж павінен весціся ў адпаведнасці з патрэбамі мясцовага жыхарства.

2. Галоўны прынцып нямецкага панавання на гэтай тэрыторыі — поўнае задавальненне жаданняў насельніцтва ў галіне індывідуальных свабод і пры гэтым — пазбяганне стварэння якіх-небудзь мясцовых дзяржаўных структур. Найвышэйшая ступень улады, якая можа быць даступнай для тутэйшых жыхароў, — гэта валасная ўправа. Даверыць ім уладу вышэйшага ўзроўню — значыць стварыць магчымасць аб'яднання валасцей у буйнейшыя адміністрацыйныя адзінкі, а гэта магло б быць выкарыстана супроць інтарэсаў Райха. Натуральна, належыць забараніць стварэнне на акупаваных землях любых нацыянальных арганізацый. Задачаю нямецкіх камісараў у гэтай галіне з'яўляецца выключна нагляд і кіраванне гаспадаркай.

3. На ўсёй акупаванай савецкай тэрыторыі парадак і бяспеку павінны ўтрымліваць нямецкія сілы. Стварэнне ўзброеных сіл заваяваных народаў было б велізарным нонсенсам: як вучыць гісторыя — гэта conditio sine qua non (абавязковая ўмова) упадку пануючай (чытай — заваёўніцкай. — **І.Д.**) нацыі.

4. Мясцовае насельніцтва належыць утрымліваць на як мага ніжэйшым узроўні культуры. Школы дапушчальныя толькі на пачатковым узроўні, пры гэтым не трэба ўводзіць абавязковага школьнага навучання. Уменне чытаць і пісаць — увогуле шкоднае, бо дае магчымасць больш светлым галовам спазнаць гісторыю, а значыць, даходзіць і да палітычнага мыслення, якое магло б сваім вастрыём павярнуцца супроць Германіі. Пагэтаму лепей у кожнай вёсцы паставіць рэпрадуктары і перадаваць навіны, пацешлівыя праграмы і вясёлую музыку, чым прывучаць насельніцтва да самастойнага навуковага і палітычнага мыслення. Адначасова трэба імкнуцца да раз'яднання грамадскіх згуртаванняў, напрыклад, у галіне рэлігіі пажадана было б у кожнай вёсцы мець асобную секту.

5. Трэба імкнуцца да абмежавання вялікага натуральнага прыросту мясцовага насельніцтва. Для гэтага трэба наладзіць шырокі продаж процізачаткавых сродкаў і дазволіць перарыванне цяжарнасці. За рэдкім выключэннем, нямецкім лекарам неабходна пазбягаць аказання медыцынскай дапамогі мясцовым жыхарам. Не варта займацца ахоўным прышчэпліваннем і праводзіць дэзінфекцыю сярод гэтых людзей».

На гэтых тэзах Гітлера Гімлер распрацаваў праект германізацыі ўсходніх зямель, так званы «Генеральны план Ост». Меркавалася ачысціць усю заваяваную тэрыторыю ад мясцовага насельніцтва, пакінуць толькі невялікую частку яго ў якасці рабоў.

Прафесар Я.Шыраеў піша: «Калі меркаваць па нямецкім плане «Ост», беларусам быў падрыхтаваны, вядома, не лёгкі, але менш цяжкі лёс, чым суседнім народам» («ЛіМ», 3.4.92). Шыраеў знаходзіць суцяшэнне ў тым, што з Беларусі вызначалася выслаць 75 працэнтаў насельніцтва, а ў другіх рэспубліках яшчэ больш.

А «для часткі насельніцтва, якую фашысты лічылі арыйскай, няхай колькасна меншай, — удзячліва прыміраецца Я.Шыраеў, — дапускалася асіміляцыя з немцамі і ставілася патрабаванне адносіцца да іх як да немцаў».

Гэта няпраўда, выдуманая самім прафесарам ці запазычаная ім. Ніколі нямецкія фашысты не лічылі славян арыйцамі, наадварот, яны адносілі ўсіх славян да ніжэйшай расы. Тыя 25 працэнтаў, якія пакідаліся на Беларусі, павінны былі быць анямечаны, гэта значыць, авалодаць нямецкай мовай. Раб павінен ведаць мову рабаўласніка. Асіміляцыя беларусаў немцамі забаранялася, нават каралася. Аб адносінах немцаў да тае часткі насельніцтва, якая пакідалася на Беларусі ў якасці рабоў, Гітлер сказаў у сваіх Hischqeschpreche, пра якія апавядалася вышэй. Туды і адсылаю прафесара Я.Шыраева.

Яшчэ пра адну дабрадзейнасць фашысцкіх акупантаў нагадваюць Ю.Туронак і Я.Шыраеў. Нямецкае камандаванне адпускала з лагераў дамоў усіх салдат-беларусаў, якія трапілі ў палон. Я.Шыраеў адзначае гэта як «факт лаяльнага стаўлення немцаў да беларусаў у першы год вайны». «Для гэтага дастаткова было бацькам або родзічам ваеннапалоннага звярнуцца да ваенных улад, ахоўнікаў лагера, і ваеннапалоннага адпускалі дадому».

Гэта праўда, адпускалі, але не ўсіх беларусаў, а толькі тых, за каго прасілі родныя. Зрабіць гэта маглі толькі тыя родныя палонных, якія жылі паблізу лагераў. Усе лагеры не абыдзеш. Каб знайсці свайго роднага, трэба было падысці на пэўную адлегласць да лагера і выявіць сваіх, распытваць у зняволеных, ці няма ў лагеры такога-та.Дарэчы, вызвалялі з лагераў не толькі беларусаў, але і палонных іншых нацыянальнасцей, апроч яўрэяў, абы прыйшлі родныя. То былі адзінкавыя выпадкі. Тыповай жа карцінай абыходжання немцаў з савецкімі ваеннапалоннымі, у тым ліку і з беларусамі, была такая.

*(Працяг на стар. 13)*

ЛіМ
ЧАСАПІС



## ЛАЎРЭАТЫ БГАКЦ

**У Беларускім гуманітарным адукацыйна-культурным цэнтры, дзе я вучуся ў ліцэі, адбылася падзея, якую сапраўды можна назваць падзеяй года — уручэнне традыцыйных прэмій Цэнтра.**

**Першай прэміяй адзначаюцца высокамастацкія творы, якія спрыяюць выхаванню нацыянальна свядомай інтэлектуальнай эліты, а другая прысуджаецца за грамадскую чыннасць дзеля Бацькаўшчыны. Лаўрэатам прэміі за літаратурную дзейнасць стаў аўтар паэтычных зборнікаў «Сурма» і «Расколіна», філасофскай прыпавесці «Краіна цудаў» — Алег Мінкін, а лаўрэатам у галіне грамадскай патрыятычнай дзейнасці стаў старшыня Згуртавання беларускіх вайскоўцаў Мікола Статкевіч.**

**У склад камісіі, якая разглядае спіс прэтэндэнтаў на званне лаўрэатаў, уваходзяць кіраўнікі Цэнтра, вядомыя беларускія грамадскія дзеячы, навукоўцы, сярод якіх Лявон Баршчэўскі, Васіль Сёмуха, Анатоль Сідарэвіч, а таксама навучэнцы ліцэя.**

**Прэміі ўручыў Уладзімір Колас, дырэктар Цэнтра і старшыня камісіі, а разам з імі і грашовыя ўзнагароды, памер якіх вызначаецца намінальным коштам самай буйной беларускай купюры на момант уручэння.**

**Нашых гасцей вітаў хор «Унія». І мы, навучэнцы, таксама паспрабавалі ўнесці сваю невялічкую долю: падрыхтавалі канцэрт, у якім прынялі ўдзел 1-ы і 4-ы курсы.**

**Вераніка ПАНІЗНІК,**
**навучэнка 4-га курса ліцэя БГАКЦ**

## «УРОК ГАЮЧАГА СЛОВА»

**У сярэдняй школе N 11 г. Мінска прайшоў чарговы ўрок Адраджэння. Гэтым разам ён меў назву «Урок гаючага слова» і прысвячаўся раману Івана Шамякіна «Злая зорка». Як вядома, у гэтым творы расказана пра чарнобыльскую катастрофу і пра тое, як адгукнулася яна ў людскіх душах. Іван Пятровіч, беручыся за напісанне рамана, наведаўся ў мясціны, дзе ўздзеянне Чарнобыля асабліва моцнае. Пабываў і ў так званай трыццацікіламетровай зоне. Выязджаў туды разам з Барысам Сачанкам і Міколам Мятліцкім, які, як мы паведамлялі ўжо, і з'яўляецца адным з ініцыятараў правядзення гэтых урокаў Адраджэння. Дарэчы, зусім нядаўна яму прысвоена званне ліквідатара. Паэт пабываў добры дзесятак разоў там, куды сёй-той баіцца завітаць і на хвіліну. Не адзін дзень жыў і ў выселенай роднай вёсцы Бабчын Хойніцкага раёна, пішучы сваю новую кнігу, што будзе так і называцца — «Бабчын».**

**На сустрэчы з настаўнікамі і вучнямі пра творчасць І. Шамякіна і яго раман «Злая зорка» гаварылі М. Мятліцкі, Г. Шупенька, У. Савуліч, настаўніца беларускай мовы і літаратуры Г. Сасноўская, дырэктар школы А. Грушэўская. Уражаннямі аб творы падзяліўся і ўраджэнец Судана, а цяпер грамадзянін Беларусі — на нашай зямлі ён знайшоў сваё сямейнае шчасце — Хусейн Муса. Ён падкрэсліў, што экалагічныя праблемы сёння ва ўсім свеце паўсталі аднолькава востра, змагацца за выжыванне вымушаны і Афрыка, і Беларусь.**

**На сустрэчы гучалі ўрыўкі з рамана І. Шамякіна, вершы М. Мятліцкага, у тым ліку і ў аўтарскім чытанні. Выступілі школьныя ансамблі «Жывіца», «Вавёрачка», цымбалістаў. І, вядома ж, слова было дадзена самому І. Шамякіну.**

**Н. К.**

## «НАРАДЗІЎСЯ Я ЛІЦВІНАМ...»

**Так назвалі сваю кнігу пра Тадэвуша Касцюшку Язэп Юхо і Уладзімір Емяльянчык.**

**Адзін з аўтараў кнігі Я. Юхо да вобраза легендарнага барацьбіта «за нашу і вашу свабоду» звяртаецца не ўпершыню. У прыватнасці, у 1990 годзе выдавецтва «Навука і тэхніка» выпусціла ў серыі «Нашы славутыя землякі» яго нарыс «За вольнасць нашу і вашу».**

**І вось у той жа «Навуцы і тэхніцы» — чарговы варыянт жыццяпісу Т. Касцюшкі, напісаны з улікам найноўшых здабыткаў нацыянальнай гістарычнай навукі, дакументаў пра паўстанне і яго легендарнага кіраўніка, што адшуканы нядаўна. Каб такая неабходная кніга з'явілася своечасова, парупілася культурнае аб'яднанне «Беларусь» з горада Алматы.**

**Прэзентацыя кнігі Я. Юхо і У. Емяльянчыка прайшла ў Беларускім дзяржаўным педагагічным універсітэце. Студэнты, выкладчыкі мелі магчымасць сустрэцца з аўтарамі, а таксама пісьменнікамі Уладзімірам Арловым, Яўгенам Лецкам, Яраславам Пархутам, літаратуразнаўцам Аляксеем Рагулем... Прыехаў на сустрэчу і прадстаўнік культурнага аб'яднання «Беларусь» Яўген Майсейчык.**

**Гаворка вялася не толькі пра само паўстанне, ролю ў нацыянальнай гісторыі Т. Касцюшкі і яго паплечнікаў, а і пра тое, што толькі агульнымі намаганнямі гісторыкаў, пісьменнікаў, усіх нацыянальна свядомых людзей можна дабіцца, каб асноўныя падзеі мінуўшчыны — як далёкай, так і блізкай — падаваліся праўдзіва.**

***Імя Івана Шамякіна даўно і трывала ўгнездавалася ў нашай літаратуры. З ім так ці інакш звязаны досыць значны пласт духоўнай культуры беларускага народа, многія філасофска-гуманістычныя і маральныя, сацыяльна-псіхалагічныя пошукі і зрухі нашага грамадства. Творчасць пісьменніка мае непасрэднае дачыненне да рассоўвання праблемна-тэматычных абсягаў сучаснай беларускай прозы, яе выхаду да якасна новых гуманістычных каардынат і крытэрыяў, перспектыўных шляхоў у асэнсаванні багацця і шматстайнасці жыцця. Яна яскрава ўвасобіла складанасці і супярэчнасці нацыянальнага духоўна-мастацкага развіцця, яго вызначальныя тэндэнцыі і заканамернасці, відавочныя дасягненні і страты.***

***Празаік, бадай, заўсёды вызначаўся тым, што выяўляў добрае веданне жыцця народа, агульна-настраёвай атмасферы часу, аператыўна адгукаўся на грамадска-значныя працэсы, імкнуўся раскрыць прыгажосць і своеадметнасць духоўнага вобліку чалавечай асобы ў суаднесенасці з надзённымі сацыяльнымі канфліктамі.***

***Іван Шамякін самабытны не толькі як пісьменнік, творца, але і як чалавек, асоба — са сваімі поглядамі на жыццё, вопытам перажытага, адносінамі да сацыяльных катаклізмаў мінулага і вірлівых падзей сённяшняга дня. Шмат у чым цікавымі і павучальнымі ўяўляюцца многія яго думкі-развагі з адказаў на мае запытанні.***

# НА ВАСТРЫІ ЧАСУ

## ГУТАРКА З ІВАНАМ ШАМЯКІНЫМ

**— Іван Пятровіч, як вы ставіцеся да сучасных грамадска-сацыяльных пераўтварэнняў? Што прымаеце ў іх, што не прымаеце?**

— Пытанне, канешне, нялёгкае, скажу шчыра. Гісторыя развіваецца не паслядоўна і не па ўзыходзячай, а зігзагападобна. Мы ведаем, што ў старажытнасці і ў сярэднія вякі гінулі цэлыя імперыі. Ды і ў наш час стваралiся і распадаліся. У агульным плане, канешне, чалавецтва і цывілізацыя рухаюцца наперад. Я маю на ўвазе тэхнічны, сацыяльны прагрэс, развіццё грамадства ў філасофскім сэнсе. Маё перакананне (ды і не толькі маё, да мяне гэтую думку выказалі розумы значна вышэйшыя і глыбейшыя, чым мой) — будучыня чалавецтва ўсё ж такі за сацыялізмам. Той, будучы сацыялізм, напэўна, не будзе падобны да гэтага, што мы будавалі. Сацыялізм жа не Ленін прыдумаў і нават не Маркс. Самі па сабе ідэі сацыялізму закладзены яшчэ ў вучэнні Ісуса Хрыста. Але нягледзячы на тое, што гэта вучэнне заваявала значную частку чалавецтва, гісторыя ўсё роўна развівалася далёка не па ім, нават калі мець на ўвазе хрысціянскія дзяржавы, Еўропу. Усе асновы сацыяльнай роўнасці, справядлівасці, свабоды чалавека закладзены там, у гэтым, не пабаюся сказаць, вялікім і мудрым вучэнні. Трэба мець на ўвазе, што «Біблія» пісалася не Ісусам Хрыстом, а многімі, каго мы называем Апосталамі. А яны былі мудрымі людзьмі. І ў той далёкі час было нямала разумных людзей. Таму тое, што зараз адбываецца — у святле вялікіх гістарычных пераўтварэнняў, — здавалася б, не павінна нас ашаламляць, калі ведаць хоць павярхоўна гісторыю чалавецтва. І ўсё ж ашаламляе. Цяжка ва ўсёй гісторыі назваць іншую вялікую дзяржаву ці, як зараз кажуць, імперыю, якая б распалася так, як распаўся наш былы Саюз Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік. Без войнаў, сур'ёзных катаклізмаў, на працягу некалькіх гадоў. Гэта з'ява унікальная. Канешне, асновы нашага сацыяльнага ладу дзесьці падгнілі...

**— У якім напрамку, на ваш погляд, пойдзе развіццё нашай роднай Беларусі?**

— У нас зараз ідзе дзікае, першапачатковае накапленне капіталу. Гэта адна з характэрных, вызначальных рыс капіталізму. Яна напрамую звязана з разбоем і эксплуатацыяй. Дзікая спекуляцыя, калі нам усё прадаюць па спекулятыўна-высокіх цэнах, — гэта тое ж аграбленне, той жа крадзеж, не што іншае. А карупцыя? Ну, дапусцім, і пры камуністах кралі, але ж не ў такіх маштабах. Цяпер жа шляхам карупцыі, прысваення раскрадаюцца багацці, можа, у дзесяткі працэнтаў нацыянальнага даходу. Канешне, трэба былі рэформы, я за рынак. Але я за той рынак, які робяць, напрыклад, кітайцы. Яны ідуць па больш правільным шляху. У нас жа не рынак, а самы сапраўдны базар — у найгоршым значэнні гэтага слова.

Нельга было ламаць так сацыяльны лад, дзяржаўныя структуры, трэба было ўводзіць цывілізаваны рынак. Маё абсалютнае перакананне: зараз, пры нашай беднасці, ніяк нельга адмаўляцца ад дзяржаўнага рэгулявання.

Вось я зараз чытаю «Другую сусветную вайну» У. Чэрчыля. Шэсць тамоў. Цікавейшая праца, раю прачытаць. З яе відаць, як урад Англіі ажыццяўляў рэгуляванне сваёй эканомікі. Пасля 1940 года, калі немцы акупавалі Францыю, Галандыю, Бельгію, Данію, Нарвегію... Таму пры ўсім тым, што мы павінны ісці да рынку, у нашых умовах павінна быць дзяржаўнае рэгуляванне. Нельга праводзіць прыватызацыю так, як праводзім яе мы. Гэта па сутнасці разрабленне.

Я лічу, што нельга прыватызаваць буйныя прадпрыемствы. У многіх капіталістычных краінах буйныя прадпрыемствы, асабліва абароннай прамысловасці, знаходзяцца ў руках дзяржавы. Нават калі яны і акцыянерныя, то ўсё роўна кантралююцца ўладамі. Нельга адмаўляцца ад планавага вядзення гаспадаркі. Тое, што пішуць некаторыя нашы не вельмі пісьменныя журналісты і нават эканамісты, няпраўда. Нават пры рыначных адносінах у тых жа Амерыцы і Японіі ёсць дзяржаўнае планаванне, яго прытрымліваюцца ўсе краіны. Над гэтым, мне здаецца, варта было б сур'ёзна падумаць нашым кіраўнікам.

**— Іван Пятровіч, вы лагічна падвялі мяне да наступнага пытання. Цікава ведаць, як вы адносіцеся да сённяшніх нашых лідэраў — на ўзроўні Вярхоўнага Савета, урада.**

— Я вам павінен сказаць: сапраўдных лідэраў, на вялікі жаль, у нас няма. У гэтым бяда наша. Усё-такі нацыя павінна мець свайго лідэра. Разам з тым я не магу падтрымаць і тых, хто зараз патрабуе: Вярхоўны Савет — у адстаўку, урад — у адстаўку. А з кім застанёмся, хто будзе кіраваць дзяржавай? Якраз гэтага патрабуе апазіцыя. А хто прыйдзе? З. Пазняк? Дык ён жа археалогіяй, здаецца, займаўся.

Як на Захадзе робіцца? Перамагаюць, напрыклад, на выбарах кансерватары, значыць, да ўлады прыходзіць кансерватыўны ўрад. Але ён у іх ужо быў, ценявы. Кожная з партый, асабліва ў Англіі і Амерыцы, рыхтуючыся да выбараў, мае свой ценявы ўрад. Гэта людзі, як правіла, у вышэйшай меры падрыхтаваныя. Вы разумееце, у чым справа? Мяняюць толькі вярхушку, прэм'ер-міністра і міністраў, чыноўнікі ж застаюцца, працуюць. У той жа Італіі за пяцьдзесят пасляваенных гадоў змянілася 46 урадаў. Таму, калі зараз разагнаць усіх чыноўнікаў, — хто працаваць будзе? Не так усё проста, як некаму здаецца.

Новыя выбары трэба, я за выбары. Дарэчы, я гляджу, парламент год назад прыняў рашэнне правесці іх у сакавіку 1994 года, а зараз маўчыць.

**— Ніхто не рыхтуецца.**

— Ніхто не рыхтуецца, ніхто нават не ставіць гэтага пытання на сесіі. У бліжэйшы час іх яўна не будзе. Выбары могуць адбыцца хіба што ўвосень. Трэба новы парламент. Будзе ён лепшы ці не будзе — сказаць цяжка. Але выбары, можа, хоць падымуць палітычную актыўнасць народа. Няшчасце ў тым, што народ стаў абыякавы да палітыкі. Ён ашаломлены падзеямі, што адбываюцца навокал. Людзі толькі і думаюць, дзе б зарабіць грошы, дзе б што-небудзь купіць або прадаць. Спачатку ў Польшчу ездзілі, цяпер, калі туды стала нявыгадна, усё пачалі вазіць у Маскву, Смаленск, Бранск і г. д.

Калі будуць выбары, натуральна, павінен быць новы ўрад, новы прэм'ер, новыя яго намеснікі, відаць, многія міністры. Але і пераемнасць павінна быць. Што датычыць буржуазнай дэмакратыі, то яна гэтую пераемнасць вельмі хараша распрацавала.

**— А што б вы маглі сказаць пра сітуацыю, якая склалася ў рэспубліцы?**

— Вы маеце на ўвазе адстаўку Шушкевіча? Што ж, калі мы лічым сябе дэмакратычнай краінай, то адбыўся нармальны працэс, хоць па-чалавечы мне шкада Станіслава Станіслававіча. У 1991 годзе я запісаў у дзённіку, што дарэмна добры вучоны палез у палітыку. Шушкевіч працаваў з сумненнямі фізіка, а ў палітыцы павінна быць цвёрдая паслядоўнасць.

Вячаслаў Кебіч — палітык вопытны, ён прайшоў вялікую школу кіравання гаспадаркай, быў жа і дырэктарам завода, і сакратаром гаркома, доўгі час працаваў у Дзяржплане СССР і БССР. Чалавек ён дзелавы, актыўны. Такіх кіраўнікоў нямнога. Іх трэба крытыкаваць, але трэба і цаніць.

Я падтрымліваю ідэю Кебіча аб эканамічным саюзе з Расіяй. Не можам мы пакуль без яе. Семдзесят гадоў разам развівалася наша народная гаспадарка. Нельга зараз ірваць па-жывому.

**— Іван Пятровіч, ці чыталі вы артыкул Л. Лыча ў адным з нумароў «ЛіМа»? Ва ўсёй гісторыі, піша Л. Лыч, мы не знойдзем ніводнага выпадку, «каб нармальна жыў, квітнеў народ, які не мае ўласнай дзяржавы». Нельга адмаўляцца ад суверэнітэту ў імя эканамічных выгод, бо могуць так скласціся абставіны, што пасля ў поўным аб'ёме ўзнавіць яго будзе вельмі цяжка, а то і немагчыма.**

— Нас палохаюць. Што значыць, «немагчыма ўзнавіць»? А калі голад, сацыяльны выбух будзе, калі пачнём забіваць адзін аднаго, — Л. Лыч пра гэта думае? Еўропа ж не баіцца. Галандыя, Бельгія, іншыя краіны не баяцца страціць свой суверэнітэт, падпісваючы пагадненні і ўступаючы ў агульны рынак. Эканамічны саюз не можа ўдарыць па суверэнітэту. Пра які суверэнітэт можа ісці гаворка, калі мы будзем бедныя?

Эканамічнага суверэнітэту не мае ніводная дзяржава. Вазьміце тую ж Японію, яна залежыць ад паставак з усяго свету, ад закупу сыравіны, нафты. Галоўнае — палітычны і культурны суверэнітэт, каб была нацыя са сваёй мовай, сваёй культурай. Нашы пераўтварэнні пакуль што прывялі да заняпаду культуры. Я вам скажу: харошая ў нас была літаратура, што б зараз ні гаварылі. Кажуць: не тое ці не так пісалі, трымаліся сацрэалізму і г. д. Пісалі пра народ, пра яго подзвіг, ратны і працоўны. Шанавалі таленты. Выступаючы на нарадзе маладых пісьменнікаў у Доме творчасці «Іслач», я сказаў, што прапрацаваў у Саюзе пісьменнікаў дваццаць шэсць гадоў і за гэты час, з усёй упэўненасцю заяўляю, мы не страцілі ніводнага таленавітага літаратара. Мы праводзілі семінары — абласныя, рэспубліканскія, жанравыя і інш. Разам з камсамолам, партыйнымі арганізацыямі па-сапраўднаму займаліся выхаваннем літаратурнай моладзі. Канешне, тое, што рабілася тады ў грамадстве, было ненармальным. У гэтым найперш віна многіх кіраўнікоў, першых асоб. Па сутнасці мы, пісьменнікі, трымалі нашу мову. Нас чыталі, можа, не так ужо шырока, як хацелася, але чыталі. Без літаратуры, відаць, зусім знікла б наша мова.

**— Хаця вас і Танка зараз і папракаюць за тое, што на ўзроўні Вярхоўнага Савета не баранілі мовы.**

— Мы тады якраз баранілі. Калі прымалі закон аб мовах, я і не будучы дэпутатам тройчы выступаў. Іван Навуменка быў тады старшынёй Вярхоўнага Савета. І ў ЦК мы пісалі, і да Машэрава не адзін раз хадзілі. Кіраўніцтва з намі згаджалася, але ў той жа час нічога не рабіла для беларусізацыі. Думаю, што зараз менш робяць, чым мы рабілі. Праўда, гавораць больш, але гаварыць мала. Трэба дзейнічаць, узброіўшыся новай тактыкай. Дэмакратыя дае куды большыя магчымасці, чым мелі іх мы.

Зараз моцна вінавацяць рускіх. Так, многа кадраў з Расіі прыслалі да нас адразу пасля вайны. Рускія па нацыянальнасці сакратары райкомаў, канешне, насаджалі рускую мову, але мы і самі вінаватыя. Вось я пісаў пра Машэрава. Разумны чалавек быў! Але ў сваіх успамінах я падкрэсліў, што ў нацыянальных адносінах ён не заўсёды прымаў правільныя рашэнні. Ты ж першая асоба, беларускі настаўнік. Выступі хоць адзін раз на пленуме ці на сесіі па-беларуску, і адразу ўсе ў нізах — сакратары райкомаў і гаркомаў — задумаліся б. А калі першая асоба толькі па-руску? Гэта як сігнал: давай русізацыю.

**— Іван Пятровіч, што вас хвалюе ў сённяшнім літаратурным жыцці?**

— Асабліва хвалюе звужэнне магчымасцей выдавацца. Я вам скажу, нашы пісьменнікі проста падзвіжнікі, пішуць нягледзячы ні на што. А выдавацца між тым становіцца ўсё цяжэй і цяжэй. Нават нам, старым, нібыта ўжо і заслужаным людзям і прызнаным пісьменнікам. Гэта ж немагчыма: гаворым пра беларусізацыю, а тыражы падаюць. Чаго ніколі не было — паэзію ўжо выдаюць у адну тысячу экземпляраў. Вось гэта больш за ўсё і хвалюе.

Я разумею цяжкасці, разумею, што няма паперы, сродкаў на ганарары і г. д. Але гэта ненармальна. Калі ўрад думае пра пабудову дзяржавы, ён павінен знайсці і паперу і грошы.

## А ШТО КАЖА ГІСТАРЫЧНЫ ВОПЫТ?

Нядаўна, як вядома, прынята Канстытуцыя Рэспублікі Беларусь. Наперадзе — першыя ў нацыянальнай гісторыі прэзідэнцкія выбары. У сувязі з гэтым узнікае нямала спрэчных момантаў, і кожны з апанентаў спрабуе даказаць, што толькі ён і ніхто іншы мае рацыю.

Бадай, ва ўсім разабрацца можна, звярнуўшыся да сусветнага вопыту ў гэтай справе. Зрабіць гэта няцяжка. Фонд Сораса і выдавецтва «Беларусь» выпусцілі кнігу прэзідэнта Інстытута дэмакратыі (Францыя) Г. І. Лардэйрэ «Канстытуцыя і сістэма выбараў: што кажа гістарычны вопыт». У гэтай працы можна знайсці адказ на шмат якія пытанні, што ўзнікаюць у сувязі і з цяперашняй сітуацыяй на Беларусі.

## ДАЙ БОЖА ЗНАЦЬ,

з кім век векаваць? Пытанне, на якое не так і проста адказаць. А калі паспрабаваць да народнага вопыту звярнуцца? Нашы продкі былі разумнымі людзьмі, ці не на ўсе выпадкі жыцця знаходзілі прымальнае выйсце. Праўда, шмат якія з іхніх парад не адно дзесяцігоддзе мы называлі прымхамі, забабонамі, а калі разабрацца...

Выдавецтва «Навука і тэхніка» пайшло насустрач усім, хто жадае прадугадаць уласны лёс, і выпусціла ўласны зборнік, які так і называецца — «Дай Божа знаць, з кім век векаваць», складзены У. Васілевічам. У ім упершыню сабраны разам розныя віды беларускай народнай варажбы. Тут ёсць парады, як прывабіць каханага і пазбавіцца сурокаў, як дасягнуць доўгага жыцця і дастатку ў сям'і. Адным словам, дай Божа знаць...

## ПРА ШТО РАСКАЖАШ, АБРАД?

Апошнім часам мы больш уважліва ставімся да народных звычаяў і традыцый. Вяртанню іх нямала садзейнічаюць і розныя выданні. Кніга «Беларускія народныя абрады» (пабачыла яна свет у выдавецтве «Беларусь») — акурат з тых, што нямала даюць душы і сэрцу. Складальнік і навуковы рэдактар яе Л. Касцюкавец парупілася, каб сабраць разам матэрыялы, што дазваляюць лепш пазнаёміцца з абрадамі, якія з'яўляюцца унікальнымі. Пераважная большасць з іх, акрамя тых, што ўзяты з асобных зборнікаў, выпушчаных Акадэміяй навук Беларусі, друкуюцца ўпершыню.

Абрад загукання вясны і веснавыя песні прадстаўляе Л. Зыкава. С. Мыцько падрабязна знаёміць з валачобным абрадам. Менш вядомы на сённяшні дзень троіцка-сяміцкі абрад у полі зроку І. Багданец і Л. Шамсутдзінавай. Іншыя раздзелы пашыраюць уяўленне аб яшчэ некалькіх абрадах: «Валачобны абрад» С. Мыцько, «Купальскі абрад» Л. Касцюкавец, «Радзінны абрад» Н. Лежневай, «Каравайны абрад» А. Гуслевай і Л. Шамсутдзінавай.

Змешчаны ноты і тэксты песень, а значыць кнігу выкарыстаюць у паўсядзённай працы культурна-асветніцкія работнікі.

## РАДАВОД «СПАДЧЫНЫ»

пачаў весціся з 1969 года. Менавіта тады, дваццаць пяць гадоў назад, выйшаў першы нумар бюлетэня «Помнікі гісторыі і культуры Беларусі». Пераемнікам яго стаў часопіс «Спадчына». Таму сёлетні першы нумар яе адначасова пазначаны і 103-м. На тытуле ўзгадваецца таксама і назва папярэдніка.

А што да матэрыялаў, дык яны, думаецца, аматарам даўніны спадабаюцца. Змешчана падборка «Памяці Каліноўскага», артыкул Д. Карава «Пачаткі беларускага крыніцазнаўства», фрагменты з кнігі А. Глябовіча «Касцёл у няволі» (публікацыя і пераклад В. Ракіцкага), камедыя У. Радзівіл «Забава фартуны» (уступ В. Арэшкі), даследаванне Э. Рудзкага «Алена Маскоўская — жонка вялікага князя літоўскага Аляксандра Ягелончыка».

У раздзеле «Дакументы і людзі» — матэрыялы «Васіль Захарка — другі прэзідэнт БНР», «Жыццяпіс Любіч-Маеўскага», «Дакументы да змовы Гітлера і Сталіна да пачатку другой сусветнай вайны».

Друкуюцца пачатак успамінаў Я. Германовіча «Кітай — Сібір — Масква», працяг кнігі Г. Сагановіча «Невядомая вайна (1654—1667)», артыкул А. Грыцкевіча «Гісторыя геапалітыкі Беларусі» і В. Дольніка «Ці існуюць біялагічныя механізмы рэгуляцыі колькасці людзей?».

Не лішне нагадаць, што памер «Спадчыны» павялічыўся на чатыры друкаваныя аркушы і цяпер стаў ці не семнаццаць аркушаў. Але ходзяць чуткі і не вельмі прыемныя. З-за так званых паліграфічных праблем часопіс, відаць, у хуткім часе зменіць фармат.

*Паэзія*

Пятро ПРЫХОДЗЬКА



## РАСЧАРАВАННЕ

Не толькі я адзін расчараваны
Жыццём, лічыў якое неблагім.
Былыя годы — як старыя раны —
У сэрцы адгукающца маім.

А дзе той шлях, якім ішоў упарта
І пра сябе не думаў быў зусім:
Для нас тады сярод нямногіх партый
Адна вышэй стаяла над усім.

Пісаў заяву я сваю ў акопе,
Каб камуністам мне ісці у бой.
Гатовы быў я ў байцы, мужны хлопец,
Усю радзіму засланіць сабой.

І вось прыйшло ў душу
расчараванне, —
Ці так ішоў я па шляху крутым?
Што больш не маю камуніста званне —
То не бяда, і, пэўна, грэх не ў тым.

Балюча позняю парой такою
Парваць з усім мінулым да канца.
А думкі не даюць нідзе спакою —
Няўжо і вера страчана ў байца?

Ні кроплі ўжо ад той не стала веры,
Якой жыла гвардзейцаў нашых раць?..
Лягчэй засведчыць гэта на паперы, —
А як душу на часткі разарваць?

Якое слова адшукаць святое,
Каб надалей упэўненасць дало?
На ўсе пытанні хай адкажа тое,
Што проста міфам шмат гадоў было.

Што значыў заклік — днямі і начамі
Капаць для скону капітала дол?
Сваімі ж кожны бачыць мог вачамі,
Што ўсюды ў нас рабілася вакол.

Хапала і на фронце бедалагаў,
Якіх без вестак кідалі ў зямлю.
А ў гэты час дзесяткі ўжо гулагаў
Атруты ўсюды рассыпалі тлю...

А сёння, паглядзі, на схіле веку
На тых, што ўсе пасады занялі!
І мутарна нам ад былых генсекаў:
Мы ходзім з торбай па сваёй зямлі...

Зноў тыя ж думкі не даюць спакою,
Якія праз агонь калісь пранёс.
А хто мне скажа — з партыяй якою
Магу на старасці звязаць свой лёс?..

## САЛДАЦКІЯ СНЫ

*Памяці баявых сяброў*

Не раз салдату перад боем
Прысніцца мог шчаслівы сон, —
Ды не прарочыў, каб героем
З вайны дамоў вярнуўся ён.

Было прыемна на прывалах
Аддацца нівам і лясам,
Калі парыў душы трывалай
Нязбыўным сном з'яўляўся сам.

Пасля паходу на хвіліну
Валіўся з ходу на траву:
Шынель пад бок, шынель на спіну,
На галаву, пад галаву.

Вось перададзены ўжо зводкі,
Што рота вышыню ўзяла...
І зноў кароткі сон салодкі
Ахутаў ласкаю цяпла.

Ляжыш нібы ў бацькоўскай хаце
Паміж апаленых дарог.
На гэты раз у медсанбаце
На час ад лёгкай раны злёг.

Прысніўся ціхі позні вечар
Пад родным дахам з капяжом.
От запаліла маці ў печы
І скобліць бульбачку нажом.

«Паспі яшчэ, сынок, — гаворыць, —
Змарыўся, быццам на касьбе?..»
Ты кажаш ёй, што ўжо не хворы,
Што рана зажыла ў цябе.

Але пачуўся выбух бомбы, —
Ты прызнаешся дружбаку:
«Які шчаслівы, браце, сон быў,
Але, як кажуць, не ў руку...»

Шкадуе медсястра, як брата,
Што меў бяссонных шмат начэй.
А ты адразу з медсанбата
Ўцячы імкнешся найхутчэй.

Не проста паімкнуўся ў лета
Шукаць на лузе спарышоў.
Бліжэй да сябра — да паэта
«У сваю дывізію пайшоў...»

І адусюль людскія мроі
Даносіць рэхам край лясны:
Не дазваляйце грознай зброі
Салдацкія трывожыць сны!

## ПОМНІК У ЦІРГАРТЭНЕ

Магутны, як волат былінны,
Спагадлівы, шчыры душой, —
Далёка ад роднай краіны
Стаіць наш салдат за мяжой.

Стаіць з таго самага мая,
Як толькі закончыў паход.
І свеціцца каска стальная
Вышэй Брандэнбургскіх варот.

Мо слаў яму нехта папрокі
За тоўстай Берлінскай сцяной, —
Ды чуў ён сяброў сваіх крокі,
Ужо не знаёмых з вайной.

Яны па салдацкаму праву,
Па заклiку сэрца свайго,
Падняўшы высока шлагбаум,
Ішлі ў каравул да яго.

Глядзеў ён на іх праз галінкі,
Дзе вяз галаву нахіліў,
І з лісця жывыя расінкі
Каменнымі вуснамі піў...

Англійская зона не клала
Да помніка кветкі яму.
Радзіма адна толькі знала,
Як цяжка стаяць аднаму.

З чужога высокага сцяга
Вятры яму сцюжай не дзьмуць, —
Ужо ля былога рэйхстага
Байцы каравул не нясуць...

Ды рады салдат кожнай вестцы,
Што з родных даходзіць краёў.
І хай ён стаіць на тым месцы,
Куды з перамогай прыйшоў.

## ЭКСКУРСАНТЫ

Берлін. Карлс-пляц.
Мы ясным днём
Гасцямі проста ў шлях зваротны
Тут на экскурсію ідзём
Праз Брандэнбургскія вароты.

Вось ён — знаёмы нам рэйхстаг, —
Але ў другім зусім убранні:
Без купала і іншы сцяг
Над ім узняты кімсьці ўранні.

Край, дзе даўно ў труне вайна,
Пазбавіўся ад розных зонаў.
У цэнтры жоўтая сцяна
Ужо не гудзе магільным звонам.

Цыргартэн у сваёй красе
Не мае шчыльнай агароджы.
На нас, здаецца, людзі ўсе
Не кідаюць пагляд варожы...

Яны свой курс тут узялі, —
Па новай ідучы дарожцы,
Жыць сталі лепей на зямлі,
Чым мы — былыя пераможцы...

Ды не пра гэта ў белы свет
Іду я думкай падзяліцца.
А ці зарос нацызму след? —
Само пытае сэрца быццам.

Я не прашу, былы салдат,
Гуманітарнай дапамогі.
Там, дзе хатынскі б'е набат,
Свае ў мяне шляхі-дарогі.

Хай на зямлі фашысцкі род
Нідзе карэння больш не мае.
І не забудзе ўвесь народ,
Як тут займаўся золак Мая!

Не панясу назад на ўсход
Багацця нейкага з сабою.
Я ж экскурсантам у паход
Ішоў на захад не з мальбою.

Перада мной была ўваччу
Зямля шчэ ў агнявым паходзе...
Нічога ў свеце не хачу, —
Адно б — з сябрамі жыць у згодзе.



*Белыя крылы Перамогі.* *Мал. Ул.СКРЫГАНАВА*

Векапомнае

***Калі мы з Адамовічам і Брылём збіралі матэрыял для кнігі «Я з вогненнай вёскі», дык наткнуліся на дзіўную рэч: карнікі так хітра і каварна праводзілі аперацыі па знішчэнні беларускіх вёсак з жыхарамі, што партызаны не патраплялі адпомсціць злачынцам. Карнікі выходзілі непакаранымі. Алесь тлумачыў гэта маральнай недапечанасцю партызанскага камандавання ці дурной заарганізаванасцю. У карысць гэтага меркавання гаварыў жахлівы факт, на які мы наткнуліся на Віцебшчыне. Адзін, прысланы з-за лініі фронту камандзір атрада, чалавек яўна ненармальны, даў каманду расстраляць тых жыхароў лясное вёскі, якія ў часе блакады не выканалі яго загаду, не пайшлі за ім у лес, а засталіся пільнаваць хатаў. Псіхапат не мог паставіць сябе на месца жыхароў і ўразумець, што людзі маюць поўнае права не выконваць такога загаду, бо яго атрад не можа гарантаваць ім аховы і бяспекі. Мы абмяркоўвалі гэты паталагічны выпадак і я прыгадаў сябрам, што асабіста некалькі разоў удзельнічаў у пакаранні карнікаў проста на месцы злачынства. Яны прапанавалі мне сабраць матэрыял хоць з адной вёскі і даць у кнігу. Матэрыял я зрабіў, але ў кнігу ён не ўвайшоў, бо парушаў яе задуму. Вярнулі яго мне калегі і сказалі: «Расказваеш пра злачынства карнікаў больш ты сам, а не жывыя сведкі, ацалелыя ахвяры. А мы ж дагаварыліся, каб аўтарства асобных частак не было відаць.» Я згадзіўся. Збіраюся ўставіць той матэрыял у сваю кнігу «Галын бор». Лічу, што гэты раздзел мае пэўную закончанасць і актуальнасць: пралівае святло на пытанне гісторыкаў, як і чаму ў заходніх абласцях стварыўся такі моцны партызанскі рух. Эміграцыйныя спецы ад партызанкі кажуць, што тут была рука Масквы, у атрады вербавалі даверлівых лапухоў дэсантнікі, нашы ж гісторыкі старога савецкага заводу кідаюцца ледзь не ў містыку і гавораць вуснамі прарока Залескага: «Гэта феномен». Не памятаюць ні адны, ні другія скарынавай дэфініцыі патрыятызму: «Пчолы і тым падобныя бароняць вулляў сваіх».***

***У.К.***

Уладзімір КАЛЕСНІК

# АДВЕЧНЫ КЛІЧ

## ВАЛОДЫ

Трашчаў такі сіберны мароз, што як ні бяжы за санямі, ніяк не ўдавалася сагрэцца. Партызан магнітам цягнула ў цёплае жытло, разведчыкі выдумоўвалі дзесяткі важных прычын, каб адпрасіцца на хвіліну ў хату ды абагрэць нос самакруткай, а без разведкі, вядома, нельга рухацца і астатнім.

Студзеньскія ночы доўгія, але і яны не бясконцыя. Апоўначы мы былі толькі дзесьці за Тупаламі, і я зразумеў, што на гэты раз не пабачу Валодзю Арцюха. Прасіць дазволу на выпад у Лядкі ўдвух з Косцем азначала аслабіць і без таго слабое прыкрыццё гаспадарчай аперацыі: людзей, транспарт. Ды і наш прыход на світанні да Арцюха і днёўка маглі стварыць для яго сур'ёзную небяспеку. Мы з Косцем узважылі, прыкінулі і вырашылі падпарадкавацца абставінам, чакаць наступнай, больш зручнай аказіі альбо паехаць спецыяльна ўдвух вярхом на конях. Калі на зваротным шляху абоз пераваліў цераз гасцінец Карэлічы—Мір і стаў паглыбляцца ў партызанскую зону, рукою падаць было да вёскі Лядкі, а там і Пагарэлка і Нёман, пераправа ў лясную бяспеку.Хлопцы з Лядак і Пагарэлкі пачалі прасіць у камандзіра дазволу забегчы праведаць радню, памяняць бялізну. Камандзір ківаў галавою: дойдзем — пабачым. Небяспекі пакуль што абозу не прадбачвалася, хлопцы адчувалі сябе ўжо, як дома. Разведчыкі паскакалі на Лядкі, да іх далучыўся камандзір роты Іван Мацко і нават залішне асцярожны старшына атрада Васіль Пазняк. Тады і мы з Косцем Балабановічам прыгадалі сапраўдную аказію паехаць да сувязной. Адпрасіліся. «Толькі глядзіце, не заседжвайцеся. Да Турца, гэны-во, якія тры кіламетры», — перасцярог Андрэй Саятовіч.

Мы сышлі з вазка, збочылі са шляху і патрухалі па скрыпучым снезе ў кірунку Пратасовага хутара.

Бралася на світанне. Хутар застыў у абсадзе заінелых, стылых тапалёў і ліп. Далеч была завешана паружавелаю, як бы неадмытаю ад крывавых падцёкаў, марляй. З усходу марудна паднімаўся скаваны марозам золак. Марознае паветра здавалася пругкім, густым, калючым, стрымлівала хаду, забівала дыханне. Але мы трухалі прыцярушанаю пухам сцяжынай, угнуўшы галовы, час ад часу збіваліся са следу, спыняліся і папраўлялі арыенцір на сялібу.

Пра гэты хутар і яго жыхароў яшчэ восенню мне пратрубілі вушы лядзецкія хлопцы, якіх у маім узводзе было больш дзесяці. Пару з іх да вайны служылі ў Пратаса пастухамі, і гэтая служба аказалася для іх рамантычнаю прыгодай беднага юнацтва. Расказвалі яны пацешныя выпадкі пра недалужнага гаспадара, які на паўсотні гектарах урадлівай глебы дацялёпкаўся ледзь не да бясхлебіцы. «Павядзе стары Пратас каня пасвіць, а кніга за пазухай. Сам блізарукі, павесіць акуляры на нос, унурыцца ў кнігу і пра каня забудзе. А той пайшоў сабе ласавацца па аўсах. Ловіць, ловіць таго каня і не зловіць да самага абеду. Так, глядзіш, і дзень прайшоў. А вот, браце, што ты скажаш: сам такі нехлямяжы, а сын, як дуб, вырас і моцна ўзяўся за зямлю. Вучыцца не хацеў, усё за зямлю. Казалі, што нават пісаць не ўмеў маўчун. Пры саветах, хоць і абрэзалі хутар да 10 гектараў, але гаспадарку малады Пратас як паставіў на ногі, так і трымаў выжыльваючыся. Ды не пашэнціла, браце, хлопцу пры немцах. Кулямёт прыхаваў, а нейкая, бачыш, свалата падаткнула. Палякі, кажуць. Прыйшлі жандармы, зрабілі вобыск — авось знайшлі і на месцы хлопца расстралялі. Застаўся Пратас са сваёю старою ды з дочкаю. Жонка гарадская, няўмека, мо ці ведае, колькі тых цыцак у каровы. От памацае адну, трохупатузае другую, абы зацірку забяліць, то карова возьме ды запусціцца. Але дзеўка — не ў маці ўдалася — хвацкая! Толькі яшчэ маладая... Дзяўчо. Яна там цяпер і гаспадар і гаспадыня, і што ты толькі хочаш...»

Дзяўчына з хутара была для маіх партызанскіх сяброў істотаю казачнаю, як і яе дзяцінства, вольнае ад панылага пастухавання, ад абавязку памагаць старэйшым, слухацца іх. Яна была вызвалена ад той вечнай несвабоды мурашоў, што мучыла іх, мужыцкіх дзяцей, гняло да зямлі, не давала выгуляцца ў бесклапотнай трывожна-ўдачлівай забаве і заўчасна рабіла падлеткаў затурбаванымі, старыла без пары, або штурхала быць неслухмянымі ўрвіцелямі, бунтарамі. Птушынае дзяцінства Валі здавалася ім такім раем, такім шчасцем, што яны, ужо дзецюкі, партызаны, нават не зайздросцілі ёй, а любаваліся ёю, як цудам свету, захапляліся фантазёркай і бяскрыўднай свавольніцай. Дзябёлы, але дасціпны на слова Міша Бусько па мянушцы Цацярук, аж прыжмурваў вочы і цмокаў языком:

«Ну, дзеўка, браце, што называецца! Не ўступіць любому хлопцу, такая спрытная. А разумная! Адным словам, закачайся. Усім дзеўкам дзеўка! Паўсвету абыдзі, такое не знойдзеш. От, толькі зірнеш, камандзір, і амбец... Бывала, яшчэ малая была, а вот, мігам, як кот, залезе на ліпу, на самую вяршыню, там усядзецца, як птушка, і кніжку чытае. Стары Пратас ходзіць, кліча-кліча, да абеду праходзіць і не знойдзе. А дзе ты яе згледзіш. Тут не то што старому і маладому не ўбачыць: сядзіць у лісці пад самым небам і хоць бы хны, сваё думае, або так на хмаркі пазірае. Я-то, пасучы кароў, высачыў, прыкмеціў яе павадку, што гэта яна спанатрыла на ліпы лазіць. Але просіць: «Не кажы!» Ну, я што? Не, дык не! Не бачыў, — маню старому. Не ведаю, куды яе нялёгкая занесла. Не тая, што прападзе, — кажу. Валя сама прыйдзе, як захоча».

Насядалі на мяне лядчане, угаворвалі, каб зайшоў калі хоць палюбавацца. Я аднекваўся, ухіляўся, але нарэшце заўважыў, што мае хлопцы пачынаюць крыўдзіцца: маўляў, няма ўжо яму роўні. Каб не астудзіць нашага пабрацімства, аднойчы я жартам уступіў. Было гэта позняй восенню. Вярталіся мы тады невялікаю групкай з аперацыі, праходзілі міма хутара. Дыверсія нам удалася, усе былі ў добрым настроі. Я апрануў нямецкую форму ці, можа, толькі меў на галаве пілотку, добра не памятаю, у кожным разе хлопцы ўпрасілі разыграць ролю немца. Абяцалі яны не паказвацца, бо навошта, каб тут, каля сваёй вёскі, бачылі лішні раз, хоць і няшкодныя, але старонніх вочы.

— Дык ты, камандзір, сам ідзі, або вось з Федзем Жуком, яго тут не знаюць. Стукайце і заходзьце. Ты за немца, а ён як бы за перакладчыка пры табе. А мы прытоімся, пастаім, паслухаем, як стары будзе табе па-нямецку і па-французску, патыліцу чухаючы, гаварыць. Ён, нябось, на ўсіх языках гаворыць, і старая, тако ж яна, Валя. Во будзе спіктакль!..

Згадзіўшыся на знаёмства, якое тады здавалася мне лішнім, я мусіў іграць вызначаную ролю да канца — майце пацеху, дзецюкі! На мой паўторны стук адазваўся з сяней старэчы голас, відаць, у хаце спалі. Калі я адрэкамендаваўся раённым ортскамісарам, той жа голас загаварыў са мною па-нямецку. Дзверы адчыніліся. Спытаўшы, ці не хаваюцца тут бандыты, я ўвайшоў у хату. Запалілася лямпа-капцюх, і я ўбачыў сівога, нядбайна апранутага старца. На пераноссі ў яго былі акуляры з патрэсканымі шкельцамі і абвязанаю ніткамі дужкай на пераносіцы. Ён падышоў упрытык, паўглядаўся ў мяне блізарукімі вачыма, ды, мабыць, паверыў, бо прадаўжаў размову па-нямецку. Распытваў, што на свеце дзеецца, далікатна дапамінаўся пра навіны з фронту. Месцамі я адчуваў сябе няпэўна, але прыгадаў сабе, як трымаўся мінулым летам малады нямецкі лётчык, якога вяскоўцы прывялі з пашы, дзе ён прызямліўся, да мяне, каб я пераклаў, чаго ён хоча. Я цяпер іграў ролю таго лётчыка.

Ды спектакль наш усё ж абарваўся. З цёмнага кута, дзе стаяў адвешаны дзяружкай ложак, выйшла нейкая дробная постаць у зімовым пальтэчку з утуленым у пухкі лісіны каўнер тварыкам і мяккім дзявочым голасам насмешліва спытала:

— Ну, хопіць дурыцца, Валоды!.. Думалі, не здагадаемся? Заходзьце, дзе вы там.

Валодамі хутаранка называла лядзецкіх хлопцаў, высмейваючы аднастайнасць вясковых імён, якіх, па яе вясёлым уяўленні, было толькі два: Лявон ды Валод.

— Заходзьце, абармоты. Будзе штукарыць. Тата, ідзіце адпачываць, я з імі сама...

Усё гэта гаварылася знарок абыякавым тонам, нібы мы няўдалыя калядннікі, а не партызаны. У мяне адышоў сорам за штукарства, засмяяўся, і яна адказала ўсмешкай. Сапраўды, гэта было прыгожае стварэнне. Светлыя валасы, падстрыжаныя каратка, амаль па-хлапечы, падкрэслівалі энергічную пасадку зграбнай галоўкі. Тварык меў правільныя рысы і быў злёгку абветраны. Класічную гармонію рыс парушалі светлыя, крыху лупаценькія вочы. Дзяўчо было, відаць, блізарукім, бо глядзела занадта ўважліва, але не назолiста. Ажыўлялі выгляд малыя пухнаценькія вусны. Смелы рысунак верхняй губы выдаваў характар і сілу. Усё гэтае хараство тулілася ў пушысты каўнер зімовага паліто, накінутага на плечы.

Я назваў сябе Валодам і зноў мне стала няёмка, бо адчуў у сваёй, адвыклай ужо ад працы далоні, яе дробныя, але моцныя, усе ў сухіх мазалях, пальцы.

У хату, як мядзведзі на шчодры вечар, пачалі ўвальвацца, рагочучы, лядзецкія хлопцы. Валя вітала іх прыветным бархацістым смехам і кожнага размашыста і звонка пляскала па здаравенных ручышчах. Была ў гэтым вітанні нейкая хлапечая гарэзнасць, як бы напамін пра даўнія дзіцячыя гульні. Кожнаму яна рабіла заўвагу: як і ў які бок ён змяніўся за час партызанкі. Стала шумна. Я падумаў, што Валя знарок стварыла гэты балаганчык, каб загладзіць няёмкасць за ўбоства ў хаце. Фактычна гэта быў адзін пакой: ні сенцаў, ні кухні, ні спальні. Здавалася, што людзі жывуць тут часова, хоць пражылі гады. Падлогі ў хаце не паклалі, гліняны ток быў у буграх і выемках, нібы груда ў часе першых замаразкаў, стол і лавы касабокія, старыя, сцены пачарнелыя ад копаці, пазы паміж вянкоў зруба, калісьці памазаныя глінай, цяпер у многіх мясцінах паабсыпанай, зеўралі чорнымі ўпадзінамі, аконныя рамы не фарбаваныя ад самога нараджэння.

Мне прыгадаліся рамантычныя аповесці польскай пісьменніцы Марыі Радзевіч, якая любіла апісваць прыгоды высакародных гераінь, нашчадкаў збяднелых шляхецкіх родаў, чые гнёзды вымiралі. Вяртаць родам былую славу, а запусцелым дварам жыццё прыязджалі аднекуль з-за свету блудныя сыны і дочкі, рамантычныя ахвярнікі. Яны кідаліся з матыка на сонца і часам дабіваліся свайго: вярталі сабе пачуццё гонару, здабывалі зычлівасць і пашану простага люду. Кнігі Радзевіч умела пісаць займальна, нават старашляхецкі анархічны густ пісьменніцы не адштурхоўваў нас, беларусаў, усё расплывалася ў рамантычным тумане, агульначалавечым цяпле і высакароднасці. Гімназісты, панскія дзеткі, і мы, мужыцкая фронда, зачытваліся творамі Марыі Радзевіч, а старэйшыя вучні, скаўты, расказвалі легенды пра асобу пісьменніцы, якая жыла самотна недзе на Палессі, стрыглася па-мужчынску, насіла порткі галіфэ і гойсала конна па палескай глухамані. Скаўтаў, якія прыходзілі яе праведаць, уласнымі рукамі частавала сырадоем.

Валя таксама ўзялася частаваць нас: налівала малако спрытна, без натугі нахіляючы вялікі збан, заахвочвала — яшчэ і яшчэ. Гледзячы на яе, можна было залюбавацца. Я адганяў гэтую саромную спакусу, іранізуючы ў думках: «Нехта ж знайшоў і выдаіў і тыя тры цыцкі, з-за якіх у Валінай маці запускалася карова?» Думаць так было непрыстойна, але я не пачуваў скрухі. Даведаўся, што доіць, варыць і парыць на хутары Васіліса, адзінокая жанчына з маёй роднай вёскі, якая пасля паліцэйскага пагрому і пажару прытулілася тут на правах не служанкі, а сямейніцы. Валя была ў хаце за мужчыну — касцом і аратым, а ля печы ды ў хляве корпалася маўклівая марудніца Васіліса. «Сапраўды, — падумалася мне, — нібы ў евангельскай Віфаніі — Марыя і Марфа, не хапае ім толькі Хрыста».

Валя запрашала нас заходзіць, абяззбройвала гарэзлівай, але шчырай прыветнасцю. Я падумаў, што сюды мне лепш не паказвацца. Збянтэжаны, старанна гарнуў цыгарэтку. Перабіраючы дамарослы тытунь, адкідваў колкае цаціўе, што трапляла на пальцы міжцягуткай мякаццю. Я верыў, што Зіна Маслоўская жыве, інакш я не хацеў, не меў права жыць — толькі для помсты.

І доўгі час не заходзіў, хоць Пратасоў хутар па-ранейшаму жыў актыўна ў памяці маіх партызанаў. Пачалі гаварыць, што туды зачасціў Міцька Дзенісенка, камандзір коннага атрада, які ён, сам данскі казак, назваў для пагрозы і зухаватасці асобым казачым, а насельніцтва называла працей — міцькаўцы. Прыязджае, маўляў, Міцька на хутар не толькі па баявых справах, — пацвельваліся лядзецкія хлопцы з мяне. «О, браце, прамаргалі такую дзеўку, га? Праваронілі... Міцька падлабуньваецца. Нябось не промах... І паліцыю пакалашмаціць першы за нас, і тутака гэ-гэ-гэ! Не быў бы то казак!»

У грубаватых кепіках чулася расчараванне азартных гулякаў, якія паставілі на добрага каня, а той занараўіўся.

Мне было прыемна чуць з гэтых паддражніванняў, што дзяўчына, як гавораць у вёсках, занята. Цяпер можна было зайсці калі па дарозе на хутар, проста пагаманіць па-сяброўску, не баяцца самога сябе. Пагражаць магла цяпер адно паліцэйская засада. Ідучы трактам міма хутара, я двойчы адчуў, не пачуў і не пабачыў, а адчуў інтуіцыяй прысутнасць ворага і абвёў групу палявымі сцежкамі. Сапраўды, засады былі, вораг не спаў у шапку. Гэтыя выпадкі прыдалі мне дзёрзкасці, самаўпэўненасці, проста веры ў зычлівы фатум. Я гатовы быў кпіць з кожнага, хто паспрабаваў бы мяне страшыць засадай. Небяспека напароцца перастала для мяне існаваць. З дрыготкаю звярынаю гордасцю імчаўся я пад сядлом на маладой бацькавай жарабіцы, усведамляючы сваю недасягальнасць для варожых куляў, для смерці і нябыту. Нешта падобнае, мабыць, адчувалі фанатычныя хрысціянскія вернікі, прапаведнікі збавення, пераканаўшы сябе ў тым, што над імі распасцёрты далоні Творцы свету. Нада мною чувала не боская моц, а хіба сама прамаці прырода, якая паклапацілася аб перамозе свабоды над няволяй. Колькі было сходжана начэй, і ўсе яны канчаліся ўдачамі. А, можа, Валя і была апякункай гэтых удач? Сама адчайная, яна, можа, загаворвала мяне і маіх Валодаў ад смерці пры развітанні. Зрэшты, для папярэджання аб небяспецы ў нас завёўся свой тайны сігнал: агеньчык газніцы на акенцы ў каморы.

Аднойчы мне давялося застацца на хутары самому, чакаў, пакуль хлопцы збегаюць у свае вёскі памыцца. Мы сядзелі з Валяй упоцемках, на нізкай лаве і шапталіся, каб не разбудзіць дамашніх. Сядзелі ўпрытык, твары нашы ледзь не дакраналіся, ад яе пахла, як ад біблейскай Юдзіфі, яблыкамі і сырадоем. Гаварылася нам шчыра, хоць і нялёгка. Нас зблізіў добры кавалак падобнага жыццёвага шляху — выхаванне: я таксама вучыўся ў гімназіі, толькі не ў Стоўбцах, а ў Навагрудку. Праўда, нямала што нас і адмяжоўвала. Яна была пры Польшчы паненкай з эліты, а я ўсяго дапушчаны да авансу за здольнасці і поспехі ў вучобах хам, цяпер яна знарок закранала гэтае адрознае. Я нават пачуўся абражаным у сваёй мужыцка-беларуска-партызанскай годнасці, але пераводзіў гаворку на жарты пра панкоў і падпанкаў. Памятаў шмат розных анекдотаў пра іх. Атрымліваўся флірт з падтэкстам. Польскі скаўтызм таксама ўжо моцна выветрыла з яе галавы жыццё. Ды не надта ён пасаваў да Пратасовай хаты, не надта паношыўся там. Стары адвакат Пратасевіч,

(Працяг на стар. 14-15)

## ЗАВІТАЛІ... «ВЯСНОВЫЯ ЛАСТАЎКІ»

**Зноў у Мінскім дзяржаўным цырку новае прадстаўленне. Чарговая, трэцяя ў сёлетнім годзе, праграма мае назву «Вясновыя ластаўкі». Як і папярэднія, яна цікавая і змястоўная. І, безумоўна, у першую чаргу выклікае захапленне ў дзятвы. Сваё майстэрства дэманструюць джыгіты пад кіраўніцтвам народнага артыста Расіі Хасанбека Канцемірава, гімнасты на турніках пад кіраўніцтвам Мікалая Лявонцьева. Выступаюць акрабаты-каскадзёры, жанглёр Васіль Багданаў, клоун-парадыст Сяргей Сувораў. А дрэсіраваных «братоў нашых меншых» цэлае сузор'е — козы, сабачкі, галубы. Ды і ўдавы вельмі ж паслухмяныя, калі з імі поруч Ірына Самохіна.**

## ФАЛЬКЛОРНАЯ ВАНДРОЎКА

**Шчыра адзначыла Любаншчына юбілей свайго славутага земляка — пісьменніка, публіцыста, літаратурнага і тэатральнага крытыка Паўла Міхайлавіча Шпілеўскага. Больш за ўсё ён вядомы як фалькларыст і этнограф. З нагоды 170-ых угодкаў з дня нараджэння адбылося свята пад назваю «Фальклорная вандроўка». Як вядома, Павел Міхайлавіч многа падарожнічаў па родным краі, вывучаў народныя паданні, легенды, павер'і, святы і песні.**

**Збор вандроўшчыкаў адбыўся каля раённага Дома культуры. На свята запрасілі гасцей — народны фальклорны ансамбль «Чарняначка» з Берасцейшчыны, фальклорны гурт в. Морач Клецкага раёна, ансамбль «Менскі гармонік» са сталіцы, а таксама гасцей з Польшчы. Святочная кавалькада на конях з песнямі і добрым настроем адпраўляецца на радзіму Шпілеўскага ў вёску Шыпілавічы. Першы прыпынак — «Арлёўская мытня». З хлебам-соллю, гарачай гарбатай і чаркай для сугрэву віталі гасцей свята жыхары вёскі. Тут жа адбыўся імправізаваны канцэрт з песнямі і скокамі. Далейшы шлях — спатканне з радзімай. Амаль уся вёска Шыпілавічы выйшла сустракаць вандроўнікаў. У вясковым клубе адбылася невялікая ўрачыстасць. Слова бралі дырэктар Любанскага музея народнай славы Наталля Сіняк, дзіцячы паэт Іван Муравейка. І песні!.. Песні, якія так любіў і якімі так захапляўся Павел Міхайлавіч. Іх спявалі фальклорныя гурты в. Запольнае і Рачэнь.**

**Цэнтральная падзея свята адбылася ў цудоўным Сароцкім Палацы культуры. Тут — і выстава народнай творчасці з фондаў музея народнай славы г. Любань, літаратурная выстава ў вясковай бібліятэцы, на якой пачэснае месца заняла нядаўна выпушчаная кніга П. Шпілеўскага «Падарожжа па Палессі і беларускім краі». «З аднаго гнязда птушкі», — такую назву мела святочная канцэртная праграма фальклорных калектываў Любаншчыны — ансамбля песні і танца «Вытокі» в. Сосны, фальклорных гуртоў в. Запольнае і Обчын, узорнага дзіцячага ансамбля «Спадчына», ансамбля народнага танца і народнага хору в. Сарачы, а таксама выканаўцы народных песень і прыпевак. За вялікім святочным сталом сабраліся госці і землякі Паўла Міхайлавіча. З віншавальным словам да ўсіх прысутных звярнуўся старшыня фальклорнага таварыства Васіль Ліцвінка.**

**А потым была вечарына з народнай музыкай, песнямі, танцамі, працавала, як і ў часы Шпілеўскага, карчма.**

**Другі дзень быў поўнасцю аддадзены гасцям — «Менскаму гармоніку», «Чарняначцы» і фальклорнаму калектыву в. Морач. І, як падкрэсліў у заключным слове В. Ліцвінка, каб Павел Міхайлавіч бачыў такое свята, ён бы нізка пакланіўся землякам за шанаванне яго спадчыны і разуменне яго творчага лёсу.**

**Васіль КАШКАВЕЦ,**
**рэжысёр узорнага тэатра «Летуценнікі» Сароцкага Палаца культуры**

## ТВОРЧЫ ВАЯЖ У ІНДЫЮ

**Таццяна Логінава са студыі «Таццяна» нядаўна пабывала ў творчай паездцы ў Індыі, у школе ёгі А-Шрам.**

**— Я была там як рэжысёр і аператар, — расказвае яна, — наведала Дэлі, Бубамшывары, Муцеры, Пурку. У школе ёгі жывуць, трэніруюцца. Жывуць, як у кляштары: самі сябе абслугоўваюць, самі для сябе працуюць. Працуюць найперш над духоўным самаўдасканаленнем.**

**Т. Логінава сказала колькі слоў і аб сваёй рабоце ў Індыі. Рабочая назва фільма — «А-Шрам на беразе Ганга». Ён ставіцца па сцэнарыі Сяргея Шафарэнкі.**

**Што ж, будзем чакаць новы фільм нашага вядомага аператара, у якім яна выступае і ў ролі рэжысёра.**

А. НЯДЗВЕЦКАЯ

Музыка

# «ВЯЛІКІ ТВОРЦА ПЕСЦІЎ ПЕСНЮ БЕЛАРУСКУЮ...»

## ГОДНА СВЯТКАВАЛІСЯ Ў МІНСКУ 175-Я ЎГОДКІ СТАНІСЛАВА МАНЮШКІ

Ніводны беларускі кампазітар не спадобіўся за апошнія год-паўтара такой увагі «ЛіМа», як Станіслаў Манюшка. Але ж колькі было для гэтага прычын!

Прэм'ера манаграфічнай праграмы В. Скорабагатава і Г. Каржанеўскай, бласлаўлёная літаратарам У. Мархелем, «Манюшка на радзіме», калі тэксты ўсіх уключаных у яе вакальных твораў загучалі па-беларуску. Прыезд у Мінск знанай пані М. Фолтын, старшыні Таварыства сяброў Манюшкі, з канструктыўнымі ініцыятывамі; стварэнне Беларускага музычнага фонду імя С. Манюшкі; пачатак працы па аднаўленні радзіннай сядзібы кампазітара ў 30-ці кіламетрах ад Мінска, ля вёскі Убель. Чынны й годны дэбют беларускіх музыкантаў на традыцыйным манюшкаўскім фестывалі ў польскім мястэчку Кудова-Здруй. Новы прыезд пані Фолтын і перамовы наконт пастаноўкі Манюшкавай оперы ў Беларускім тэатры. Падрыхтоўка беларускіх студэнтаў-вакалістаў да ўдзелу ў чарговым конкурсе імя С. Манюшкі ў Польшчы...

Манюшка — на радзіме. Гэта ўжо — выслоўе, якое набыло крылы ды імкліва, усё ямчэй, напаўняецца сучасным духоўным зместам.

У адрозненне ад схематычных палітычных дактрын, жыццё рэальнае, і жыццё мастацкае, у аснове сваёй ладзіцца без «голага бальшавізму», больш складана і мудра. Жыццё абапіраецца на вечны грунт сваіх парадоксаў, праз нестандартнасць сітуацый, глыбіню кантрастаў і тонкасць нюансаў сцвярджаючы неадназначную самавітасць кожнай сваёй з'явы. Вось і той, каго называлі, называюць і будуць называць класікам польскай музыкі XIX стагоддзя, ніколі не дасць забыцца, з якога дзяцінства ён родам. Не толькі таму, што энцыклапедычныя радкі фіксуюць месца яго нараджэння. Не толькі таму, што мыслівыя й чулыя землякі-беларусы Несцяровічы — бацька ды дачка — зберагаюць адзіны ў свеце музей Манюшкі. Не толькі таму, што — дайце час! — паўстане з Божаю дапамогай адноўленая сядзіба Убель, зробіцца месцам міжнародных творчых і фестывальных сустрэч... А перш за ўсё таму, што адмысловы музычны радавод С. Манюшкі закадзіраваны ў ягонай творчасці, спакроўленай з мелодыяй беларускай.

Нарадзіўся кампазітар 5 мая. Але святкаванне ягонага 175-годдзя прайшло ў Мінску раней. Аж тры красавіцкія дні яно доўжылася. Прадстаўнічым і прыгожым быў пачатак: урачыстая Вялікая зала Беларускай дзяржаўнай філармоніі, абмен гасцей і гаспадароў кароткімі прамовамі. Ад самай галоўнай энтузіясткі манюшкаўскай справы, знанай спявачкі й опернага рэжысёра Марыі Фолтын давялося пачуць тое, да чаго цяжка даўмецца тутэйшым артадоксам: «Велькі творца песціў песню беларускую». Узрушана прагучала слова намесніка міністра культуры і мастацтва Польшчы Міхала Ягелы: чатыры гады таму здавалася фантастычным, што здарыцца такая падзея, якая прынясе задавальненне ўсім. Пан Ягела паведаміў пра свой пачэсны чын — перадаць ад Міністэрства культуры і мастацтва Польшчы 4 тысячы долараў на рэканструкцыю сядзібы «нашага вялікага агульнага кампазітара»...

Сімвалічна і вельмі натуральна, што паядналася ў канцэртнай праграме таго вечара мастацтва беларускіх выканаўцаў і нашых польскіх гасцей. За пультам Акадэмічнага сімфанічнага аркестра Беларусі быў малады польскі маэстра (але, між іншым, наш зямляк) Віктар Дмухоўскі. Беларускія вакалісты розных пакаленняў — Аляксандр Кеда, Ірэна Журко, Віктар Скорабагатаў, Нагіма Галеева, Леся Лют, Рыгор Палішчук — выконвалі арыі з опер «Страшны двор», «Галька», «Сялянка». І вельмі гожа выступала побач польская моладзь: тэнар Павел Скалуба праспяваў найпрыгожую, з курантамі, арыю Стэфана, а Марцін Бранікоўскі парадаваў сваім дзівосным барытонам у арыі Мечніка («Страшны двор»).

Цікавая дэталь: нашы артысты (у тым ліку й шырмаўская капэла) спявалі па-беларуску. І «двухмоўны Манюшка» ўспрымаўся зусім натуральнай і цэласнай творчай постаццю...

Назаўтра ягоная музыка — зноў жа, адзіная і для польскіх, і для беларускіх выканаўцаў — гучала ў касцёле св. Тройцы (св. Роха), прымеркаваная да ранішняй імшы. Потым наладзілі вандроўку да падмурка убельскай сядзібы, адбылася экскурсія па музеі Манюшкі. Сярод гасцей былі пасол Польшчы пані Альжбэта Смулэк; вядомы прафесар, знаўца Манюшкі, Мар'ян Фукс; дырэктар манюшкаўскага фестывалю ў Польшчы Войцах Адамчэўскі; сваячка кампазітара Катажына Корчак-Манюшка...

Дзень трэці, паказ тэатралізаванай музычнай праграмы «Манюшка на радзіме». Галоўнымі чыннікамі былі спявак Віктар Скорабагатаў, піяністка Ганна Каржанеўская, акцёры Віктар Манаеў (за Манюшку) ды Валерый Філатаў (за Дуніна-Марцінкевіча)... Зноў польскія ды беларускія выканаўцы выступалі поруч.

Не кожны, хто хацеў, змог пабываць на гэтай імпрэзе. Шкада, вядома... Але хай гэта будзе адзінае шкадаванне з нагоды беларуска-польскіх сустрэч у Мінску, прысвечаных юбілею Станіслава Манюшкі.

**С. БЕРАСЦЕНЬ**

*Фота В. СТРАЛКОЎСКАГА*



*На сцэне — Віктар СКОРАБАГАТАЎ.*



*Спявае Тамара ПЯЧЫНСКАЯ.*



*Дырыжор з Польшчы Віктар ДМУХОЎСКІ.*



*Пані Марыя ФОЛТЫН з беларускімі ды польскімі салістамі.*



*Фінал імпрэзы «Манюшка на радзіме».*

Тэлебачанне

# ПУСТКА КАХАННЯ

Стаміліся Мэнаны, дрэнчацца ў пошуках цуду — цуду ўзаемнага спачування, цеплыні і разумення. Усё больш бязлітасна плятуць павуцінне звады — жонка супраць мужа, дачка супраць маці, брат супраць сястры. Такая ланцуговая рэакцыя вядзе ў пекла сямейнага апакаліпсісу, і радзінны дом ператвараецца ў фамільны Склеп. Перамогу святкуе нянавісць. Хоць кіруе чорнай трагедыяй, якая апанавала белы асабняк Мэнанаў, ... каханне.

Бадай, так можна перадаць сутнасць падзей новага спектакля Беларускага тэлебачання «Журба — лёс Электры». У якасці спробы для экранізацыі абрана аднайменная п'еса Ю. О'Ніла (пераклад А. Асташонка). Гэты буйны драматургічны твор мае трохчасткавую пабудову: «Вяртанне», «Загнаныя», «Якіх гоняць» — што адпавядае асноўным узроўням заглыблення ў трагедыю. Рэжысёр У. Осіпаў, відаць, імкнуўся дэталёва перанесці на тэлеэкран увесь «драматургічны масіў» Ю. О'Ніла. Дзеля таго быў зроблены серыял і на працягу сямі тыдняў, скарыстоўваючы цыклічны характар вяшчання, аўтары тэлеспектакля «выходзілі на сувязь» з гледачом.

Тым не менш тэлетвор застаўся незавершаным. Хутчэй за ўсё пастаноўшчыкі вымушаны былі абарваць сваю працу з прычыны інфляцыі, якая датэрмінова «з'ела» бюджэт тэлеспектакля, разам з яго філасофска-эстэтычнай канцэпцыяй.

Сям'я Мэнанаў — складаная сістэма ўзаемаадлюстраванняў і ўзаемаадштурхоўвання: маці Крысціна і дачка Лавінія, бацька Эзра і сын Орын, сваяк Адам... Гэтая «калода карт» нератасавана драматургам з віртуознасцю псіхааналітыка. Трагічным камертонам п'есы Ю. О'Ніла, на мой погляд, з'яўляецца расшчэпленае «я» персанажаў. А ў «шчылінах» іх расколатай свядомасці пульсуюць патаемныя жаданні і дзіўна трансфармуюцца пачуцці. У прыватнасці, тыя з іх, якія псіхолагі называюць комплексамі Электры і Эдыпа. Гэтае, так бы мовіць, закамплексаванае каханне сцягвае вузел узаемадачыненняў Мэнанаў. Каханне, якое не можа даць героям выратавання і не дае... Бесперапынная какафонія пачуццяў, ваяўнічая татальная антыгармонія выматваюць усіх удзельнікаў трагедыі. Балансуючы на вастрыі кахання-нянавісці, яны раз-пораз балюча праколваюць свае ўласныя душы, але мара аб ціхім шчасці на блаславёных астравах і застаецца мроівам у пустыні адзіноты. Hopeless hope (немагчымая надзея), як кажуць англічане.

Трылогія Ю. О'Ніла «Журба — лёс Электры» цяжкая для сцэнічных і экранных інтэрпрэтацый. Працяглыя маналогі персанажаў вымагаюць пластычнай статыкі, амаль скульптурнай выразнасці мізансцэн і адначасова — напружанага псіхалагічнага дзеяння. Такая рознамаштабнасць вобразнай структуры, на жаль, аказалася не зусім падуладнай рэжысёру У. Осіпаву, аператару В. Левановічу, акцёрам. Хоць нельга не адзначыць работу мастакоў Я. Волкава і А. Масіенкі, а таксама музычную партытуру пастаноўкі.

Аўтары тэлетвора неяк больш хіляцца да фабульнага выкладання драматургічнага матэрыялу. Але ён не падпарадкоўваецца звыклым традыцыям арганізацыі дзеяння. Сюжэт, напрыклад, спрашчаецца да маштабу... крымінальнай інтрыгі. У дадзеным выпадку мэтазгодным мог стаць эстэтычны прынцып падвоенай (нават патроенай) экспазіцыі персанажаў. Гэта значыць — паралельнае сумяшчэнне некалькіх пластоў псіхалагічнага стану героя, пагружэнне ажно да зыбкага пагранічча яго падсвядомасці, калі толькі адчуваецца (яшчэ не асэнсоўваецца) няясная душэўная ўзрушанасць, лёгкае парушэнне ўнутранай раўнавагі. І тут на першы план выходзіць найдалікатнейшая выразнасць позірку: проста ў вачах **згасае** надзея, ці **нараджаецца** страх, ці **затуманьваецца** думка. Дарэчы, толькі тэле-(кінакамера) здольна «разгледзець» падобную вытанчанасць акцёрскага мастацтва, якога трохі бракуе выканаўцам В. Левашовай, Г. Маланкінай, Ю. Ступакову, В. Рэдзьку, В. Бандарэнку. Іх намаганні ў тэлеспектаклі «Журба — лёс Электры» выклікаюць... паважлівае спачуванне. Ёсць фрагменты (яны больш канцэнтруюцца ў апошніх дзвюх серыях), дзе адчуваецца аб'ём пачуццяў і рытм думкі. Аднак часцей акцёры не ў стане агораць-пабудаваць унутраную псіхалагічную «перспектыву» вобразаў, засвоіць іх душэўную прастору. Быццам ваяцелі, яны крышаць камяніскі маналогаў, паспешліва прабіраючыся скрозь «завалы» слоў. Нават іх яўныя закадравыя двайнікі (?!) не паспяваюць услед агучваць тэкст! (Выклікае недаўменне гэтае нязграбнае дубліраванне на беларускую мову — і ўвогуле. У прыватнасці, здаецца, і В. Рэдзька, і Г. Маланкіна маглі б самі агучыць свае ролі).



По ўсім відаць, творчай групе бракавала той высокай мастацкай лексікі, якая вызначаецца паўтанамі, паўзамі, настроем, атмасферай і далей — адноснасцю, двухсэнсоўнасцю, шматзначнасцю паэтыкі твора. Шчыра кажучы, неаднойчы на працягу серыяла я прадстаўляла ў ролі Крысціны М. Карстэнсэн, у ролі Эзры — Д. Богарта, у ролі рэжысёра — Л. Вісконці... Але мае фантазіі блукаюць па-за межамі рэчаіснасці. Вядома, усялякі мастацкі досвед здабываецца ў сістэматычным творчым працэсе. Якраз яго наша мясцовае тэлебачанне (т. зв. рэспубліканскае) скараціла да непрыстойнасці. Таму пры ўсіх відавочных праліках прэм'ера тэлеспектакля «Журба — лёс Электры» — падзея значная для нашага тэлеэфіру. Бо агульны стан клінічнай смерці рэспубліканскага тэлетэатра пагражае лятальным зыходам... усяму БТ. Пакуль тут не будзе паўнакроўнай мастацкай дзейнасці з яе спробамі, памылкамі і рэдкім шчасцем духоўнага азарэння, нашы рэжысёры, аператары, асвятляльнікі не авалодаюць дакладна экраннай мовай. Так і застануцца па большыні сваёй тэхнолагамі, а не мастакамі тэлеадлюстравання.

**Наталля АГАФОНАВА**

*На здымку: Віталь Рэдзька (Орын) і Ганна Маланкіна (Лавінія).*

*Фота Галіны МАСКАЛЁВАЙ*

Тэатр

# ПРАГА РАДАСЦІ

***Усмешкі на тварах. Дружныя апладысменты. Гледачы стоячы вітаюць артыстаў і доўга не адпускаюць іх са сцэны. Узрадаваныя, у прыўзнятым настроі, яны ўжо самі доўжаць чароўную хвіліну, падораную мастацтвам... На такой эмацыянальнай ноце штораз заканчваецца спектакль «Ад'ютант-ка яго вялікасці» Іржы Губача ў Дзяржаўным рускім драмтэатры. Першая і пакуль што адзіная прэм'ера тэатра ў бягучым сезоне па-сапраўднаму заваёўвае сэрцы гледачоў. Літаральна падкупляе іх шчырасцю і дабратой чалавечых адносін, светлым стаўленнем да пакручастага жыцця-быцця.***

Пастаноўку гэтай празрыстай камедыі ажыццявіў Мадэст Абрамаў. Наколькі я ведаю ягоныя ранейшыя работы ў Гродзенскім тэатры, ТЮГу, у тым жа Рускім тэатры, дадзены спектакль прыкметна вылучаецца сваім адкрытым лірычным гучаннем. У ім апаэтызаваны лепшыя праявы душы — спагадлівасць, высакароднасць, адданасць. З пэўнай доляй цеплыні раскрываюцца і заганы чалавечай натуры — фанабэрыстасць і нізкапаклонства, дурасць і нават здрада. У некаторым сэнсе сцэнічнае прачытанне п'есы Губача проста-такі ўражвае адчайнай незласлівасцю.

У камедыі «Ад'ютант-ка яго вялікасці» (другая назва — «Карсіканка») абыгрываюцца падзеі даволі драматычныя. Востраў Святой Алены ў 1819 годзе. Менавіта тут у якасці вязня англійскай кароны цягне сваё ўбогае існаванне яшчэ нядаўна ўсемагутны імператар Напалеон. Месцам зняволення аказваецца, як на здзек, былая стайня, поўная пацукоў. Ад былой велічы нічога не засталося. Становішча безвыходнае, і якраз яно робіцца асновай камедыйнай сітуацыі ў п'есе.

По гістарычнай канве драматург лёгка «вышывае» мастацкія вобразы, блізкія сучаснаму ўспрыманню. У тканіне твора арыгінальна спалучаюцца гумар і іронія, жарт і цвярозасць разважанняў. Неадпаведнасць рэальных абставін і душэўных памкненняў абумоўлівае знешні камізм дзеяння. Яна ж выступае мастацкім сродкам раскрыцця ўнутранага канфлікту.

Можна думаць, што М. Абрамаў адчувае стылістыку камедыі Губача. У яго трактоўцы пэўна выяўляецца яе эмацыянальна-вобразны змест. Ужываючы розныя пастановачныя прыёмы, рэжысёр імкнецца надаць дзеянню абагульняючы характар. Пры гэтым прыкметна пазбягае ўсіх магчымых аналогій напрасткі: праўда, зацятасць дзе-нідзе абмяжоўвае магчымасці матэрыялу самога драматурга...



Не шкадуючы ядавітых фарбаў, малюе вобраз губернатара вострава Аляксандр Ткачонак. У завостранай, гратэскавай форме, на мяжы рэальнага і ўяўнага праводзіць акцёр свой адзіны эпізод у спектаклі, ператвараючы яго ў красамоўную мастацкую мініяцюру. Характар дэспата-прыгнятальніка гіпербалізуецца настолькі, што ад першай хвіліны са страшнага ён робіцца смешным.

Бліскуча выконваюць эпізадычныя ролі Кухара і капітана Поплтана Віктар Гудзіновіч і Андрэй Дудараў. Адметную ігру кожнага з акцёраў вызначае дзівосны сплаў шаржыраваных жэстаў і сентыментальных пачуццяў. Абодва ўносяць у сюжэт элементы чыстай камедыі, якія істотна пашыраюць гульнёвую палітру спектакля.

Запамінальныя вобразы напалеонаўскіх генералаў ствараюць Вячаслаў Саладзілаў і Аляксандр Брухацкі. Выканаўцы дакладна трымаюць лінію паводзін сваіх герояў. Інтанацыя, міміка, паходка, эмацыянальная рэакцыя — усё перадае процілегласць персанажаў, Бертран В. Саладзілава прадстаўляецца чалавекам мяккім, стрыманым, па-нашаму кажучы, інтэлігентным. Гурго А. Брухацкага, наадварот, дзейнічае рэзка, выказваецца груба, вышэй за ўсё ставіць фармальны этыкет. Відавочнае спаборніцтва паміж імі нечакана выяўляе два бакі аднаго сімвалічнага характару.

Гэтыя акцёрскія работы дапамагаюць раскрыццю асноўных вобразаў — Напалеона і Жазэфіны. Адносіны паміж былым імператарам Францыі і простай кухаркай з Парыжа складаюць кампазіцыйны стрыжань п'есы. Неверагоднае з'яўленне гераіні ў свіце высокапастаўленага вязня — сюжэтны вузел камедыі. У творчым дуэце Уладзіміра Шэлестава і Вольгі Клебановіч драматургічная пабудова твора атрымлівае пераканаўчае ўвасабленне.

Тэмпераментная ігра В. Клебановіч выразна перадае паўнату і цэласнасць характару Жазэфіны. Яе гераіня аказваецца сапраўдным рухавіком дзеяння. Нямала нацярпеўшыся ў жыцці, гэтая, на першы погляд, звычайная жанчына нясе ў сабе надзвычайны зарад жыццярадаснасці. Яе чароўная сіла сыходзіць з рэальнага, зямнога адчування свету, і гэтая сувязь дэталёва прасочваецца актрысай.

Трэба, аднак, зазначыць, што пры ўсіх зямных, надзённых турботах Жазэфіна, бадай што, самы рамантычны вобраз у п'есе. Хто, як не праўдзівы рамантык, можа выправіцца за дзве тысячы міль, каб абудзіць да паўнакроўнага жыцця сваю зрынутую мару



— Напалеона?! Пакуль што такая важкая акалічнасць аўтарскай мовы застаецца па-за ўвагай пастаноўкі...

З псіхалагічнай паслядоўнасцю раскрываюцца Шэлеставым істотныя зрухі ў душы Напалеона. Характар акцёрскага выканання вызначаюць сустрэчныя матывы: памірае імператар — нараджаецца чалавек. Разумнае спасціжэнне ісціны знітоўваецца ў ролі з эмацыянальным адкрыццём сапраўдных чалавечых каштоўнасцей.

З асаблівай пранікнёнасцю тэма душэўнага адраджэння гучыць у другім акце. На пачатку ж спектакля ацэнкі акцёра занадта напружаныя, па кожным выпадку ўяўляецца калі не трагедыя, дык драма. Пажадана было б убачыць у Напалеоне У. Шэлестава больш гумару да іншых, іроніі да сябе, што, пэўна, рабіла б развіццё мастацкага вобраза больш непасрэдным.

Пачуццё незадаволенасці выклікае сцэнаграфія Веніяміна Маршака. Прыблізна-прымітыўнае абсталяванне сцэны фіксуе знешні, павярхоўны пласт дзеяння. Гэта зусім не вобраз Простага, а прыкрая праява беднасці мастацкага афармлення.

Сцэнаграфічнае рашэнне «Ад'ютант-кі яго вялікасці» пакідае непрыемны асадак, але, безумоўна, ніякім чынам не перакрэслівае галоўнага здабытку спектакля — цікавых, адметных акцёрскіх работ. Як і раней, новая пастаноўка Абрамава сведчыць пра ягонае ўменне працаваць з акцёрамі, ствараць творчыя ўмовы для раскрыцця індывідуальнасці выканаўцы. У спектаклі таксама праяўляецца здольнасць рэжысёра наладжваць агульную атмасферу тэатральнага відовішча. На гэты раз скразное дзеянне пастаноўкі напоўнена жыццесцвярджальнай сілай. Дзякуючы ёй вяртаецца разуменне таго, што існуе не толькі прага есці ды піць, але і прага радавацца. Што даражэй?..

**Ала САВІЦКАЯ**

*На здымках: Вольга Клебановіч (Жазэфіна Понціў); сцэна са спектакля*

## «БРАМА» ЗАПРАШАЕ НА ВЕРНІСАЖ



**У Доме літаратара галерэя «Брама» і СП «Інсар» прэзентавалі выставу жывапісу Яўгена Вашкевіча «Між мінулым і будучым». Невядомае нам дасюль імя. Скончыўшы аддзяленне інтэр'ера Беларускай акадэміі мастацтваў, Яўген заняўся жывапісам. Гэта выстава — першая для мастака. Лежэ, Пікасо прымусілі Яўгена Вашкевіча шукаць свой адметны стыль і каляровую гаму. Дапамагла і адукацыя, дызайнерскія схільнасці. Так нарадзіліся работы, дзе маналітныя цэльныя аб'ёмы рэчаў падкрэсліваюцца кантраснымі колеравымі пераходамі.**

**Адно шкада — не пaрупіліся арганізатары, відаць, аб рэкламе, зала пустуе.**



*На здымках: «Пейзаж з дрэвам», «Восень».*
*Фотарэпрадукцыі А. МАЦЮША*

## ШЫРОКІ ПОЗІРК НА ВЫХАВАННЕ

**ў часопіса «Пралеска» («Дашкольнае выхаванне»). Ён бачыць першаступеннай задачай выхаванне асобы нацыянальна свядомай, культурна і ўсебакова развітой.**

**У чарговым, трэцім нумары часопіса змешчаны слова галоўнага рэдактара А. Сачанкі «Кактусы», інтэрв'ю Л. Забалоцкай з адказным сакратаром Саюза жанчын Рэспублікі Беларусь Г. Начоўкінай «Праблемы жанчын разумее толькі жанчына», працяг «Азбукоўніка і лічылкі» З. Куставай, артыкул А. Марціновіча пра творчасць К. Цвіркі «Мнагафарбны свет». У падборцы «Вясёлы вулей» — творы Н. Галіноўскай, Г. Багданавай, П. Сушко.**

## «БЕЛАРУСКАЯ ДУМКА» ЖЫВЕ!

**Маецца на ўвазе не выданне, якое выходзіць у Мінску, а аднайменны грамадска-палітычны і літаратурна-мастацкі часопіс беларускай эміграцыі, што выдаецца ў Саўт-Рыверы. Заснаваны ён трыццаць чатыры гады назад. Цяперашні, 38-ы нумар «БД» мусіў з'явіцца яшчэ ў пачатку 1993 года, але, як сведчыць рэдакцыя, «выйшлі із упатрабленьня старыя друкарскія машыны. Друкаваць-жа ў чужых друкарнях не маглі, бо ня маем грошай. Наш паважаны друкар Жорж Наумчык ахвяраваў і набыў кампютар». Адначасова рэдакцыя запэўнівае, што, «пачынаючы з гэтага нумару, «Б.Д» будзе выдавацца рэгулярна».**

**У нумары — як арыгінальныя матэрыялы, так і перадрукі. Змешчаны, у прыватнасці, урывак з кнігі К. Мерляка «Праца Канстантына Мерляка на эміграцыі», вершы Л. Пранчака, М. Кавыля, П. Звоннага, А. Брусевіча, Л. Алданавай, С. Багдановіч, пачатак мемуараў А. Катовіч «Мае ўспаміны», тэкст і ноты песні «Беларускія дзяўчаты» (словы М. Кавыля, музыка З. Яўтуховіча), разнастайная інфармацыя з жыцця беларусаў замежжа і Бацькаўшчыны.**

Віншуем!

# ХВАЛА НЕПАСЕДЛІВАСЦІ

## Аляксею ГАРДЗІЦКАМУ — 60



Ёсць пісьменнікі, якім удаецца адразу адчуць і знайсці сваю лінію творчасці, і яны з поспехам трымаюцца яе ўсё жыццё, дасягаючы і плённых вынікаў і шырокага грамадскага прызнання. Не рэдка аднак сустракаецца і іншы тып пісьменніцкага самавызначэння, свядомага ці часцей неўсвядомленага, інтуітыўнага: захапляцца на нейкі час пэўным колам інтарэсаў і паступова адыходзіць ад яго, пачынаць нешта новае і адсылаць яго на перыферыю сваёй творчай зацікаўленасці, каб зноў захапіцца, захваляваца і адчуць для сябе асалоду новай пробы, адкрыцця, самасцвярджэння ў нязведанай яшчэ галіне ці жанры. У такім тыпе творчых «паводзін» таксама, мабыць, выяўляецца нейкая ўнутраная неабходнасць літаратуры — магчыма, ніколі не натоленая прага руху, зменлівасці, асваення ўсё новых сфер жыцця. Менавіта гэтакі стыль адносін да пісьменніцкай прафесіі, здаецца, прываблівае Аляксея Гардзіцкага.

Аляксей Кузьміч пачынаў як «традыцыйны» літаратуразнаўца і крытык (даследаванне «Майстэрства дэталі»). Аднак вельмі хутка ён празарліва адчуў нарастаючую актуальнасць спецыфічнай разнавіднасці літаратуразнаўчай і крытычнай дзейнасці — жанру інтэрв'ю, жывой гутаркі з пісьменнікамі, які ў той час быў зусім не развіты ў беларускай літаратуры. А. Гардзіцкі не пакідае пісаць артыкулы і рэцэнзіі, яны друкаваліся таксама і за межамі Беларусі, але яго сэрца надоўга прыкіпае да жанру інтэрв'ю, дзе ўсё вызначае прадумана прыцэльнае пытанне і даверлівы адказ. У дадзеным выпадку паняцце даверлівасці ўзнікае невыпадкова. Справа ў тым, што ў папярэднія дзесяцігоддзі палітычнага нагляду за пісьменнікамі сам жанр інтэрв'ю быў не модным і нават не пажаданым якраз таму, што ён патрабаваў даверу паміж творчымі суразмоўнікамі. Людзі не хацелі давяраць свае слова іншаму чалавеку, баючыся скажэнняў сэнсу, за якія пасля маглі прыцягнуць да адказнасці. Жанр інтэрв'ю становіцца папулярным нашмат пазней.

Працуючы з 1972 года кансультантам Саюза пісьменнікаў Беларусі, А. Гардзіцкі працяглы ўжо час адказвае за кантакты і сувязі з зарубежнымі творчымі арганізацыямі. Ён з зайздросным стараннем выкарыстоўваў і выкарыстоўвае выгады сваёй пасады для знаёмства з многімі вядомымі літаратарамі. Ім запісаны размовы з А. Малышкам, Р. Лубкіўскім, В. Астаф'евым, Р. Казаковай, А. Жукаўскасам, Э. Матузявічусам, Я. Судрабкалнам, Ю. Ванагам, Е. Путрамантам, Я. Гушчам, А. Германавым, Н. Вылчавым, А. Тодаравым, Уолтэрам Мэем, Г. Эмінам і іншымі. Гутарыў ён таксама і з беларускімі пісьменнікамі — з К. Буйла, П. Пестракам, Я. Маўрам, Ф. Янкоўскім, І. Шамякіным, І. Навуменкам. Гэтыя гутаркі склалі кнігі «Сустрэчы», «Вачыма сяброў», «Сябрына».

У строгім сэнсе слова — гэта не зусім класічнае інтэрв'ю з яго трохі халаднавата-рацыяналістычным падыходам да прадмета размовы. Гутаркі А. Гардзіцкага ўцеплены непрыхаванымі асабістымі адносінамі да знакамітага суразмоўніка, перш за ўсё — захапленнем яго творчасцю і асобай. У выніку яму лягчэй заўважыць нейкі жывы штрышок у характары пісьменніка, нейкую мілую рысачку ў побытавым абыходку, запомніць арыгінальнае выслоўе, у якім адбітак часу ці гумарыстычнае сведчанне нораваў у літаратурным асяроддзі.

У многіх выдатных літаратараў А. Гардзіцкі бываў дома. Але дзе б ён ні гутарыў — у кватэры, у дарозе ці яшчэ дзе, ён трымаецца сціпла, не навязвае жорстка наперад падрыхтаваных пытанняў, хоць, відаць, без пэўнай падрыхтоўкі ў такой справе не абысціся. Аляксей Кузьміч імкнецца весці натуральную размову, дзе слова чапляецца за слова, дзе ёсць месца і сур'ёзным літаратурным праблемам, і дарагім успамінам, і жартам.

У творчай біяграфіі А. Гардзіцкага месціцца цікавая публікацыя «Апавяданняў маці», насычаных народнай мудрасцю, апавяданняў дзе сур'ёзных, дзе гумарыстычных.

Апошнім часам А. Гардзіцкі стаў мэтанакіравана працаваць у жанры гумару, але і гэты жанр у яго своеасаблівы і мала распаўсюджаны ў беларускай літаратуры, дзе ён дагэтуль бытаваў пераважна ў вуснай перадачы, хоць у іншых літаратурах ён дужа развіты і шырока публікуецца. Гэта праўдзівыя гумарыстычныя карацелькі з пісьменніцкага жыцця. Збіраць і публікаваць іх надзвычай важна, бо пісьменнікі твораць не толькі за пісьмовым сталом, але і ў штодзённым побыце. Вельмі часта бывае, што ў іх анекдатычных учынках і гумарыстычным досціпе дух часу і жывая грамадская атмасфера раскрываецца з большай кандэнсаванай непасрэднасцю і смелай адкрытасцю, чым у іх уласна мастацкай творчасці. Такую працу варта толькі вітаць.

Што там наперадзе ў юбіляра? Новае жанравае захапленне?

**Віктар КАВАЛЕНКА**

**Лімаўцы віншуюць Аляксея Кузьміча з юбілеем, зычаць яму доўгіх год жыцця, новых творчых поспехаў!**

## Міколу КОРЗУНУ — 60

12 мая спаўняецца 60 гадоў Міколу Корзуну. Нарадзіўся ў вёсцы Заўшыцы цяперашняга Салігорскага раёна. Меў цяжкае даваеннае і пасляваеннае маленства: бацьку аб'явілі ворагам народа і чорны варанок павёз яго назаўсёды.

Выступаць у друку М. Корзун пачаў у 1958 годзе. Выдаў шэраг кніг для дзяцей. У зборніку «Жывы куток» (1962) героі далучаюцца да прыроды, пачынаюць адчуваць сябе як бы часцінкай усяго жывога. Гэтая ж тэма, поруч з іншымі, прагучала і ў кніжцы «Тры сонцы» (1971).

У аповесці «Віця Сініца» праўдзіва расказана пра юнага героя, яго барацьбу з нямецка-фашысцкімі захопнікамі. Падзеі мінулай вайны адлюстраваны і ў аповесці «Навальнічная паласа». Гэтым разам аўтара зацікавіў гераічны лёс аршанскай піянеркі-партызанкі Олі Дэмеш.

У 1989 годзе у М. Корзуна выйшла аповесць «Святло чароўнай зоркі». Герой гэтага дакументальна-мастацкага твора — вядомы скульптар, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР Мікалай Рыжанкоў. Ён адзіны з аўтараў манумента, узведзенага ў гонар Настассі Фамінічны Купрыянавай і яе сыноў у Жодзіне, партрэта сына Я. Коласа Юрыя, які загінуў у гады вайны, шэрагу іншых работ. М. Корзун паказвае, як М. Рыжанкоў ішоў да майстэрства. Аповесць, адрасаваная дзецям, напісана даходліва і займальна.



Віншуем Міколу Паўлавіча з юбілеем! Зычым яму доўгіх год жыцця, новых творчых поспехаў!

Пошта

# ПАРЛАМЕНЦЁР

***Летась мне давялося быць на святкаванні Дня Перамогі ў Хойніках. Тут я сустрэўся з цікавым субяседнікам, ветэранам Айчыннай вайны Уладзімірам Маркавічам Шпітальнікам, ураджэнцам Хойнікаў, які цяпер жыве ў Мінску. Мы шмат гутарылі з Уладзімірам Маркавічам, найбольш вядома, аб вайне. Адзін з яго расказаў — пра штурм нямецкага горада-крэпасці Кёнігсберга — запомніўся асабліва.***

— Гэта адбылося, — пачаў свой расказ У. Шпітальнік, — у красавіку 1945 года, а больш дакладна — 8 красавіка. Той дзень памятны не толькі для мяне, але і для маіх баявых сяброў. Нашы войскі ўжо грамілі ворага ў цэнтры горада-крэпасці, але фашысцкі гарнізон, хоць і прадчуваў сваё паражэнне, працягваў упарта супраціўляцца. Савецкае камандаванне прыняло гуманнае рашэнне: спыніць кровапраліццё, зберагчы людзей. Вечарам падпалкоўнік Пётр Рыгоравіч Яноўскі, капітан Аляксандр Ягоравіч Фядорка і я атрымалі загад ісці парламенцёрамі, каб прапанаваць фашыстам умовы капітуляцыі і ўзяць у палон каменданта гарнізона генерала Ляша і яго штаб. Нам пашылі белы сцяг, і мы з ім 8 красавіка ў 18 гадзін 30 хвілін адправіліся ў стан ворага. Было яшчэ светла, але ўвесь горад быў ахутаны густым і едкім дымам пажарышчаў. Вуліцы былі завалены пагнутымі трамвайнымі рэйкамі, бітай цэглай. Наша камандаванне па рацыі папярэдзіла Ляша: калі праз 12 гадзін парламенцёры не вернуцца, зноў пачнецца штурм і рэшткі гарнізона будуць знішчаны. Позна вечарам на адной з вуліц нас затрымаў нямецкі патруль.

Штаб Ляша размяшчаўся ў сутарэнні. На руках у нас быў адзіны дакумент — зварот маршала А. М. Васілеўскага да акружаных войск гарнізона Кёнігсберга на рускай і нямецкай мовах. Прыняў нас начальнік аператыўнага аддзела штаба. Падпалкоўнік Яноўскі ўручыў яму ультыматум. Потым пачаліся перагаворы аб дэталях здачы. У пачатку першай гадзіны ночы накіраваліся ў кабінет Ляша.

— Ці не змаглі б вы, — спытаў Ляш, — папрасіць ваша камандаванне прывесці сюды пяць танкаў, артбатарэю і роту аўтаматчыкаў?

— Навошта? — здзівіўся Яноўскі.

— Ведаеце, мы, армейскія афіцэры, за тое, каб спыніць ваенныя дзеянні, але ж ёсць яшчэ фашысты, СС...

Яноўскі адмовіў і прапанаваў неадкладна збірацца ў дарогу. Тады зноў пачалася балбатня: колькі рэчаў можа ўзяць кожны афіцэр, колькі ад'ютантаў і ардынарцаў панясуць чамаданы...

Неўзабаве прынеслі загад аб спыненні супраціўлення гарнізона. Яноўскі паглядзеў і вярнуў яго назад.

— Тут няма вашага подпісу, пан камендант, — сказаў ён.

Сапраўды, у загадзе стаяў толькі подпіс начальніка аператыўнага аддзела штаба. Ляш, зразумела, хацеў схітрыць, каб не ўвайсці ў гісторыю генераламкапітулянтам. Стары прахвост хацеў застацца чысценькім. Ды і пруская фанабэрыстасць не дазваляла яму падпісаць акт аб капітуляцыі. Але давялося. Атрымаўшы гэты дакумент, падпалкоўнік Яноўскі загадаў Ота фон Ляшу і яго штабу лічыць сябе палоннымі і следаваць за намі. Незвычайную калону ўяўляла сабой наша група. За Яноўскім, які ішоў наперадзе, панура крочылі нямецкія генералы, палкоўнікі, іх ад'ютанты і ардынарцы. Мы з Фядоркам замыкалі калону. Так адбылася капітуляцыя, якая ўвайшла ў гісторыю. А нас, трох парламенцёраў, узнагародзілі ордэнамі Чырвонага Сцяга.

Але прызнаюся, што калі ішлі ў стан ворага, дык у кожнага з нас выступаў халодны пот. Перажывалі ўсё ж: ці здзейснім загад камандавання жывымі? — закончыў свой расказ Уладзімір Маркавіч.

**І. БАРЫСАЎ**

*г. Скідзель*



*На здымку: У. М. Шпітальнік.*
*Фота аўтара*

# ПАКЛАЎШЫ РУКУ НА БІБЛІЮ

(Пачатак на стар. 5)

«Шэрая шынельная маса, непраўдападобна вялізныя застыглыя вочы, аднолькава цёмныя ва ўсіх твары — рухаецца ўсё гэта, цячэ-працякае міма нас, праз нас. Хлюпанне-шэлест у снежным месіве соцень, тысяч ног, босых або ў анучах. Між імі і намі — гэтыя ў смалянах, мокра-зіхоткіх плашчах, з бярозавымі, па-здрадніцку белымі палкамі і аўчаркамі, што рвуцца да жывога чалавечага мяса. Ашчэраныя зяпы. Палонныя ідуць спачатку скрозь нашу немату, затым — як прарвалася — скрозь бесперапынны бабскі крык, выццё. Нехта спрабуе перадаць, перакінуць тое, што прынеслі, хлеб, вузялкі з тварагом, сала — да нас пад частыя ўдары палак цягнуцца худыя рукі, шэрыя шынельныя рукавы. (Колер лютага голаду, колер палону — шэры, шынельны, гэта засталося надоўга ў нашай свядомасці). Здалося, што канваіры схапілі кагосьці з глушанцаў і зашпурнулі ў калону палонных, бярозавыя палкі цяпер з аднолькавай ярасцю апускаліся на галовы тых, што ішлі па шашы, і на галовы жыхароў, што напіралі ад канаў.

Колькі цягнуўся гэты паход людзей-ценяў, колькі іх прайшло перад намі, адказаць, бадай, не мог ніхто. Яны ішлі, адыходзілі ў бок Старых Дарог, Слуцка, пакідаючы на абочыне сябе — новыя і новыя трупы». (Алесь Адамовіч, «Vixi», «Полымя» N II, 1993, с. 60).

Чамусьці гэтыя карціны не прыгадваюцца ні пану Туронку, ні спадару Шыраеву. А яны, такія карціны, былі ўсеагульным правілам адносін гітлераўцаў да палонных Чырвонай Арміі. Шыраева і Туронка ўмілiла тое, што каго-нікага з беларусаў адпусцілі з лагера ваеннапалонных за добры кавалак сала або за шынку ці скрутак каўбас.

Аўтары разглядаемых тут артыкулаў усю віну за знішчэнне нямецкімі акупантамі насельніцтва, разбурэнне гарадоў і вёсак звальваюць на партызан. Прафесар Я.Шыраеў нават свой артыкул назваў «Партызаны правакавалі акупантаў». Хто ж справакаваў акупантаўператварыць у друз Мінск, Віцебск, Магілёў, іншыя гарады Беларусі ў першыя дні вайны, калі партызан і ў паміне яшчэ не было?

Ю.Туронак лічыць партызанскі рух на Беларусі, наогул, у тыле ворага, неабгрунтаваным, як бы незаконным. «Зазначым, што партызанскую вайну савецкі ўрад аб'явіў у самыя першыя дні германскага нашэсця, калі намеры Гітлера адносна занятых тэрыторый СССР былі яшчэ невядомы», — піша ён.

Гэта няпраўда. Вышэй было сказана, што ўвесь свет ведаў задоўга да вайны пра намеры Гітлера захапіць землі Савецкага Саюза, і як іх скарыстаць.

А В.Акудовіч працягвае сваю «генезісную» лінію аб няздольнасці беларусаў, іх нежаданні змагацца за сваю зямлю, за саміх сябе. «Інспіраваная партызанка з аднаго боку правакавала немцаў на дадатковую «пазапланавую» жорсткасць, з другога, што, можа, яшчэ горш, саміх беларусаў да ненатуральнага ім, непатрэбнага і ўрэшце згубнага змагання з акупацыяй».

Гэта кашчунства над святым правам і абавязкам беларускага народа.

І яшчэ: «для нас і для Расіі гэта былі дзве зусім розныя войны». Як уявіць гэта ў рэальнасці? Беларусь мела свой фронт, Расія — свой? У Беларусі была свая мэта ў той вайне, у Расіі — свая? Не, і фронт, і мэта была адна, агульная, бо вайна гэта несла ім агульную пагрозу знішчэння. Вядома, што ў той час Беларусь не мела незалежнасці, уваходзіла як рэспубліка ў састаў Савецкага Саюза, але не мела праў рэспублікі, усе яе праблемы вырашаліся ў Маскве. Часта без яе ўдзелу і ведама. Такая была рэальнасць. Дасягнуць незалежнасці ў тыя даваенныя часы Беларусь проста не магла, хоць ідэя гэта ў народзе, у інтэлігенцыі жыла. Вялася, хоць і слабая барацьба, калі не за незалежнасць, то за большую самастойнасць. Але калі навісла пагроза фашысцкай Германіі — знішчэння нас, як народа, і як дзяржаўнае ўтварэнне, усё трэба было адкінуць, і аб'яднаць сілы на выратаванне ад пагібелі. Як некалі казаў Змітрок Бядуля: «што ні ясі, у рот нясі», так і ў тую вайну — усе сілы на перамогу. У барацьбе партызан і франтавікоў-беларусаў у складзе агульных сіл Савецкага Саюза было не «самазніштажэнне», як піша В.Акудовіч, а выратаванне.

В.Акудовіч піша, што партызанскі рух на Беларусі быў інспіраваны. Гэта недакладна. Партызанскі рух быў адкрыта арганізаваны ЦК партыі і Савецкім урадам. Была прынята спецыяльная пастанова аб арганізацыі партызанскіх атрадаў у тыле ворага. Партызанскі рух стаў грознай сілай у перамозе над агрэсарам. Дастаткова пацвердзіць гэта адным прыкладам.

У пачатку жніўня 1943 года партызаны правялі вядомую «рэйкавую вайну». За дзве ночы партызаны Беларусі ўзарвалі 36 тысяч рэек чыгункі, а да канца жніўня — 121500 рэек. Пусцілі пад адхон 834 эшалоны, узарвалі 184 чыгуначныя масты, знішчылі 1429 аўтамашын. Можна дапусціць, што гэтыя звесткі перабольшаны, але ж фактам застаецца тое, што чыгунка ў тыле ворага на Беларусі была выведзена са строю на два тыдні. «Рэйкавая вайна» спалучалася з вялікімі баямі пад Курскам і Смаленскам і ў значнай меры памагла разгрому войск праціўніка.

Цікава, што ніхто з тых, якія выступалі ў друку з абяленнем акупантаў, з апраўданнем дзейнасці карнікаў, не асудзілі гэтых «цывілізаваных» варвараў за вядзенне вайны з партызанамі па ваенных правілах. Нанеслі партызаны ўдар немцам — адкажыце ўдарам за ўдар. Але гэта, відаць, было рызыкоўна. Лягчэй, без усякіх для сябе страт, сагнаць жыхароў бліжэйшых вёсак у будынкі і спаліць, хоць мірнае насельніцтва ніяк не вінавата ў паводзінах партызан.

З самага пачатку вайны немцы праявілі зверства — бамбілі пераважна не ваенныя аб'екты, а гарады і паселішчы, знішчалі масамі мірных жыхароў. Нават калі Чырвоная Армія выгнала немцаў з Мінска (3.7.1944 г.), нямецкая авіяцыя пасля гэтага бамбіла горад некалькі начэй запар, добра ведаючы, што ў ім няма ні часцей Чырвонай Арміі, ні ваенных аб'ектаў — фронт перасунуўся ў раён Баранавіч. Мірнае насельніцтва, каб выратавацца ад бамбёжкі, на схіле дня пакідала горад і сем'ямі выходзіла ў навакольнае адкрытае поле і там начавала.

Чаму пра гэта маўчаць аўтары новых «тэорый» пра мінулую вайну?

У Беларусі фашысцкімі захопнікамі было праведзена звыш 60 карных экспедыцый. За час вайны разбурана і спалена 9200 вёсак. Ю. Туронак у сваёй кніжцы падае звесткі пра адну карную экспедыцыю немцаў пад назвай «Зумпфібэр» — балотная ліхаманка, якая была праведзена 21 верасня 1942 г. «Экспедыцыя спаліла 49 партызанскіх лагераў і некалькі вёсак. У баях забіта 389 партызан і 1274 цывільныя жыхары, 8350 яўрэяў, вывезена ў Германію 1217 чалавек. Усяго загінула звыш 10 тысяч чалавек, з якіх партызаны не складаюць і 4 працэнтаў».

Ці можна знайсці апраўданне такой вайне акупантаў з партызанамі? Аднак спрабуюць шукаць.

На акупаванай тэрыторыі Беларусі, апроч вайсковых і паліцэйскіх фарміраванняў з мясцовага насельніцтва, дзейнічалі і цывільныя арганізацыі. Да такіх адносіцца і Саюз беларускай моладзі (СБМ). Дзейнасць гэтай арганізацыі падаецца ў нашым друку некаторымі аўтарамі, як сведчанне клопату фашысцкіх акупантаў аб развіцці дэмакратыі і культуры і нават падтрымкі ў барацьбе за незалежнасць Беларусі.

Кастусь Харашэвіч з Маладзечна ў артыкуле «На дзейнасць СБМ настаў час пагля»дзець без бальшавіцкай зашоранасці» («Наша слова», N 6, 1994 г.) піша: «Я лічу, што вядзецца планамерная дыскрэдытацыя не так Саюза беларускай моладзі, як самой ідэі незалежнасці беларускай нацыі». Вось як, ні больш, ні менш. Скажам прама: не дай бог такой незалежнасці, якую несла Беларусі, і таму ж СБМ заваёва нашай зямлі фашысцкімі агрэсарамі. Адсылаю Кастуся Харашэвіча і паважаных чытачоў яшчэ раз перачытаць пункты 4 і 5 пададзеных вышэй застольных гаворак Гітлера пра лёс беларускага народа.

Саюз беларускай моладзі быў арганізаваны 3 чэрвеня 1942 г. дэкрэтам міністра заваяваных Усходніх зямель Альфрэда Розенберга. Структура СБМ была створана па ўзоры Гітлерюгенда, а члены СБМ нават насілі форму Гітлерюгенда. Выхаванне моладзі гэтай арганізацыі праводзілася ў духу новай Беларусі пад правадырствам нацыянал-сацыялістычнай Германіі.

Моладзь гэтай арганізацыі абманулі. Можна ўпэўнена сказаць, што большая частка гэтай моладзі не была дасведчана ў намерах фашыстаў сцерці Беларусь з твару зямлі. Ці ёсць асновы ўзводзіць гэту памылку часткі беларускай моладзі, зробленую ў перыяд нямецкай акупацыі, у ранг падзеі станоўчай гістарычнай важнасці і ўрачыста адзначаць угодкі яе арганізацыі? Думаю, што адказ ясны.

Але нельга і абвінавачваць тых маладых людзей і дзяцей (у СБМ прымалася моладзь ад 10 да 20-гадовага ўзросту), а сёння ўжо старых людзей, у колішніх памылках, наклейваць на іх ярлыкі. Многіх маладых людзей, ды і не толькі маладых, балюча закранулі трагічныя падзеі, якія адбываліся ў Савецкім Саюзе ў перадваенныя гады — масавыя арышты, высылкі, расстрэлы. Гэта не магло не адштурхнуць іх ад сацыялістычных ідэй, ад савецкага рэжыму.

Але ж выступаць так у абарону СБМ, як выступіў К. Харашэвіч, нельга. У той час, калі ён быў членам СБМ, ён заблуджаўся, яго, як і іншых, абманулі. Але ж з таго часу прайшло, лічы, паўстагоддзя, адбыўся Нюрнбергскі працэс, ААН асудзіла фашысцкія арганізацыі, як антычалавечыя, надрукаваны матэрыялы, якія выдаюць фашысцкія планы і мэты захопу чужых зямель, у тым ліку і беларускай. За гэты час можна было адумацца, пазнаць сваю памылку, а не ўдавацца ў амбіцыю.

Ю. Туронак у сваёй кніжцы, як і М. Віж у прыгаданым вышэй артыкуле, высока ўзносяць гаўляйтэра Вільгельма Кубэ, як дабрадзея Беларусі. Кубэ, маўляў, імкнуўся адрадзіць беларускую культуру, беларускія школы, тэатры, дазваляў шырокую самадзейнасць, нават збіраўся перавесці праваслаўную і каталіцкую цэрквы на беларускую мову.

Палітыка Кубэ разыходзілася з палітыкай акупацыйнага рэжыму Гітлера. З гэтага поваду Гімлер нібы сказаў, што смерць выратавала Кубэ ад канцлагера. На справе ж ніякі канцлагер не пагражаў Кубэ. Ён разыходзіўся з Гітлерам у тактычных пытаннях, у шляхах і метадах дасягнення стратэгічнай мэты. Гітлер быў за бліцкрыг і не бачыў патрэбы ў супрацоўніцтве з мясцовым насельніцтвам. Кубэ быў перакананы, што бліцкрыг не ўдаўся, вайна зацягнецца, і трэба шукаць кантакты з мясцовым насельніцтвам, каб супакоіць яго. Калі б Кубэ выступіў супроць стратэгіі Гітлера, супроць дэвіза «Drang nach Osten», супроць заваёвы «Lebensraum'a», то апынуўся б на вісельні побач з мінскімі падпольшчыкамі. Кубэ вёў каварную палітыку: будуйце беларускія школы, тэатры, забаўляйцеся ў гуртках самадзейнасці, спявайце па-беларуску ў сваіх цэрквах, спадзявайцеся на багатае самастойнае жыццё пад эгідай фашысцкай Германіі, толькі не ідзіце сёння ў партызанскія атрады.

Гаўляйтэр Кубэ быў каварным катам беларускага народа. Пры яго ўдзеле фарміраваліся паліцэйскія каманды і вайсковыя атрады з мясцовага насельніцтва. Ці не па загадзе Кубэ ў Мінску на Камароўцы былі пастаўлены стандартныя вісельні, на якіх па некалькі дзён вецер гайдаў трупы падпольшчыкаў? На час павешання да вісельняў зганялася мірнае насельніцтва дзеля застрашэння. Нярэдка прысутнічаў там і Кубэ.

Як паказвае вышэйпададзенае, перагляд ацэнак вайны Германіі супроць Савецкага Саюза ідзе без аб'ектыўнага і дастатковага вывучэння фактаў у святле той ваеннай сітуацыі, а ў многіх выпадках падзеі вайны трактуюцца няпраўдзіва або замоўчваюцца зусім. Ствараецца ўражанне, што пераацэнка вайны ідзе па загадзя вызначаным плане — абяліць, апраўдаць акупантаў і іхніх прыспешнікаў за бесчалавечныя ўчынкі. Усю віну за зверствы гітлераўцаў зваліць на партызан.

Ці ёсць неабходнасць у пераглядзе ацэнак і вызначэнняў некаторых сітуацый і асаблівасцей Вялікай Айчыннай вайны, дадзеных у гістарычных працах, напісаных да 1986 года? На маю думку, ёсць такая патрэба. Узяць хоць бы вызначэнне агульнага характару вайны. Вышэйшымі партыйнымі органамі, прапагандай, некаторымі гісторыкамі мінулая вайна ідэалагізавалася. Назва — Вялікая Айчынная надавалася не толькі таму, што яна мела выратоўчае значэнне для Айчыны, але ў першую чаргу таму, нібы яна з нашага боку вялася за сацыялізм, за камунізм, у сталінскім варыянце, за дэспатычны сталінскі рэжым, за знішчэнне фашызму. Вось гэта, ідэалагізацыю вайны, выдаванне яе за вайну ідэалогій можна назваць фальсіфікацыяй. Вядома, што ідэалагічная барацьба не вырашаецца ні штыкамі, ні гарматамі, ні нават атамнай бомбай. Яна вырашаецца ходам жыцця. Чырвоная Армія разам з войскамі саюзнікаў разграміла армію фашысцкіх агрэсараў, перамагла Германію, аднак фашысцкая ідэалогія засталася.

Чырвоная Армія, партызанскія атрады ваявалі за выратаванне, захаванне сваіх зямель, сваёй айчыны. У арміі і партызанскіх атрадах гэта ясна ўсведамлялі калі не ўсе, то абсалютная большасць. Усведамлялі гэта і ў народзе многія і многія.

Прыгадаю прыклад. У нашым артпалку, у падмаскоўных баях канца 1941—пачатку 1942 года, ваявалі два дваранiны, адзін у чыне маёра, другі — лейтэнанта. Абодва прыйшлі на фронт добраахвотна, з канцлагераў. Што паклікала іх узяцца за зброю? За што яны ваявалі? За сацыялізм? За камунізм? За сталінскі рэжым, які загнаў іх у канцлагеры? Пагроза знішчэння радзімы, айчыны надала ім сілы волі адкінуць свае крыўды і нязгоды з існаваўшым дэспатычным рэжымам і пайсці адстойваць сваю зямлю. Але гэта не значыла, што яны прымірыліся са сталінскім дэспатызмам.

У мінулай вайне было шмат памылак, без чаго, бадай, не абыходзіцца ні адна вайна. І не трэба затушоўваць гэтыя памылкі. Вялікія чалавечыя ахвяры, матэрыяльныя і тэрытарыяльныя страты выкліканы ў значнай меры тым, што ў гады жорсткіх сталінскіх рэпрэсій былі знішчаны самыя кваліфікаваныя камандныя кадры Чырвонай Арміі. Нярэдка ў пачатку вайны палкамі камандавалі капітаны, дывізіямі — маёры, у якіх, вядома, не было дастаткова адпаведных ведаў і вопыту.

У працах гісторыкаў дужа заніжаны людскія страты Чырвонай Арміі і празмерна завышаны страты нямецкай арміі.

Вялікі адмоўны ўплыў на ход вайны мела і няправільная знешняя палітыка Савецкага Саюза. У яго не было саюзнікаў. Ён адгарадзіўся ад усяго свету жалезнай заслонай. А калі над краінай навісла пагроза яе знішчэння, сталінскія дыпламаты сталі кідацца ў пошуках саюзнікаў і... заключылі ўмову з Германіяй.

Цэнтральны Камітэт ВКП(б) і Камінтэрн у перадваенныя гады вялі вострую, непрымірымую крытыку сацыял-дэмакратычных партый заходнееўрапейскіх краін за здрадніцтва рабочаму класу, за прыслужніцтва буржуазіі. Фашысцкая партыя Гітлера крытыкавалася ў меншай меры. Не фашысты, а сацыял-дэмакраты называліся апошнімі, а значыць, самымі злымі праціўнікамі сацыялізму ў канчатковай перамозе яго над капіталізмам. Такой палітыцы ВКП(б) і Камінтэрна падпарадкоўвалася і Германская камуністычная партыя. Сілы сацыял-дэмакратаў у барацьбе з фашыстамі такой палітыкай былі аслаблены, што спрыяла прыходу Гітлера да ўлады.

Ёсць і іншыя пытанні мінулай вайны, якія варта перагледзець. Але галоўнае яе вызначэнне, як Вялікая Айчынная, не падлягае перагляду, бо гэта з'яўляецца ісцінай. На пытанне В. Акудовіча «Дык ці была для нас (маецца на ўвазе Беларусь. — **І. Д.**) гэта вайна Вялікай Айчыннай?» адказ можа быць толькі адназначны — была! Была яна Вялікай Айчыннай таму, што вялася за выратаванне ад знішчэння нашай Айчыны, Беларусі, хоць і несамастойнай, залежнай у тыя часы. Але ж гэта зямля, беларуская, нас нарадзіла і прыме нас у сваё лона. У гэтым сэнсе яна наша Айчына. Пытанне стаяла так: калі пераможа Германія, Беларусі не толькі ніколі не стаць вольнай, але нават не існаваць. Будзе наша перамога — будзе і надзея, што прыйдзе час і яна стане незалежнай.

І такі час настаў. Рэспубліка Беларусь заявіла ўсяму свету аб сваёй незалежнасці. Цяпер гэту незалежнасць трэба шанаваць і ўмацоўваць. Усякія скажэнні, вольныя ці нявольныя, палітызацыя ці недасведчанасць у падачы падзей Вялікай Айчыннай вайны, як і скажэнні нашай грамадскай гісторыі, а тым больш заведамая няпраўда, шкодзяць умацаванню суверэнітэту. Яны раз'ядноўваюць народ. А раз'яднанне — гэта хвароба нацыі, якая перш за ўсё адбіваецца на сукупнай творчай дзейнасці народа.

Пра гісторыю Вялікай Айчыннай вайны, як і пра гісторыю наогул трэба пісаць клятвенную праўду, палажыўшы руку на Біблію перад тым, як брацца за пяро. І пісаць Праўду, адну Праўду, толькі Праўду.

**Ігнат ДУБРОЎСКІ**

## ФРАНЦУЗСКІ БАЛЕТ У МІНСКУ



**Упершыню мінскія гледачы змаглі пазнаёміцца з сучасным балетам Францыі. У Дзяржаўным тэатры музычнай камедыі адбыўся спектакль «Мігценне месяца». Гэта тры харэаграфічныя мініяцюры, створаныя Мішэлем Келеменісам на музыку Клода Дэбюсі. У іх Мішэль Келеменіс, які выступае і як харэограф і як танцоўшчык, разам з пяццю выканаўцамі спрабуе спасцігнуць вобразнасць, паэтыку і багацце харэаграфічнага слоўніка, віртуознай мовы рухаў і жэстаў.**

*На здымку: сцэна з харэаграфічнай мініяцюры «Пыльнік».*

*Фота Генадзя СЯМЁНАВА, БЕЛІНФАРМ*

## САТВАРЫЛІ ЦУД



**...У сям'і Келераў — вялікае гора. Іх дачка Элен з дзяцінства пазбаўлена зроку, слыху і мовы. З-за патуранняў старэйшых дзяўчынка ператвараецца ў маленькага тырана. Бацькі не ведаюць, што  ім рабіць. Але вось у доме з'яўляецца юная настаўніца Ані, сама ў нядаўнім мінулым сляпая, выхаванка дзіцячага дома.**

**Як ёй удалося перавыхаваць Элен, расказвае новы спектакль Беларускага рэспубліканскага тэатра юнага гледача «Стваральніца цуду». Яго паставіў рэжысёр-пастаноўшчык з Масквы Уладзімір Салюк па аднайменнай п'есе амерыканскага драматурга Уільяма Гібсана.**

*На здымку: сцэна са спектакля.*

*Фота Уладзіміра ВІТЧАНКІ, БЕЛІНФАРМ*

## У ДРУГІМ НУМАРЫ «МАСТАЦТВА»

**змешчаны гутарка Ю.Залоскі з філосафам М.Крукоўскім «Вера — найперш»; артыкулы Г.Куляшовай «Новае прачытанне «Іаланты», З.Лысенкі — «Дэбютуе «Мінск-балет», В.Дадзіёмавай — «Нясвіжскі маэстра» (паэт, кампазітар і грамадскі дзеяч Мацей Радзіві), Я.Шунейкі — «Беларускі рыжанін» (мастак В.Целеш), А.Аркуша — «Святло сонечнай пробы» (габеленшчыца Т.Козік), В.Гаршкавоз — «Вотыўны жывапіс Беларусі», Т.Арловай — «Усвядоміць, за што змагаемся (пра сённяшні тэатр), В.Ракіцкага — «Не «тоньше писка...»!» і Т.Ратабыльскай — «Сам-насам з гледачом» (І Міжнародны фестываль монаспектакляў «Я»), інтэрв'ю Я.Росцікава з былым дырэктарам «Тэлефільма» (таксама былога) І.Кавелашвілі «Тое, што Галівуду не па сілах», іншыя матэрыялы.**

## НАШ КАЛЯНДАР

**28 красавіка споўнілася 70 гадоў крытыку і літаратуразнаўцу Васілю Бурану. У 1954 годзе ён скончыў Мінскі педагагічны інстытут, да 1970 года жыў і працаваў на Беларусі. Нямала артыкулаў прысвяціў праблемам сучаснай літаратуры, кнігазнаўству, бібліяграфіі. Пісаў пра творчасць В. Быкава, Я. Васілёнка, А. Кулакоўскага, М. Ракітнага, А. Савіцкага, Б. Сачанкі і іншых пісьменнікаў. У 1976 годзе ў выдавецтве «Мастацкая літаратура» выйшла кніга В. Бурана «Васіль Быкаў» — першая манаграфія пра знакамітага пісьменніка.**

# АДВЕЧНЫ КЛІЧ

*(Пачатак на стар. 9)*

напэўна, у душы сумаваў па царскім горадзе, з якога давялося ўцякаць ад мяцежнай, галоднай беззаконніцы-рэвалюцыі. Старыя Пратасевічы адчулі сябе тут, на хутары, прыніжанымі, але сям'я звыклася з лёсам, зблізілася з вяскоўцамі, апрацілася. Хоць не ўмеў адвакат гаспадарыць, але завёў у сваім селішчы апостальскае жыццё: быў талерантным да тутэйшых нашчадкаў, былых прыгонных мужыкоў і да прыезджых асаднікаў, а сярод польскай інтэлігенцыі меў крыху спагады, крыху павагі.

Валя выхоўвалася на міфах, якія прапаведавалі місіянеры польскасці «на крэсах». Рамантычная натура падказвала ёй лічыць героем Пілсудскага. Дзяўчо зачытвалася яго ўспамінамі, адрасаванымі юнакам, — «Moje pierwsze boje». Нават пры саветах вучаніца правярала на творах сацыяліста Пілсудскага тыя ідэі, якія прынесла новая ўлада. Прымала Валя толькі тое, што пераклікалася. Поўны збор твораў маршалка яна хавала і ў часе акупацыі ў хаце, як багамолка Біблію. Жыццё блізка падвяло яе да ўдзелу ў польскім антыгітлераўскім руху, але такога руху ў наваколлі не было. Рэальнасцю аказалася ўсяго нейкая канспірацыя ці хаўрус, цераз які — пайшла пагалоска — загінуў Валін брат. Акупанты расстралялі тады яшчэ ў Чыжыноўцах былога дырэктара Ярэміцкай школы Караля Берначыка ды абшарніка з маёнтка на Вобрыне пана Кашчыца. Польскае падполле на Навагрудчыне было пры акупацыі мізэрным, ізаляваным ад насельніцтва, ды ўвязвалася яшчэ ў бойку з беларуска-рускімі антысаветчыкамі, канкурэнтамі, грызлася за пасады абы ў якіх акупацыйных установах — да паліцыі і турэмнай аховы ўключна. Драпежны ажыятаж каштаваў нямала непатрэбных ахвяр.

Смерць брата параднiла Валю з ацалелымі тутэйшымі актывістамі, якіх акупанты знішчалі, як насякомых — да тла. А былі там і паважаныя ў ваколіцы асветнікі, змагары за беларускую мову, школу і культуру. Толькі ў Бранасаве расстралялі знаёмага ёй рэвалюцыянера, настаўніка Паўла Брылевіча і яго друга Паўла Хамко. Тэрор акупантаў распальваў помсту. Блізкімі сабе Валя адчула антыфашыстаў-партызанаў. Сімпатызавала дзёрзкім, адчайна смелым дзецюкам, якія ўзялі ў рукі зброю ды прымусілі дрыжэць гарнізоны, адпомшчвалі і за яе брата.

Я быў для яе суб'ектам такой жа, як і яна гадоўлі, але ж стаў партызанам. Добра ведаў я і тыя польскія міфы, што складалі яе рамантычную веру, толькі ўспрымаў іх змалку гадоў інакш, з другога боку. Усе мужчыны маёй вёскі Сіняўская Слабада прайшлі франтавую школу на царскай службе, а пры польскай акупацыі пайшлі ў бальшавікі, служылі ў Мінскім палку, біліся з легіянерамі пад Дзятлавам, пад Навагрудкам, на Нёмане — у Калядзіной, на Плясосах і закончылі баі восенню 1920 года на Кромані, потым хаваліся ў Налібоцкай пушчы да амністыі. Расказы мужчын пра тыя падзеі сталі для мяне жывою кнігай гісторыі і асноваю беларускай годнасці. З першага класа я парадкаваў у душы польскія міфы і беларускія антыміфы: настаўнік гаварыў у школе, што Пілсудскі — збавіцель Польшчы і вялікі правадыр, якому няма роўных у свеце; а вясковыя аўтарытэты, седзячы на прызбах, казалі: «Пілсудскі — бандыт, грабіў царскія паязды», а «Польшча — гэта торба ды яшчэ завязаная». У гімназіі я дайшоў да таго, што Пілсудскі неардынарная постаць, але чужая, варожая нам, беларусам. У старэйшых класах польскай Навагрудскай гімназіі вучылася тады група вучняў з закрытай польскімі ўладамі два гады назад беларускай. Яны расказалі навічкам па сакрэту, што жывём мы ў бурсе, збудаванай на ахвяры беларускага насельніцтва для вучняў беларускай гімназіі, якую ўлады разагналі, а бурсу забралі ды перадалі палякам. Матурысты вучылі нас адстойваць беларускую годнасць, і я біўся, як певень, на баксёрскіх дуэлях з палякамі за абразу беларускасці і сялянскасці. Аднойчы без пальчаткі ўрэзаў аплявуху сынку навагрудскага ваяводы, пана Сакалоўскага, калі той пасмеў кінуць мне абразлівае «хам». А, слухаючы на мітынгу выступленне яго бацькі, які апраўдваў захоп польскімі войскамі часткі Чэхаславакіі (Заользе) па дамоўленасці з Гітлерам, я гарэў ад сораму і паніжэння. Пасля такой школы глуму і грызні савецкая ўлада з яе арыентацыяй на просты люд, з прастадушнай дружбай народаў здавалася не мне аднаму, усім маім сябрам з Навагрудскага педвучылішча цудам з сёмага неба. Рэпутацыя ўлады падмокла ў часе панікёрскіх уцёкаў. Нам, студэнтам, давялося стаць заснавальнікамі антыфашысцкага падполля і партызанскіх атрадаў. Мы ўжо да вайны абураліся каленцамі і конікамі савецкіх функцыянераў, а ў партызанах і падаўна не ідэалізавалі ўлады, ні яе носьбітаў. Улада мякка слала, але часам добраму чалавеку муляла спаць. А, галоўнае, улада ганебна ўцякла ад немца. Змагаліся мы за вызваленне свайго краю ад акупантаў, верачы, што пасля перамогі зробім лепшае грамадства, прынамсі без скампраметаванага Сталіна, без страшных сялянам калгасаў, раскулачванняў, высылак. Няхай будзе гэта грамадства савецкае і наша, беларускае, грамадства даверу, а не даносаў і бязвінных ахвяр.

Мы, пачынальнікі падполля і першыя тутэйшыя выхадцы ў партызаны, не прыжыліся ў Чапаеўскім атрадзе, якім камандавалі акружэнцы. Мы стварылі ў Наднямонні свой атрад, увесь з беларусаў. Не было ў нас асобнай кухні для штаба, не лічылася, што ў камандзіраў шлункі шоўкавыя, а ў радавых зрэбныя ці з асмычынаў. У нашым атрадзе не было прывілеяў і глуму дужэйшага над слабейшым, не было даносаў і здрады, здарыліся адно два выпадкі: адзін са звыраднеласці, другі ў блакаду са страху. Нас упрошвалі вярнуцца ў Чапаеўскую брыгаду, што вырасла на базе аднайменнага атрада. Давалі нам поўную аўтаномію, захоўвалі месца дыслакацыі і свабоду дзеянняў на другім канцы Налібоцкай пушчы. Камісар чапаеўцаў Яцэнка двойчы прыходзіў угаворваць, урэшце запрасіў групу davеранных асоб паглядзець, якія гарантыі на выпадак блакады, які там парадак. Я быў у складзе дэлегацыі. Паглядзелі мы, а там, як быў, так і застаўся казарменны рэжым.

Пагутарыў я па-сваяцку з Пецем Парэцкім, нашым хлопцам, якога назначылі ў блакаду камандзірам камендацкага ўзвода. Той сказаў наўпрост: «Раней расстрэльваў Клімаў, то хоць было вядома за што, — перад фронтам, а цяпер, пры Кудрыне, страляюць употай».

Мы запатрабавалі, каб камандаванне адпусціла нашых хлопцаў, што заставаліся ад лета, і чалавек 10 ахвотна вярнуліся. Засталася толькі Вера Васілеўская, бо пайшла замуж за камандзіра Кудрына, затое мая дваюрадная сястра Тоня Балабановіч прывяла з сабою сардэчнага друга, усходніка, разведчыка Фёдара Каваленку.

Канешне, разам з перамогамі Чырвонай Арміі на франтах рос і прэстыж Сталіна. Аб гэтым сведчыла не надта цэнзурная партызанская прыпеўка:

**Ехаў Сталін на кані,**
**Гітлер — на сабаку.**
**Сталін Гітлеру сказаў:**
**Пацалуй мне ў с...у!»**

Прыход немцаў абудзіў апетыт былых польскіх службоўцаў ды прыгрэтых санацыяй асоб, беларускіх асімілянтаў, на пасады і аднаўленне панскіх баляванняў і банкетаванняў, якія гудзелі па суботах у мястэчках і вёсках «за польскіх часоў». Сёння скаргі паноў «крэсавякаў» з-за Буга, быццам саветы вывезлі за няцэлыя два гады ўсё польскае насельніцтва з Заходняй Беларусі ў Сібір, — псеўдапатрыятычныя лямэнтацыі, звычайны ідэалагічны блеф. Вывозіла НКВД разбудаваную да дзікасці польскімі спецслужбамі сетку інфарматараў, канфідэнтаў, членаў ваенізаваных арганізацый «Стралец», «Саюз асаднікаў», вывезлі амаль усіх леснікоў, якія, як аказалася, пагалоўна былі на паслугах тайнай паліцыі. Траплялі, на жаль, пад павальныя «вывазкі» без суда і следства нявінныя людзі. Богу душой вінаватымі ахвярамі аказаліся сем'і вывезеных. І ўсё ж няпраўдай з'яўляецца тое, быццам вывезлі ўсю польскую інтэлігенцыю. Інтэлігенцыя была тут прывазной, нават беларусаў-настаўнікаў царскай вывучкі ўлады высылалі на Пазнаншчыну і ў Галіцыю, а адтуль на іх месца насылалі «на крэсы» палякаў. Дык і з тых прысланых, той, хто адаптаваўся да беларускага насельніцтва, заставаўся пры савецкай уладзе на сваіх пасадах, вучыў тых самых дзяцей у беларускіх школах па-беларуску. А інжынеры, урачы маглі карыстацца і польскай мовай.

Перад выбарамі ў Вярхоўны Савет нас, студэнтаў педвучылішча, выкарыстоўвалі ў якасці лектараў у гуртках па вывучэнні Канстытуцыі, дык памятаю, адзін ганарысты пан інжынер, якога я запрашаў на заняткі, скрывіўся і заявіў, што ён на такія заняткі не пойдзе. Я адказаў, што нікога не прымушаю. Той упаў у раж і пачаў лаяць у маёй асобе савецкую ўладу: «А вы толькі ўмееце прымушаць, ты б хацеў прымусіць, але не выйдзе». Жонка яго суняла і сказала, што будзе хадзіць на заняткі з ахвотай. І хадзіла. А настаўнік гісторыі, які даваў нам метадычныя парады, сказаў, мне, што я дапусціў памылку: выбаршчыкаў трэба ўгаворваць, а не канфліктаваць. Тым больш з палякамі трэба быць карэктным.

У Навагрудскай гімназіі, якая стала польскай дзесяцігодкай, працаваў выкладчык нямецкай мовы, пан Копыта, хоць быў заядлым антыкамуністам і меў прымаўку пра камунізм: «Komu na, a Komu nie». І ніхто яго не чапаў. Пры акупацыі стаў оберперакладчыкам у гебіцкамісара і апекаваў там сваіх былых вучняў, між іншым Барыса Рагулю, Жоржыка Бусько і інш.

Канешне, польскія ўрадаўцы з ваяводскіх спецуправаў на сваіх пасадах не заставаліся, але без работы ніхто не хадзіў. Усе польскія службоўцы пры саветах жылі значна бядней. Частка жыла і пад страхам мела грашкі, баялася рэпрэсій, таму сустрэла нямецкую акупацыю як вызваленне, вяртанне да страчанага раю. Тым часам у школах акупанты пакінулі статус-кво — уведзеную савецкай уладай беларускамоўнасць. Палякі заставаліся, як пры саветах, нацыянальнай меншасцю, і адны адаптаваліся, іншыя снілі сны аб нядаўнім панаванні. Якіхсьці значных падпольных арганізацый на Навагрудчыне яны не стварылі і не маглі стварыць, бо было іх мала і не мелі даверу карэннага беларускага насельніцтва.

Было пацешна слухаць, як Валя ўсхваляла тую мінуўшчыну, якая нават будучы сучаснасцю не заслугоўвала пахвалы не толькі ў беларусаў, але і ў польскай інтэлігентнай лявіцы, што ішла ў адзіным антыфашысцкім фронце з беларускімі калегамі. Жыццё прыспорыла новых аргументаў. Я іх ведаў больш за яе і лепш за яе.

Зрэшты, мы з Валяй не палітыканілі ў гутарках, проста прыгадвалі цікавыя эпізоды са сваіх гімназісцкіх гадоў, гаварылі пра літаратуру, мастацтва, расказвалі пра адважных індзейцаў з раманаў Фенімора Купера і Карла Мая. Ды проста вярталі свае думкі ў цывілізаваны стан. Я заўважыў нават, што ў Пратасовай хаце стала ўтульней, пабялелі сцены, з'явіліся рэпрадукцыі пейзажных карцін Валіных любімых мастакоў. Наведваў я яе перадусім па клопатах партызанскіх, паколькі яна не захацела мець справу з разведкай адразу двух атрадаў. Такім чынам, я быў асобай даверу, замяняў камандзіра разведкі нашага атрада.

Для Валі я аказаўся крыху Калумбам: калісь насіў форму гімназіста, а дайшоў да партызан: апрануў савецкі афіцэрскі шынель і пышную вушанку з зайца, падораную на Дзяды пагарэльскім краўцом. У нейкай меры я падаваў прыклад, як ёй стаць не толькі партызанкай (яна такою была), я, спадзяюся, дапамог неназоліста, справай, прыкладам стаць беларускай без чужых патрыятычных фетышаў, прытым цвёрдай, смелай, гатовай пастаяць за беларускую годнасць.

Пазней даведаўся, што ў гэтым кірунку ўздзейнічала на Валю, напэўна, больш эфектыўна за мяне яе сяброўка па гімназіі, дзяўчына з іншага хутара, што ля Маласельцаў, Ніна Клаўсуць, разведчыца нашага атрада. У яе сям'і не было польскіх міражоў: бацька пры цары быў рэвалюцыянерам, луганскім рабочым, удзельнікам рэвалюцыі 1905 года, а на старасці ўвесь увайшоў у ідэю стварэння perpetum mobile і так ашчаслівіць чалавецтва.

Пасля вайны Пратасевічанка скончыць БДУ, стане выкладчыцай беларускай літаратуры ў вячэрняй школе ў Турцы, потым дырэктаркай, узброіць многіх Лявонаў ды Валодаў атэстатамі сталасці і будзе для іх большым ідэалам, чым калісьці для яе Пілсудскі. Калі згарыць ад пажару Валін дом, дык яе сябры і ўдзячныя Валоды ды Лявоны, яе гадунцы, учыняць талаку ды мігам выбудуюць новы дом, куды лепшы, у цудоўным месцы — на пагорачку. Будзе ўсё гэта, але тою марознаю раніцай не было фантазёра, які такое хоць бы праз туман убачыў.

Землі паміж Пратасовым селішчам і Лядкамі ажно да Сервачы і Новага Сяла належалі пры цары нейкаму абшарніку, ды гаспадар зацерушыўся ў куламесе рэвалюцыі, грамадзянскай вайны і разрухі. Польскія ўлады прыгарнулі нічыйныя, адпачыўшыя за вайну палі і лугі ў казну і, разбіўшы масіў на парцэлі, раздалі легіянерам Пілсудскага. Частку дзялянак купілі ў казны і цывільныя грашовыя палякі. Так утварылася вялікая асадніцкая калонія Пузяневічы. Тыя ж Валоды, што так паблажліва, нават цёпла гаварылі пра Пратасевічаў хутар, пра асаднікаў вярзлі адну пахабшчыну. Паміж тутэйшымі і наезджымі кіпела варажнеча, не меншая, як паміж індзейцамі і еўрапейцамі на дзікім Захадзе ў ЗША.

Нядаўна мне сустрэлася ў польскіх архівах справаздача Навагрудскага ваяводы за 1931 год, дзе той паведамляў урад, што Саюз асаднікаў выказаў на сходзе занепакоенасць тым, што найбольш інтэлігентныя адзінкі збываюць свае фермы і вяртаюцца назад у Польшчу, не жадаючы зносіць прэсінг з боку мясцовых сялян, якія лічылі сябе гаспадарамі гэтай зямлі. Не апраўдалі асаднікі і місіі пашыральнікаў польскасці. Жылі сваім кланам у глухой ізаляцыі. Мае партызаны прыгадвалі пацешныя праявы безгаспадарчасці многіх асаднікаў, распусты, дэгенератыўнасці.

Валін брат, натуральна, талерантна ставіўся да польскай асадніцкай сябрыны, але быў маўклівым, нелюдзімым рабацягам, і яго лёгка было падзараваць, так і згінуў малады Пратасевіч ахвярай інакшасці. Удар, які абрынуўся нечакана, яшчэ больш павязаў Валю з лядзецкімі дзецюкамі, з беларускім мужычым зрэб'ем, што ўвасабляла ў груваcткіх і пэўных, як палявыя валуны, імёнах — Валоды і Лявоны адкрытую прастату, шчырасць. Валоды не зналі хітрыкаў і падманаў, не ўмелі здраджваць. Прыкрадваць у асаднікаў — гэта калісьці ўмелі, але нават кралі з дзіцячым наіўным пачуццём тварэння справядлівасці. Украўшы, хваліліся адзін перад адным, выхульваліся перад старым Пратасам, бо ведалі, што ён, хоць і зганіць учынак, але не выдасць, а пры патрэбе, папросіш — задарам напіша скаргу ці прашэнне.

Валю інтрыгавала пытанне: як гэта адукаваны настаўнік стаў партызанам. Яна любіла неардынарныя паводзіны. Сапраўды, мне ледзь не аднаму з нашага атрада давялося калісьці

вучыцца ў гімназіі. Быў, праўда, яшчэ Павел Уласевіч, настаўнік родам з Лядак. Ён быў старэйшы за мяне, скончыў пры Польшчы Лунінецкую семінарыю, у 1940 годзе быў прызваны ў Чырвоную Армію, трапіў у акружэнне і апынуўся ў Маладзечне, у лагеры для ваеннапалонных. Старэйшая сястра, якая ўласна і вучыла яго на грошы, вытручаныя за лён, пайшла з суседам у Маладзечна і прывяла яго згаладнелага дамоў. Акрыяўшы, ён пайшоў настаўнічаць у лясную вёску Антанёва, а восенню 1942 года прыйшоў у наш атрад следам за малодшым братам Лявонам. Тут авалодаў мінёрскаю справай, але не меў шчасця: ставячы першую ў сваім жыцці міну на гасцінцы Карэлічы—Наваградак, узляцеў у паветра ля Тударава. Зарад быў вялізны, падрыўнікі прынеслі ў лагер толькі прапахлы дынамітам шматок аўчыны з яго вышыванага кажушка. Шкадуючы Паўла, я стаў апекаваць Лявона, адчайнага хлопца, заядлага галубніка і сабакара, каб не звёўся род Уласевічаў. Апроч мяне адукаваным хлопцам быў яшчэ вучань Віленскай тэхнічнай школы Міша Жураўлёў. Сірата, сын рускіх эмігрантаў, здольны матэматык, вучыўся пры Польшчы на сродкі нейкага фонду. У Вільні пасябраваў з вучнямі беларускай гімназіі і ў кастрычніку 1939 года пераехаў у Наваградак пад выглядам вучня гэтай гімназіі. Гэта быў разумны, вясёлы, дружны хлопец. Валя яго не ведала, даведаецца пра яго пазней. У блакаду, летам 1943 года, паранены ў шыю, захоплены карнікамі недзе тут, ля Вялікай Слабады, ён мужна стаяў на эшафоце ў Турцы. Апошнія яго словы, кінутыя з-пад шыбеніцы: «Усіх не перавешаеце. Нас многа. Смерць акупантам!» — сувязная пачуе ад сяброўак-настаўніц і перадасць нам.

Так, я, бадай што, адзіны з Валіных знаёмых, мог на сваім вопыце параўноўваць, як і яна, два светы, іх плюсы і мінусы, два спосабы жыцця паводле адрознасці і падобных ідэалаў, розныя пазіцыі ў сусветным ваенным канфлікце.

Мы былі шчырымі ў размовах і шчырасць дапамагала нам разблытваць цяжкія супярэчлівасці часу і матывацыі сэнсу быцця, праясняць свае адносіны да яго. У парыве шчырасці Валя адкрыта сказала, што звязана з атрадам Міцькі, выконвае заданні, ходзіць у гарнізоны Турца, Міра і Карэліч.

Няцяжка было ўявіць, што гэта азначала. Мне рабілася сцішнавата, калі я думаў, ці змог бы паслаць гэтае ўсмешлівае дзяўчо ў паліцэйскія логавы. Ажывала ў памяці трагедыя Зіны Маслоўскай, Лёвы Васілеўскага, Валодзі Балабановіча. Міцькаўцы ж Валянціну пасылалі... А яна хадзіла, як натхнёная, верачы ў сваю праваду і несмяротнасць ды й шчырасць сваіх сяброўак і сяброў, знаёмых, што жылі ў гарнізонах і мелі асабістыя повязі з гарнізонным і валасным начальствам, былі дапушчаны да аператыўных сакрэтаў жандармерыі і адміністрацыі ў раёнах і абласцях. Галоўным яе інфарматарам быў сакратар гарнізона Збойчык. Валя перадавала мне здабытыя там звесткі, лёгка называла прозвішчы сваіх інфарматараў, часам мяне сцінала страхам за магчымасць лішняй даверлівасці, якую я сам дапусціў на пачатку лета. Як умеў, папярэджваў Валю, упрошваў, настойваў асцерагацца, не выпрабоўваць шчасця і ўдачлівасці там, дзе трэба ўмець узважваць або і абысціся без тое, рызыкай здабытае інфармацыі. Але не ўдавалася пераставіць яе з ахвярнага ідэалізму на прагматызм. У мяне прыбавілася яшчэ адна трывога на душы. Усяго, што я напэўна зрабіў для яе бяспекі, дык тое, што не стаў даваць ёй паралельных заданняў, бо ведаў, што іх яна будзе выконваць з двайною рызыкай, а то і любою цаной...

І вось мы трухалі з Косцем па скрыпучым снезе на Пратасову сялібу.

Не спалі ўжо ў хаце, рухаліся апранутыя ў смушкі Васіліса і стары Пратас. Неўзабаве з-за дзяружкі, што засланяла Валін ложак, паказалася і яна — у зімовым паліто і валёнках. Усміхаючыся, працірала заспаныя вочы, як малое кацяня.

Тою раніцай Валя была трывожнай, нібы ўсё ў яе душы трымцела, як у азартнага гулякі-рызыканта. Паклікала Васілісу і папрасіла хуценька зрабіць нам сняданак. Нейк вельмі адкрыта цягнулася яна да нас, устрывожана радая нечаканым з'яўленнем. Ёй хацелася абагрэць ля нашай мужчынскай упэўненасці растрывожаную нечым душу. Нам трэба было пабыць сам-насам.

Я ведаў ужо і пра новую таямнічую трагедыю, якая разыгралася тут, ля Пратасовага хутара, у пачатку зімы. Загінуў «Белы» Міцька. Труп яго Валя знайшла на падворку, стрэлаў не чула. Нехта нежывога сюды прывёз. Хто? Заставалася загадкай. У такіх выпадках паяўляюцца міфы, прыдумкі, якія зацямняюць справу. Практычныя людзі пусціліся гадаць-меркаваць па прынцыпе, каму замінаў «Белы» Міцька, і вырашылі, што Міцьку-казаку. «Белы» Міцька быў інтэлігентным масквічом, прыгожым, абаяльным афіцэрам. Белакуры, блакітнавокі акружэнец правёў першую ваенную восень і зіму ў Вялікай Слабадзе, стаў любімцам моладзі, а пад восень пачаў ствараць атрад. І да яго ішлі мясцовыя дзецюкі, нягледзячы на тое, што ў партызанаў не было пэўнасці, ці ўдасца перажыць зіму. Да Міцькі-казака так густа не ішлі, бо яго менш ведалі, не так давяралі, нават пабойваліся: жорсткі. І вось «Белы» Міцька загінуў. Смерць гэтую стваральнікі міфаў падвялі пад біблейскую прытчу пра Каіна і Авеля. Каін забіў брата за тое, што таго, сціплага, больш любіў Бог, нават дым з Авелевага ахвярніка ішоў проста ў неба і не грыз вочы Богавы, а з ахвярніка зайздроснага Каіна дым слаўся па зямлі.

Валя не прымала такой версіі. Яна сімпатызавала інтэлігентнаму «Беламу» Міцьку, апякала яго, але не магла дапусціць, што такога чалавека змог забіць Міцька-казак. Праўда, ён забраў усіх партызан «Белага» Міцькі ў свой атрад. І быў бязлітасны, мог застрэліць вартавога, не будзячы, калі той заснуў на пасту. Так загінуў малодшы брат камандзіра ўзвода Шавейкі. Затое параненага ў баі брата начальніка асобага аддзела атрада Міколы Шэўкі з Заполля сам хадзіў выкрадаць з Карэліцкай бальніцы, куды яго паклалі паліцаі з намерам тэрарызаваць брата.

Не ўспаміны аб трагічнай смерці Міцькі «Белага», як аказалася, трывожылі Валю цяпер. Трывогу яна прывезла ўчора вечарам з Турца. Улучыўшы момант, пажурыла мяне, чаму не заехаў вечарам: у Турэц прыбыла карная экспедыцыя на чале з начальнікам СД Баранавіцкай вобласці. Валя настойвала, каб адсюль мы не ішлі на Лядкі, а павярнулі ў абыход — на Новае Сяло. Я пажартаваў з нечаканай у Валі асцярожлівасці. Вяртаць абоз было позна. Але тут жа пачуліся цераз замураваныя марозам вокны ціхія кулямётныя чэргі недзе пад Лядкамі. Васіліса і стары Пратас не пачулі стрэлаў і запрашалі на сняданне. Пачаліся роспыты — што чуваць. Звесткі ў нас былі што трэба. Пад Сталінградам нашы заціскалі клешчы, у якія трапіла армія Паўлюса. Мы мелі радыёзводкі ад групы дэсантнікаў і ў сёлах былі добрымі вестунамі. Пад нашу гаворку запішчала нешта на патэльні, на хату пайшоў смачны дух. За сцяной, здалося, зноў нешта глуха затрашчала. Страляюць? Мароз?

— Міцькаўцы ў Браносаве, — растлумачыла Валя.

— Пайшлі, Косця, — настойваў я, але той марудзіў.

У хату ўбег задыханы Коля Буй:

— Хлопцы — айда, камандзір заве!

— Што там?

— Скажу потым, хутчэй за мною!

У такіх выпадках не да развітанняў. Можа, гэта і добра, так лягчэй...

Мы ўскочылі ў камандзірскі вазок і памчаліся ў кірунку Лядкаў на блізкія да сяла Пузяневіцкія хутары. Адтуль чулася глухая страляніна. Буй сцісла далажыў сітуацыю, як належала былому капралу польскага войска. Наша конная разведка наскочыла ў канцы Лядкаў на засаду, у вёсцы поўна немцаў і паліцыі, выбіваюць партызанскія сем'і. Усмешлівыя Косцевы губы сцялі тоўсты канчар самакруткі.

Косця трудна і люта перажываў смерць бацькі. Змяніўся яго ранейшы вясёлы нораў, часам ён траціў здольнасць упраўляць сабою і мне было боязна за яго і жаль было друга дзяцінства. Калісьці Севелева вясёлая, поўная хлопцаў хата была для мяне як бы прадаўжэннем нашай хаты, і наадварот. У Косцевага бацькі быў вясёлы нораў, рахманы характар, гасціннаю, руплівао і трапяткою была маці, цётка Надзя, а ўсе чатыры сыны мелі сяброў, былі кампанейскімі. Бацька жыў з сынамі запанібрат, дужаўся са старэйшымі, Колем і Додзем, правяраючы як яны растуць, набіраюць сілу, спяваў з усімі разам, жартам пытаючыся, як яму цягнуць — «чэмерам» ці басам? А яны адказвалі яму ў тон: «Цягні, бацька, басам, як свіння часам». І нічога. Мой бацька за такія жарты прыкрыкнуў бы так, што жартаўнік бы скіс, а ў іх — нічога. І паразганяла жыццё Севелевых сыноў: старэйшы, Коля, прызыўніком, замест у польскае войска, пайшоў за граніцу, у саветы, і прапаў там без вестак: наступны, Валодзя-Додзя, быў прызваны ў Чырвоную Армію ў сорак першым і служыў недзе ў блакадным Ленінградзе; два малодшыя сыны — Косця і Янка — былі ў партызанах. Не стала самога Севеля, не стала любімага бацькі. Нарадзілася тупая помслівасць, раней разважлівая смеласць рабілася дзёрзкаю, рызыканцкаю апантанасцю.

Паляваць на нашых бацькоў мірскі раённы камендант паліцыі пачаў у адначассі, восенню 1942 года, пасля таго, як мы не прынялі яго ультыматуму. Ён лічыў нас закапёршчыкамі партызанскага руху ў Наднямонні. Разважаў так: мы, адукаваныя, я — настаўнік, а Косця былы студэнт педвучылішча, абодва з багатых сем'яў, далі дрэнны прыклад моладзі і яна цягнецца за намі ў лес. Двойчы летам асабіста наведваў нашых бацькоў камендант, прасіў перадаць нам, каб выходзілі з лесу, і кляўсябажыўся, што дасць нам такія пасады, што не спатрэбіцца ўдзельнічаць у карных акцыях: «Нават ніякай зброі ў руках не будуць трымаць, карандашы ды пёры — вось гэта будзе іх зброя. Скажыце, навошта ім, культурным хлопцам, вошы карміць у лесе з галотай?» Пакуль мы былі пад Валожынам, у Чапаеўскім атрадзе, і прыходзілі ў свой бок толькі на чыгуначныя дыверсіі, бацькі збывалі каменданта адгаворкамі: «Хадзілі ў лес, шукалі, але нідзе не натрапілі. Партызаны з-за пушчы ішлі, то казалі, што пабілі нашых на Кромані латышы». Але калі мы стварылі свой атрад, камендант асатанеў, спаліў нашу вёску і суседняе Антанёва ў адпаведнасці з тактыкай Розенберга аб мёртвых зонах вакол лясных масіваў.

Перасяліўся тады Севель з жонкаю Надзяй да родзічаў у Буковічы, а мой бацька з малодшым сынам Жэнем да свае замужняе дачкі Марусі Коржык у Вобрыну. Напад на іх быў зроблены ў адзін дзень. Косцевага бацьку заспелі і застрэлілі ў Буковічах за гумном, а майму пашэнціла — адлучыўся. Пайшоў да родзічаў у Скорычы падаваць збожжа ў цапы малатарні. Бацька быў дока ў гэтай справе, меў жа сваю конную малатарню, сячкарню, арху і ўсякі іншы інвентар. А цяпер што расцягнулі, што пагарэла. Маруся зманіла паліцаям, якія прыйшлі па бацьку, сказала, што пайшоў на папялішча, у Сіняўскую Слабаду, выграбаць цвікі з попелу, каб не паржавелі.

Камандзір атрада Андрэй Саятэвіч асабіста забраў яго, шасцідзесяцігадовага дзеда, у атрад. Я аказаўся шчаслівчыкам у параўнанні з Косцем і адчуваў сябе перад ім як бы вінаватым...

Такая ўжо кроўная была наша дружба, што я лавіў сябе на пачуцці віны з-за таго, што мой бацька Андрыян жывы, а ягоны Севель забіты паліцаямі. Розум гаварыў, што розніца тут ёсць, але не на доўга: ніхто з нас не спадзяваўся дажыць да перамогі, усе мы адчувалі сябе прыпісанымі да замагільнага свету, як герой той песні, што з надрывам спявалі акружэнцы-ўсходнікі:

**Ой, умру я умру-у, похоронят меня,**
**И родные не узнают, где могила моя.**

*/Далей будзе/*


**ЛіМ** ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

**Заснавальнікі:**
**Саюз пісьменнікаў Беларусі**
**і Міністэрства культуры і друку**
**Рэспублікі Беларусь**

**Выходзіць з 1932 года**

*Газету рэдагавалі*

| | |
|---|---|
| Х.Дунец | (1932–35) |
| І.Гурскі | (1935–41) |
| А.Куляшоў | (1945–46) |
| М.Горцаў | (1947–49) |
| П.Кавалёў | (1949–50) |
| В.Вітка | (1951–57) |
| М.Ткачоў | (1957–59) |
| Я.Шарахоўскі | (1959–61) |
| Н.Пашкевіч | (1961–69) |
| Л.Прокша | (1969–72) |
| Х.Жычка | (1972–76) |
| А.Асіпенка | (1976–80) |
| А.Жук | (1980–86) |
| А.Вярцінскі | (1986–90) |

**Галоўны рэдактар**
**Мікола ГІЛЬ**

**РЭДАКЦЫЙНАЯ РАДА:**

Святлана БЕРАСЦЕНЬ
Андрэй ГАНЧАРОЎ
*першы намеснік галоўнага рэдактара*
Юрась ЗАЛОСКА
Міхась ЗАМСКІ
Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ
Барыс ПЯТРОВІЧ
*намеснік галоўнага рэдактара*
Юрась СВІРКА

**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**
220600, ГСП, Мінск,
вул. Захарава, 19

**ТЭЛЕФОНЫ:**
прыёмная рэдакцыі *332-461*
намеснікі галоўнага рэдактара *332-525, 331-985*
аддзелы:
публіцыстыкі 332-525
пісьмаў і грамадскай думкі *331-985*
літаратурнага жыцця *332-462*
крытыкі і бібліяграфіі *332-204*
паэзіі і прозы *332-204*
музыкі *332-153*
тэатра, кіно і тэлебачання *332-153*
выяўленчага мастацтва і аховы помнікаў *332-462*
навін *332-462*
мастацкага афармлення *332-204*
фотакарэспандэнт *332-462*
бухгалтэрыя *268-640*





**Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах**
**Друкарня "Беларускі Дом друку"**

**Індэкс 63856. Наклад 17.000.**
**Нумар падпісаны 5.05.1994 г.**

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12


# Іосіф ВАСІЛЕЎСКІ

20 красавіка 1994 года на 83-м годзе жыцця пасля цяжкай і працяглай хваробы памёр пісьменнік Іосіф Васілеўскі.

Іосіф Іосіфавіч Васілеўскі нарадзіўся 8 снежня 1911 года ў г. Данецку. У 1922 г. разам з бацькамі пераехаў на Беларусь. Пасля заканчэння тэатральна-драматычных курсаў у Мінску працаваў акцёрам БДТ-2 у Віцебску. У 1933 г. прызваны ў Чырвоную Армію. З 1937 года працаваў акцёрам, па сумяшчэнні загадваў літаратурнай часткай, займаўся рэжысёрскай работай у тэатрах Смаленска, Жытоміра, Бранска, Калугі і інш.

Першы верш быў надрукаваны ў 1931 годзе ў часопісе «Маладняк». У розныя гады выйшлі ў свет кнігі паэзіі «В добрый час», «Родное раздолье», «Лирика», «День за днем», «Пальмы и сосны», «Диковины», «Призадумалась река» і інш.

У яго перакладах з беларускай на расейскую мову выйшлі: зборнік песень «Хоры а капелла», зборнік вершаў М.Хведаровіча «Кленовый сок», казка А.Якімовіча «Коваль-Вернидуб». Сумесна з кампазітарам І.Кузняцовым напісаў п'есу-аперэту «Новая пристань».

Светлая памяць пра Іосіфа Іосіфавіча Васілеўскага, пісьменніка, добразычлівага чалавека, шчырага працаўніка на ніве культуры, назаўсёды застанецца ў нашых сэрцах.

**САЮЗ ПІСЬМЕННІКАЎ БЕЛАРУСІ**



## РАЗВІТАННЕ

*Памяці Іосіфа ВАСІЛЕЎСКАГА*

**Бывай назаўсёды, мой дружа!..**
**Ты знічкаю знік назаўжды...**

**Засохлі пунсовыя ружы**
**Без сонца, паветра, вады...**

**Тужлівы твой лёс мне знаёмы:**
**Ляжыш ты —**
**Не топчаш траву.**
**Ты — вечны вандроўнік**
**без дому —**
**Высока трымаў галаву.**

**І вось абарваліся сцежкі...**
**Цябе напаткаў твой прычал.**
**Цяпер ты у вечных начлежках,**
**Ніколі якіх не страчаў.**

**Цябе непакоілі войны**
**І лёсы гаротных людзей.**
**Цяпер спачываеш спакойна**
**Ўбаку ад грымучых падзей.**

**А я, як раней, ўсё ваюю**
**З бязладдзем і брудам людскім.**
**Штодзень па табе ўсё сумую,**
**Нібыта па дзецях бацькі...**

**Павел ПРУДНІКАЎ**

